18 верасня 2015 | № 35 (452)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Бомба пад Патсдам

стар. 11



# Бывай, наш Кароль!

## Ты застанешся ў сваіх справах і нашых сэрцах

Аксана КОЛБ

**Нават і падумаць не магла, што мне давядзецца гэта пісаць: 12 верасня 2015 года адышоў у лепшы свет Аляксей Кароль — чалавек вялікага сэрца і цёплай душы!**

Яшчэ нядаўна мы абмяркоўвалі газетныя справы. І вось усё... Яго няма. Няма каму пахваліць мяне за добры артыкул. Ці наадварот, сказаць: «Ведаеш, ён нейкі сухі»...

Ён больш не скажа, падвозячы да метро: «Дзякуй вам, дзяўчаткі, за працу сёння!» Больш не патэлефануе ў нядзелю ці позна вечарам, каб спланаваць наступны нумар ці абмеркаваць чыйсьці артыкул. Ён наогул больш не патэлефануе... Ніколі...

Кожнае з гэтых слоў даецца з болем і паліваецца слязьмі. Але ніякімі словамі не перадаць, як крыкам крычыць душа ад незваротнасці лёсу. Наш Кароль больш не адчыніць дзверы і не асвеціць наш маленькі офіс сваёй шчырай усмешкай.

У кожнага з нас свае ўспаміны пра Аляксея, такога блізкага для кожнага з нас.

Я пазнаёмілася з Аляксеем 20 гадоў таму. Восенню 1995 года, калі ён балатаваўся ў Вярхоўны Савет. З задавальненнем стала сябрам яго выбарчай каманды. Пасля з такім жа задавальненнем стала сябрам каманды газеты «Згода». А пасля і каманды «Новага часу». Ён нешта разгледзеў ува мне, фактычна прывёў у журналістыку, зрабіў з мяне рэдактара.

Мы шмат праз што прайшлі разам: рэдкія выхады газеты і адсутнасць заробкаў, папярэджанні, штрафы, закрыццё, допыты ў КДБ; а потым заззяла сонейка — пачаўся наш «Новы Час». Газета была справай яго жыцця, ён вельмі яе любіў і вельмі ёй ганарыўся. А яшчэ ён вельмі любіў нас — усіх тых, хто рабіў газету, працаваў на сайце. І, спадзяюся, вельмі намі ганарыўся.

А мы вельмі любілі яго, нашага Караля! З ім было лёгка і ўтульна, як не будзе ўжо ніколі...

Але «Новы Час» будзе выходзіць, дарагія нашы чытачы! Столькі, на колькі хопіць нашых магчымасцяў і вашага жадання быць з намі. Мне б вельмі хацелася напісаць, што «Новы Час» застанецца такім жа. Але гэта няпраўда. Вы больш ніколі не зможаце прачытаць на нашых старонках разважлівыя і ўдумлівыя артыкул Аляксея Караля.

Таму ў гэты нумар мы падабралі, для вас, шаноўныя чытачы, колькі артыкулаў нашага галоўнага рэдактара. Артыкулы былі надрукаваныя ў розныя часы, але не згубілі актуальнасць і дагэтуль.

Гэты нумар, не крыўдуйце, паважаныя чытачы, мы прысвячаем найлепшаму галоўнаму рэдактару — Аляксею Каралю. Хаця ён бы гэта і не ўхваліў. Ён не любіў пільнай увагі да сваёй асобы. Але, прабач, Аляксей, употай ад цябе, гэты нумар мы ўсё ж зробім толькі пра цябе. Усяго толькі адзін. Гэта тое нямногае, чым мы можам табе адплаціць за вялікае шчасце сустрэцца з табой яшчэ ў гэтым жыцці.

**Бывай, наш Кароль!**

**Развітанне з Аляксеем Каралём адбудзецца 25 верасня з 14.00 да 16.00 у Мінску, у Палацы мастацтваў (вул. Казлова, 3). Пасля прах галоўнага рэдактара «Новага Часу» будзе пахаваны на Паўночных могілках.**



# Анёлы не паміраюць:

## Бывай, любімы Сцяпанавіч…

Навіна, якую паведаміла мне намесніца галоўнага рэдактара нашай газеты Аксана Колб, звалілася на галаву нібы бомба. Не стала нашага Аляксея Сцяпанавіча. Немагчыма казаць і пісаць пра гэтага светлага Чалавека, што ён «быў».

Сцяпанавіч, дарагі, вы не былі, вы ёсць з намі. У галаву не ўкладаецца толькі адно, што мы ніколі ўжо не ўбачымся, прынамсі, на гэтым свеце. Вы былі самым лепшым галоўным рэдактарам, які ніколі не павышаў голас на падначаленых, ды і мы, журналісты «Новага Часу», ніколі не адчувалі сябе падначаленымі.

Вы вельмі разважлівы і мудры. Таму праца ў ачоленай вамі газеце і прыцягвала столькі таленавітых людзей, хоць «барышоў» на незалежным чыста беларускамоўным выданні ў нашых сучасных тутэйшых варунках не займееш. Вы нібы магніт, які прыцягвае таленты.

Гэтая паскудная хвароба, выкліканая, без сумневу, Чарнобылем, а таксама нервамі, выдаткаванымі вамі ў розных судовых працэсах супраць вашых выданняў, вырвала вас з зямнога жыцця. Але гарантавана, што Усявышні дасць вам вечнае жыццё — Нябеснае. Інакш і не можа быць, калі гаворка ідзе пра такіх людзей, як вы, Аляксей Сцяпанавіч.

Толькі нядаўна ўсім калектывам мы адзначылі ваша сямідзесяцігоддзе. Было весела, смачна і гаманліва. Вы, Сцяпанавіч, выглядалі цудоўна, хоць было вядома пра цяжкую хваробу, якую вы спрабавалі перамагчы. Але ніхто ў самым жахлівым сне не мог сабе уявіць, што злы рок забярэ вас у нас так хутка, яшчэ да пачатку бабінага лета.

Мы развітваемся з вамі, дарагі наш Сцяпанавіч, з пачуццём удзячнасці за магчымасць працаваць разам з вамі. З пачуццём удзячнасці і за вашу дабрыню і за ваша вялікае сэрца. За ваш талент як навукоўца і журналіста, як разумнага, ветлівага і непаўторнага кіраўніка рэдакцыі.

Я схіляю перад вамі галаву, шаноўны мой Сцяпанавіч, дзякуй за ўсё! А нам цяпер застаюцца толькі слёзы. І светлая памяць пра вас, дарагі Чалавек! Валадарства нябеснае, любімы наш…

**Генадзь Кеснер**

## Страта для суверэннай Беларусі

Адыход у вечнасць светлай памяці Аляксея Караля — вялікая страта для суверэннай Беларусі. Для мяне асабіста сыход Аляксея Сцяпанавіча — балючая страта.

Высока цаню яго перад усім як гісторыка. Гэта спадар Аляксей вярнуў нам добрае імя Усевалада Ігнатоўскага, славутага гісторыка і палітыка, па падручніку якога пазнавала гісторыю моладзь 20-х гадоў мінулага стагоддзя ў час актыўнага станаўлення беларусаў як нацыі, якое тады інтэнсіўна адбывалася ў савецкай і падпольскай Заходняй Беларусі.

Аляксей Кароль шмат зрабіў для станаўлення ў постсавецкай Беларусі дэмакратычнага перыядычнага друку. Спачатку заснаваў і выдаваў газету сацыял-дэмакратаў «Згода», цягам года пераадольваў бюракратычныя прыпоны, каб адкрыць заснаваную Кастусём Тарасавым газету «Новы Час». Патрапіў зрабіць яе аўтарытэтным выданнем. Найбліжэй мы сышліся з Аляксеем Каралём за перыяд яго рэдагавання гэтай газеты: сустракаліся, гаварылі. Пераканаўся, які гэта светлы быў чалавек, шырока арыентаваны ў грамадска-палітычных і культурных рэаліях, аб'ектыўны ў ацэнцы людзей.

Ці не галоўная рыса яго характару — быў дзейны і плённы ў сваёй працы. Сардэчнай дабрыні чалавек. Адданы сын свайго народу. Глыбока зацікаўлены ў яго дэмакратычнай будучыні, нацыянальнай незалежнасці, беларускай дзяржаўнасці. Толькі ў іх бачыў перспектыву поўнага раскрыцця духоўнага, творчага патэнцыялу свайго народа.

Схіляю галаву перад памяццю і выказваю глыбокія спачуванні родным і блізкім спадара Аляксея.

**Арсень Ліс**

## Аляксей Кароль у момантах майго жыцця

Добра памятаю, як я, будучы студэнткай другога курса журфаку, упершыню прыйшла на офіс «Новага Часу». Ісці на сустрэчу з Аляксеем Сцяпанавічам было страшна — каленкі трэсліся, а сэрца стукала так, што падавалася, зараз выскачыць з грудзей.

Дагэтуль у мяне быў кепскі досвед камунікацыі з рэдактарамі. У дзяржаўных СМІ я пісала пра працу БРСМ, а пасля слухала заўвагі наконт кепскай якасці сваіх тэкстаў. Таму, калі ішла на гутарку з Аляксеем Сцяпанавічам, я была гатова да ўсяго. Ён падаўся мне справядлівым з першых жа сваіх слоў: «Ты можаш пісаць сюды пра што захочаш, не зважаючы на ідэалогію. Хочаш — пішы пра БРСМ. І з якога боку пра яго напісаць — справа твая».

Памятаю, як я перажывала з-за свайго першага тэксту, які пісала для «Новага Часу». Натуральна, хацелася напісаць добра. І нават зараз я бачу перад вачыма паведамленне Аляксея Сцяпанавіча, якое атрымала ў адказ на дасланы тэкст: «Дзякуй, Віка. Аператыўна і якасна». Першы раз у жыцці мая пісаніна была адзначана.

Аляксей Сцяпанавіч умеў натхняць. Калі я толькі прыйшла ў НЧ, то марыла пісаць пра літаратуру. І аднойчы пра гэта прагаварылася рэдактару. Ён тут жа даў мне заданне — схадзіць на літаратурную імпрэзу і напісаць пра яе. Я махаю рукамі, зажмурваю вочы: «Не, не трэба! Я ж нічога ў гэтым не разумею!». Ён тады сказаў: «Не трэба баяцца. Калі будзеш баяцца, у цябе нічога не атрымаецца».

Аляксей Сцяпанавіч ніколі нічога ад мяне не патрабаваў. З першага ж дня супрацоўніцтва ён сказаў: «Ты — студэнтка. Будзе час — пішы. Патрабаваць мы ад цябе нічога не будзем». Слова ён стрымаў. Я магла «знікнуць» на месяц, два… І ў гэты час падавалася: «Ну ўсё, ён расчараваўся ўва мне, я не апраўдала яго давер…» І нечакана ён тэлефануе. Я, затаіўшы дыханне, падносіла слухаўку, чакаючы пры гэтым, як зараз буду выслухоўваць усю горкую праўду пра сябе… А пасля чую яго перманентна спакойны голас: «Прывітанне, Віка. Сёння тут адна прэзентацыя будзе. Не хочаш схадзіць і напісаць?». Я радасна выпальваю: «Канечне» і лячу па ўказаным адрасе. Знікала я і падчас сесіі. Тады Аляксей Сцяпанавіч проста тэлефанаваў і цікавіўся, як там мае іспыты. Калі нешта здавала кепска, ён смяяўся і казаў: «Ну нічога страшнага! Затое ты добра пішаш!». Не ціснуў ён і тады, калі мела асабістыя перажыванні, праз што таксама не магла пісаць. Памятаю, забегла неяк да яго дадому. Як толькі пабачыў мяне, адразу ж усклікнуў: «Віка! Як ты расквітнела! Закахалася?» Я пачырванела і апусціла галаву. Аляксей Сцяпанавіч пасмяяўся і сказаў: «Што ж, малайчына! Давай, бягі ўжо да свайго каханага. Пэўна ж на вуліцы чакае?» І пасля гэтага ён працягваў цярпліва чакаць мяне і верыць.

Пра тое, што Аляксей Сцяпанавіч хворы, я даведалася, калі аднойчы зазірнула да яго і пабачыла з паголенай галавой. Я вырашыла пажартаваць: «Што гэта Вы, Аляксей Сцяпанавіч, пад братка вырашылі касіць?». Ён пасмяяўся і сказаў: «Дык у мяне ж рак лёгкіх». Маўчанне. «Але цяпер ужо ўсё добра», — пачаў супакойваць ён. А я памятаю, што доўга тады тупала туды-сюды ў яго прыхожай, не могучы нічога ні вымавіць, ні сысці. Звычайна ў такіх сітуацыях хочацца пашкадаваць. Але Аляксея Сцяпанавіча я не магла шкадаваць, бо ведала, што ён проста гэтага не пацерпіць. Ён жа Кароль. А каралёў не шкадуюць. За іх моляцца. Таму я проста казала: «Я з вамі. А Вы ў маіх малітвах». Адвярнулася і пабегла спускацца ўніз, каб толькі ён не пабачыў маіх перажыванняў. Аляксей Сцяпанавіч раптам стаў сур'ёзным і праводзіў мяне поглядам да таго моманту, пакуль я не выйшла з пад'езда.

Заўжды перад тым, як спытаць у яго: «Як Вашае здароўе?», я адчувала ком у горле. Я не ведала Аляксея Сцяпанавіча блізка, але мне падавалася, што яму не падабалася, калі з ім заводзіш гутарку пра здароўе. На маё пытанне пра самаадчуванне, ён заўжды весела адказваў мне адно і тое ж: «Ну паглядзі на мяне! Няўжо бачна, што я хворы?». Я глядзела на напоўненыя жыццём вочы, шырокую ўсмешку і адмоўна матала галавой. Я не верыла ў тое, што ён можа быць хворы.

Апошні раз мы бачыліся на яго юбілеі. Чамусьці зараз я ведаю дакладна — ён адчуваў, што яго дзень нараджэння — апошняя магчымасць сабрацца ўсім разам за адным сталом. У мяне якраз была сесія. Добра памятаю, што я не дачакалася дэсерту — сціпла падышла да яго і развіталася, бо трэба было ісці дадому рыхтавацца. «Ён жа ў коле сябровў, — падумалася тады мне, — і мой адыход будзе незаўважны». Аднак ён прасіць застацца. Я адмоўна матаю галавой. Ён паўтарае сваю просьбу. Але трэба бегчы. Да таго, ж не апошні раз жа бачымся. Але інтуіцыя падвяла.

У першыя дні верасня я ляцела на офіс «Новага Часу». Хацелася абняць любімага рэдактара, падзяліцца з ім пэўнымі перажываннямі і запытацца парады. І тут я даведалася, што ён у лякарні ў Сінгапуры цэлае лета. Тады ўва мне нешта абарвалася ўнутры. Як так? Раптам стала сорамна за сваё летуценнае стаўленне, за няварты адказ на любоў да мяне. Я напісала яму смс са звыклымі ўжо для нас словамі: «Я з Вамі. А Вы ў маіх малітвах». І самае цікавае, што ён адказаў. Я не ведаю, у якім ён быў тады стане, але апошнія словы ў яго паведамленні былі наступныя — «Я вытрымаю».

Гэта было за тыдзень да яго смерці. І зараз варта павыцягваць з глыбокіх кішэняў усё тое, чаму нас навучыў Кароль, бо я ўпэўнена, што ўсе тыя, хто быў з ім знаёмы, зараз могуць сказаць: «Калі б не Кароль, я б не меў таго жыцця, які маю зараз». Не ўмела б я таго, што ўмею зараз, калі б не Аляксей Сцяпанавіч. Але менавіта зараз, сваім адыходам ён дае ўсім апошні ўрок. Кагосьці яго адыход навучыць больш любіць, кагосьці — больш дзяліцца лепшым з іншымі, кагосьці — больш сумлення і якасна пісаць, а кагосьці — больш аддаваць моцы на працу дзеля сваёй краіны.

**Вікторыя Чаплева**

## Асоба, накіраваная ў будучыню

Пачатак нашага супрацоўніцтва 16 гадоў таму выпаў на цікавы этап гісторыі айчыннай журналістыкі, калі машынкі для друку ўжо сышлі, а кампутары яшчэ лічыліся ледзь не катэгорыяй прадметаў класу люкс. Каб здаць матэрыял у «Згоду», часта прыходзілася пешкі цягнуцца на Крапоткіна, каб перавесці напісаны ад рукі тэкст у «вордаўскі» фармат. Такія рэйды, чаканне сваёй чаргі каля кампутара, доўгае тыканне пальцам у клавіятуру дазволілі дастаткова хутка інтэгравацца ў калектыў, каб з часам проста не ўяўляць сябе без гэтых людзей і атмасферы, якую стварыў рэдактар «Згоды».

Каралёўскі менеджмент і рэдакцыйная культура «Згоды» і «Новага Часу» — гэта нешта ўнікальнае. У яе цэнтры, безумоўна, знаходзіўся сам рэдактар, адносіны якога з супрацоўнікамі звонку можна было назваць хутчэй сяброўскімі, чым падпарадкаваныя нормам карпаратыўнай этыкі. Камунікацыя з рэдактарам заўсёды значыла для нас атрыманне пазітыву ад размовы, нават калі тэма была не занадта вясёлай.

Промні пазітыўнай энергіі рэдактара неякім чынам перадаваліся на адносіны паміж журналістамі. У выніку паўставала незвычайная форма датычнасці да праекту як да чагосьці вельмі роднага і каштоўнага. Такой ступені калектыўнай салідарнасці, як у рэдакцыі Караля, я не сустракаў ніколі, хаця даваліся пабачыць шмат чаго.

Усё апісанае вышэй дзіўным чынам упісвалася ў працоўны графік штотыднёвіка, дзе Кароль таксама цягнуў вялікі пласт тэхнічнай працы. Гэта без уліку шматлікіх «гемарояў», якія яму рэгулярна падкідвала любімая ўлада. Неадназова ўсё выдала сведчыла пра няўхільны капут. Аднак пасміхаючыся сваёй славутай усмешкай Кароль не толькі вырашаў «касяк», аднак умудраўся і далей развіваць свае праекты. І тут, натуральна, мы закранаем не вельмі вясёлы момант, калі такія моцныя, валявыя, накіраваныя ў будучыню асобы, як Аляксей Кароль, аказаліся з-за палітычнай кан'юктуры незапатрабаванымі дзяржавай.

Не ведаю, ці ставіў Кароль для сябе гэта пытанне і чым кампенсаваў… Для тых, хто працаваў з ім, мяркую, усё прасцей. Прынамсі, я ведаю, што ёсць рэчы больш важныя за пасады і грошы. Гэта такія якасці, як дабрыня, аптымізм, якімі валодаў Аляксей Сцяпанавіч Кароль, памяць пра якога заўсёды будзе прымушаць нас ісці далей.

**Алег Новікаў**

## Мне ёсць за што быць яму ўдзячным

Не дачакаўся Аляксей Сцяпанавіч надыходу новага часу ў нашай краіне, сышоў… А я ўжо не змагу выказаць яму сваю ўдзячнасць, хіба што тут, на старонках яго газеты.

Мне ёсць за што быць яму ўдзячным. Мая праца ў «Новым Часе» пачалася з арышту. У «Новы Час» я прыйшоў працаваць вясной 2013 года, і літаральна адразу ж быў арыштаваны на 10 сутак пад сценамі сумнавядомага ізалятара на Акрэсціна, дзе я сустракаў героя сваёй публікацыі. Перад выхадам на волю з ізалятара я не чакаў, што мяне будзе сустракаць яшчэ хто-небудзь, апроч маіх родных. Але разам з імі сустрэць мяне прыйшоў Аляксей Сцяпанавіч, які прыехаў на машыне, каб адвезці дадому. Пажартаваў, маўляў, «каб цябе зноў не схапілі».

Такое ўважлівае стаўленне да сябе я бачыў цягам усяго часу нашага супрацоўніцтва, на жаль, не вельмі доўгага. Нягледзячы на тое, што «зручным» падначаленым я ніколі не быў. Не ў стане быў працаваць рэгулярна, толькі на імпэце, а з пачаткам драматычных падзей ва Украіне заўсёды імкнуўся туды. Аляксей Сцяпанавіч глыбока ўздыхаў і адпускаў. «Едзь ужо, усё адно цябе не стрымаеш», — казаў на развітанне. Апошнім часам хвароба не шкадавала яго, але Кароль паспяваў паклапаціцца і аб тым, каб падаць на розныя конкурсы мае ўкраінскія матэрыялы. І без яго я не атрымаў бы тых узнагарод, якія атрымаў. Вялікі дзякуй, Аляксей Сцяпанавіч!

Ёсць усім нам добра вядомы тып беларускага кіраўніка — нахабны, хамаваты, крыклівы, які заўсёды кіруецца правілам «я — начальнік, ты — дурань». Дык вось, Аляксей Сцяпанавіч быў поўнай супрацьлегласцю гэтаму тыпу. Спакойны, разважлівы, дыпламатычны, ён на роўных размаўляў з падначаленымі, без крыку і спробаў прынізіць. Хутчэй раіўся, чым загадваў, шчыра цікавіўся пунктам погляду суразмоўцы, а не імкнуўся навязаць свой. Без яго рэдакцыя ў значнай ступені асірацее. І як жа бракуе кіраўнікоў з такімі якасцямі Беларусі!

Спачывайце спакойна, Аляксей Сцяпанавіч. А мы застаемся тут чакаць новага часу.

**Зміцер Галко**

***

Шаноўныя сябры і родныя Аляксея!

Няма словаў выказаць жальбу… Гэта быў (а для мяне застанецца і застанецца) найлепшы Чалавек. Страцілі ўсе. Перадусім родныя і блізкія. Слухачы, чытачы, беларуская інтэлігенцыя, Беларусь, якой ён быў неабходны.

Спі спакойна Аляксей. Хай прыме цябе неба…

**Сяргей Гваздзёў**

***

Невыносны жаль і смутак у сувязі са стратай дарагога Аляксея Сцяпанавіча Караля. Святло яго душы і розуму будуць з тымі, хто ведаў яго. Хай неба расчыніць святыя вароты для гэтага дарагога ўсім чалавека і вернага сына Радзімы.

**Ала Кажэра**

## A Deo rex, a rege lex

Не збіраўся пісаць, бо не майстра некралогаў, тым болей блізкім людзям іх звычайна не пішуць. Пару месяцаў таму на ўрачыстай імпрэзе ў 70-годдзе Караля мы збольшага паспелі сказаць шэфу добрыя словы. І не таму, што было прадчуванне, якраз наадварот, здавалася: усё ёсць, усё адбылося.

Мы стварылі лепшы (прынамсі за апошнія некалькі год) тыднёвік Беларусі. Працавалася добра, бо пры Каралі мы, прабачце за труізм, не былі світай. Мы былі прынцэсамі і прынцамі, кожны сам годны, са сваёй галавой, а разам — нават не адзінадумцы, бо ў кожнага свой погляд на жыццё і свой досвед, а каманда.

Мне няма патрэбы паўтарацца, бо шмат хто ўжо трапна сказаў. Дадам толькі тое, што, больш дасведчаны ў журналістыцы, шэф ствараў атмасферу роўнасці, у якой натуральным чынам усе ўздымаліся наверх. Часам я казаў яму — навошта так багата даваць заданняў таму-сяму маладому карэспандэнту, гэта ж кампіляцыя, інтэрнэт, г.д. Кароль асабліва не пярэчыў, звычайна трошкі пасміхаўся: «А ты сам больш і лепш зрабі», і не спыняў маладых ды ранніх. А яны паступова і ўпэўнена раслі. Такі вось інкубатар.

І яны, карэспандэнты, і газета, выйгравалі нейкую неверагодную колькасць конкурсаў. Пры тым што плацілі ім на парадак менш, чым «атрымліваюць» (а не зарабляюць) у дзяржаўных прапагандысцкіх выданнях. Відаць таму, што працаваць, калі ты сам шануеш сваю думку і перакананні, і калі іх не бэсціць кіраўніцтва — вялікая прыемнасць. Спадзяюся, гэты падыход дапаможа «Новаму часу» захавацца, застацца як памяць Аляксею Каралю.

Вось і выдыхнуўся тэкст спакойна, у папярэднія дні было цяжка. Сваякам — мужнасці трымацца.

**Аляксей Хадыка**

# Памяці Аляксея Караля

## Жыццё без скаротаў

Менш за ўсё мне сёння хочацца пісаць некралог. Але як яшчэ назваць тэкст, нагода для якога — смерць шэфа, калегі, дарагога чалавека? Я сапраўды не ведаю, што атрымаю на выхадзе, калі сядаю пісаць гэтыя радкі. Ёсць рызыка, што гэта будзе некралог, які падрывае любыя законы некралогу. Прынамсі, такая мая манера пісаць і сталася прычынай, па якой я пазнаёмілася з Аляксеем Каралём.

Я пазнаёмілася з Аляксеем Каралём напачатку 2007 года. Ён прызначыў сустрэчу ў кавярні «Салодкі фальварак». Літаральна напярэдадні ўлады зачынілі «Згоду», а выхад газеты «Новы Час» яшчэ афармляўся юрыдычна, таму ніякага офісу не было, але Аляксей Сцяпанавіч не сядзеў на месцы, а набіраў новую каманду. Ён прачытаў некалькі маіх матэрыялаў для моладзевага рэсурсу «Позірк», і патэлефанаваў.

Мне было 25, я вяла дзёрзкі блог, які збіраў вялікую аўдыторыю; у Беларусі быў медыйны бум, здавалася, што ўсе рэдактары краіны мусяць выстройвацца ў чаргу, каб прапанаваць мне працу. Магчыма, так і здарылася б, але Кароль патэлефанаваў першым. Ён літаральна ў трох сказах выклаў фармат і канцэпцыю выдання «Новы Час» — і я, не раздумваючы, пагадзілася пісаць пра культуру для абноўленай газеты. Прайшло ўжо амаль дзевяць гадоў — і не было дня, каб я пашкадавала пра гэта. Наадварот — даволі хутка я зразумела, што тое тэлефанаванне было шчаслівым латарэйным білетам. І я ўдзячная лёсу, што мела час і нагоду шматкроць сказаць пра гэта Аляксею Сцяпанавічу.

Калісьці — ледзь не ва ўніверсітэце — я напісала артыкул і даслала ў адну газету. Рэдактар адпісаў мне заўвагі: «Ніколі не пачынайце лід з сябе, з уласнага досведу. Як асоба чытачу вы абсалютна нецікавая». Магчыма, у гэтым была нейкая сярмяжная праўда — пра аўтарскую журналістыку тады не ўсе чулі, — але Аляксей Кароль як рэдактар падкупляў абсалютна супрацьлеглым падыходам. Пабачыўшы нестандартнага аўтара — напрыклад, самаўпэўненую паненку, якая пачынае артыкулы «з сябе», — ён не спрабаваў зламаць яго (яе). Ён адразу пачынаў думаць, як скарыстаць гэта.

Я не ведаю, у якім іншым выданні, апроч НЧ, мог яшчэ працаваць Лёлік Ушкін пасля таго, як зачынілі газету «Навінкі». Або блогер Зміцер «Будзімір» Галко: як журналіст ён не змог прыжыцца ўвогуле нідзе, а для «Новага Часу» ў 2014 годзе напісаў шэраг рэпартажаў з перадавой Данбасу. Які б яшчэ рэдактар трываў супрацоўніка, што па ўласнай ініцыятыве сядзіць у акопе і жывапісуе побыт гэтага акопу? Між тым, артыкулы Будзіміра мелі вялікі рэзананс у чытачоў — ва ўсіх, хто цікавіўся сітуацыяй ва Украіне. Аляксей Кароль не замінаў раскрывацца творчаму патэнцыялу — і ахвотна прадстаўляў для гэтага палосы.

Свае «акопы» былі і ў мяне. Азіраючыся назад, я з шокам згадваю некаторыя свае тэксты. Напрыклад, артыкул «Канец «Доўгага дня…» — якім я адрэагавала на спробу рэдактараў БТ замяніць культавую «Калыханку» на словы Генадзя Бураўкіна нейкім «шэдэўрам» Ірыны Дарафеевай, якую ўсе тады лічылі фаварыткай прэзідэнта. Я тады абурылася на паўтары паласы. Паўтары паласы, прысвечаныя разбору аднаго дзіцячага верша! Трынаццаць тысяч знакаў з аналізам фальклорнага жанру ў масавай газеце! І Аляксей Кароль без скаротаў пусціў гэта ў друк. Проста таму, што адчуваў: гэта важна для мяне як аўтаркі раздзелу «Культура».

Не менш здзіўлялі і некаторыя замовы, якія рабіў мне сам Аляксей Сцяпанавіч. Напрыклад, на юбілей Барыса Грабеншчыкова ён папрасіў мяне напісаць вялікі артыкул пра спевака (ён называўся «Сем (ц)нотаў БГ»). Проста таму, што БГ — адзін з любімых музыкаў яго сына, і Аляксей Кароль вельмі хацеў зразумець, чаму нашае пакаленне ім захапляецца.

Аляксей Кароль хацеў зразумець. Напэўна, гэта было самым істотным.

Ігар Мельнікаў першы з нас назваў Аляксея Караля анёлам. Я думаю, кожны калега пагодзіцца з гэтым найменнем. З супрацоўнікамі «Новага Часу» здаралася featurerознае — аварыі, дэкрэты і замежныя стажыроўкі — і нашы траўмы ён прымаў як асабісты боль, нашых дзяцей — як асабістую радасць, а нашыя нежурналісцкія дасягненні — як асабісты гонар. Са мной, напрыклад, здарылася самае страшнае для публіцыста — глыбокі творчы крызіс, праз які я больш за год не змагла напісаць ані радка пра беларускую культуру. Я тады ўзялася за вялікі падлеткавы раман — і спадар Аляксей не проста з разуменнем паставіўся да такой дзіўнай творчай паўзы, а вельмі ўзрадаваўся, што раман пішацца, і гэта прыносіць мне радасць. Пра гэта была наша апошняя размова.

Аляксей Кароль не скарачаў нашы тэксты — і жыццё пражыў такое самае: поўнае, насычанае, без скаротаў. Калі не браць да ўвагі гэты апошні, фатальны скарот — заўчасная смерць ад падступнай хваробы. Я дзякую Аляксею Каралю за тое, што ён быў з намі, і аплакваю яго сыход.

**Марыя Мартысевіч**

## Анёлы не паміраюць

Я пазнаёміўся з Аляксеем Сцяпанавічам Каралём у 2012 годзе. Ён прачытаў некалькі маіх гістарычных артыкулаў і прапанаваў супрацу з газетай «Новы Час». Тады я яшчэ не ведаў, што галоўны рэдактар выдання не толькі журналіст, але і гісторык. Хутка для мяне Аляксей Сцяпанавіч ператварыўся з рэдактара ў старэйшага таварыша.

Кароль не пакідаў справу і ў час хваробы.

Кандыдацкую Аляксей Сцяпанавіч абараніў па гісторыі пасляваеннай акупацыі Германіі ў 1945–1947 гг. А пазней ён стаў аўтарам шматлікіх навуковыя і публіцыстычных кніг і артыкулаў.

Хутка для мяне Аляксей Сцяпанавіч ператварыўся з рэдактара ў старэйшага таварыша. Ён даваў парады, па добраму крытыкаваў, хваліў. Але самае галоўнае — ён паверыў у мяне і даў шанс працаваць і рабіць тое, што я добра ўмею.

Пагадзіцеся, што кожнаму з нас у жыцці не хапае такіх анёлаў, якія вераць у нас і натхняюць нас на здзяйсненні. Часцей за ўсё людзі імкнуцца прынізіць твае дасягненні, ці, у лепшым выпадку, не заўважыць іх. А вось Аляксей Кароль умеў заўважыць сутнасць чалавека і зрабіць усё для яе развіцця.

Калі ў 2014 годзе я сабраўся выдаваць сваю першую кнігу «Заходнебеларуская Атлантыда 1921–1941 гг.», рэдактар «Новага Часу» падтрымаў гэтую ідэю словам і справай. Больш таго, менавіта ён напісаў уступнае слова да гэтага выдання і назваў яго «З кагорты свабодных».

У маі 2015 года Аляксей Кароль святкаваў 70-годдзе. Ён спецыяльна патэлефанаваў мне і запрасіў на свята, але я не змог прысутнічаць, бо ехаў за мяжу. Тады мы гаварылі амаль гадзіну. Спадар Кароль шмат смяяўся, пытаў, але, відаць, ужо нешта адчуваў, таму напрыканцы размовы пажадаў не збаўляць тэмпаў працы і далей змагацца за гістарычную праўду.

А ў дзень юбілею ўжо я сам патэлефанаваў Аляксею Сцяпанавічу з-за мяжы, павіншаваў яго і сказаў, што ён адзін з лепшых людзей на гэтым свеце, каго я ведаю. Гэта была апошняя наша размова. Дзякуй Богу, што я паспеў падзякаваць спадару Каралю за яго жыццё, якое ён цалкам аддаў для роднай Беларусі. Зараз я ведаю, што на небе адным анёлам стала больш.

**Ігар Мельнікаў**

## Сапраўдны кароль не носіць карону

Калі з болем і смуткам мы, чытачы і супрацоўнікі газеты «Новы Час», даведаліся пра заўчасную смерць цудоўнага чалавека, публіцыста і выдатнага дзеяча нацыянальнага дэмакратычнага руху, галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Новы Час» Аляксея Караля, то кожны з нас, хто ведаў гэтага чалавека, успамінаў акалічнасці працы побач і разам з ім. Гэта было проста, бо гэтыя сустрэчы і супрацоўніцтва засталіся ў нашай памяці назаўжды.

Напрыклад, мне з галоўным рэдактарам газеты «Новы Час» Аляксеем Сцяпанавічам Каралём давялося пазнаёміцца ў той час, калі ён узначаліў гэта адноўленае незалежнае выданне. Тады ўжо шмат гадоў я быў пазаштатным музычным аглядальнікам «Новага часу» і спадзяваўся на працяг супрацы з газетай. «Але як адрэагуе новы рэдактар на мае прапановы працягнуць мой «кантракт» з «Новым Часам»? У мяне ж такая спецыфічная тэматыка!» — гэтымі думкамі я прыйшоў на першую сустрэчу з Аляксеем Сцяпанавічам.

З першых жа хвілін нашай размовы новы рэдактар уразіў мяне сваёй інтэлігентнасцю, шырокім кругаглядам, ненапускной беларускасцю і прыхільнасцю да дэмакратычных каштоўнасцяў. Карацей, я ўбачыў у гэтым чалавеку сапраўднага патрыёта, Беларуса, асобу з вялікай літары.

Асабіста я адчуў яго моцную маральную падтрымку, калі раптоўна дала пра сябе знаць цяжкая хвароба. Тады я сам даведаўся пра бяду, якая апанавала і Аляксея Сцяпанавіча. Але яго стаіцызм, падтрымка перадаваліся мне падчас лячэння, і пасля аперацый, якія я пераносіў з аглядкай на яго досвед. Таму я лічу, што паляпшэнню стана майго здароўя я абавязаны не толькі сваім родным, але і мудраму слову і ўвазе Аляксея Сцяпанавіча, які ўвесь час майго лекавання быў са мной на сувязі.

Кажуць, што сапраўдны кароль не носіць карону. І пра галоўнага рэдактара «Новага Часу» Аляксея Караля можна сказаць, што яму не патрэбна была сімвалічная карона. Ён пацвярджаў сваё прозвішча іншымі «каралеўскімі» якасцямі. І перш за ўсё, мудрасцю і самаахвярнасцю кіраўніка, клопатам пра сваіх «падданых» — супрацоўніках рэдакцыі і аўтараў, стратэгічнаму падыходу да развіцця незалежнага выдання. Мо таму штотыднёвік «Новы Час», нягледзячы на цяжкасці, правакацыі і сабатаж чыноўнікаў, працягвае выходзіць і радаваць сваіх чытачоў цікавымі і карыснымі публікацыямі. І гэта надалей застанецца лепшым помнікам незабыўнаму Аляксею Сцяпанавічу. Як і прэмія яго імя для беларускіх палітычных аглядальнікаў, якую рэдакцыі газеты «Новы Час» прапаную заснаваць у памяць Аляксея Караля.

**Анатоль Мяльгуй**

## Рыцар Свабоды Аляксей Кароль

Ён сышоў, шырока ўсміхаючыся свету. Ён зрабіў усё, што мог. За свой унёсак у журналістыку «ў складаных умовах» ён быў ганараваны міжнароднай прэміяй пад назвай «Рыцар свабоды». Ён быў такім у жыцці.

Ва ўсіх справах ён выяўляў сябе як рыцар. У палітыцы, калі стаў паплечнікам Генадзя Карпенкі ў пачатку 90-х гадоў і заставаўся з ім да канца. У журналістыцы, калі стаў рэдактарам незалежнай газеты «Згода». Яе ўлады зачынілі за два дні да выбараў 17 сакавіка 2006 года (за перадрук карыкатур на прарока Мухамеда). Потым была газета «Новы час», рэдактарам якой ён заставаўся да сваіх апошніх дзён.

Гэта быў чалавек з раскрытай душой і гарачым сэрцам. Ён быў светачам у змрочнай атмасферы аўтарытарызму. Ён быў прыкладам мужнай пазіцыі і вернасці слову. Ён пакінуў свой след у Беларусі і сваю справу, якой працягваюць служыць яго калегі і аднадумцы.

Бывай, Кароль! Няхай жыве Кароль!

**Міхаіл Пастухоў**

* * *

Беларуская журналісцкая супольнасць перажыла ў суботу невымерную страту. Мы з вялікім жалем успрынялі вестку пра смерць Аляксея Караля, вядомага публіцыста, палітолага, сведкі гісторыі, чалавека, які цаніў свабоду і дэмакратыю. Дзякуючы сваёй пазіцыі, дабрыні, сумленнасці, глыбокім меркаваннем і спакою духу Аляксей Кароль здабыў павагу, якая заўсёды будзе неад'емнай часткай нашай памяці пра яго.

Выказваем шчырыя спачуванні сям'і, сябрам, блізкім і супрацоўнікам газеты «Новы час».

**Міхал Хабрас, Часовы Павераны ў Справах Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь**

## Рэдактар, які аб'ядноўваў вакол «Новага Часу»

Не магу паверыць, што не стала Аляксея Сцяпанавіча. Ён з Сінгапуру дасылаў мне СМС-паведамленні, што ў лістападзе сустрэнемся ў Мінску, што ўсё добра…

Калі ўдавалася вырвацца на адзін дзень у Мінск, загадзя яму тэлефанаваў, і мы спатыкаліся на нашым старым месцы каля станцыі метро «Плошча Перамогі». А потым доўга гутарылі пра жыццё, гісторыю, СМІ. Доўга, гэта — гадзінку-паўтары і я, развітаўшыся з Аляксеем Сцяпанавічам, потым бег па сваіх справах, каб за дзень усё паспець зрабіць і вярнуцца ў Слонім.

Кожны раз, калі мы сустракаліся, Аляксей Сцяпанавіч цікавіўся жыццём у правінцыі, прасіў пісаць, як жывуць людзі ў глыбінцы, раіў шукаць новых асобаў, пра якіх варта напісаць добрыя словы. Ён мне заўсёды тэлефанаваў, калі я на тыдзень-другі знікаў у сваёй правінцыі, пытаўся, дзе я і што я пішу для «Новага Часу». Ён заўсёды натхняў на творчыя пошукі, часам рабіў заўвагі па апублікаваных раней артыкулах і вельмі шчыра хваліў, калі матэрыялы траплялі на старонкі «Новага Часу» вартыя і чытэльныя. Аляксей Сцяпанавіч вельмі шчыра, проста і лёгка стараўся аб'яднаць нас вакол газеты «Новы Час».

Я вельмі чакаў яго з далёкай краіны і верыў, што наш любы рэдактар ачуняе, што мы зноў спаткаемся. Бо пасля бальніцы ён мяне запэўніў, калі мы сустрэліся ў Мінску: «Усё, Сярожа, будзе добра. Страху вялікага няма. Наша задача — рабіць цікавай газету і пашыраць яе межы распаўсюджвання…» Але, аказалася, наадварот…

І яшчэ. Пры кожнай сустрэчы, і гэта адчувалася, Аляксея Сцяпанавіча хваляваў лёс Беларусі. У палітыцы ён разбіраўся добра. Пра палітку ён мог гутарыць доўга, прыводзячы канкрэтныя прыклады з мінулых стагоддзяў і з сённяшніх дзён…

Дзякуй Вам за ўсё, Аляксей Сцяпанавіч! За Вашу падтрымку, за Вашы парады, за Вашу чалавечую шчырасць!

**Сяргей Чыгрын**

## Шчасце быць Каралём

На жаль, я пазнаёміўся з Ім позна — гадоў з 15 таму…

А затым светла-сонечны, імпэтна-дыпламатычны, душэўна-разумны чалавек (галоўны рэдактар «Згоды», гісторык, палітык і г.д.), Ён прапанаваў зрабіць са мной інтэрв'ю — як з новаабраным старшынёй Саюза пісьменнікаў. Наўрад ці штo вартага я там нагаварыў, але некалькі «зярнятаў» упалі ў той дзень на газетныя каралеўскія старонкі — і затым спорна прараслі дадаткам «Літаратурная Беларусь» на старонках адроджанага Аляксеем Сцяпанавічам «Новага часу» (пасля забароненай «Згоды»). Прараслі 108 месяцаў, 108 нумароў, якія Ён апекаваў, якія з цікавасцю чытаў, пра якія потым далікатна выказваўся…

Шчаслівы, хто меў такіх чытачоў.

І быў сакавік 2006-га, а да яго доўгія «казулінскія» месяцы «агню і вады». «Медныя трубы» мы не пачулі, але я шчаслівы, што ў тых умовах быў з Ім такім, якім мусіў…

А Ён і надалей рабіў тое, што ва ўсе часы рабілі беларускія адраджэнцы: будзіў словам. Друкаваным словам. Словам новага часу. Спакойна, далёкасяжна, мужна, годна, сучасна, актыўна. І — з радасцю, светлынёй, па-сямейнаму, у згодзе.

Шчаслівы, хто меў такіх рэдактараў.

Гэты чалавек-энцыклапедыя як шаснаццацігадовы школьнік усмоктваў у сябе ўсё новае, малавядомае Яму. Аніхто так апантана не выведваў-распытваў мяне пра ўсялякія рэчы, у якіх — як наіўна думалася Яму — я быў абазнаным. І гаворка — далёка не пра літаратурны цэх, а цэх аўтамабільны, садовы, універсітэцкі, будаўнічы, і пры кожнай сустрэчы новы.

Шчаслівы, хто меў такіх слухачоў.

Хвароба (у Ягоным выпадку надзвычай нечаканая: пайшоў працягнуць медычную даведку на права кіравання аўтамабілем, а тут — ракавы дыягназ) за год адолела Яго цела, але не пачуцці, не сілу волі, не прагу да жыцця. Я больш не сустракаў людзей, якія з такой мужнасцю, спакоем, годнасцю, нават шляхетнасцю сустрэлі і да канца вытрымалі такое лёсавае наканаванне…

І Ягоны нядаўні 70-гадовы юбілей, светла праведзены ў коле блізкіх і аднадумцаў, стаў — як мне тады падалося — узнёслым і светлым развітаннем. Развітаннем са сваімі днямі, месяцамі, гадамі, але — не з часам. Бо Ён быў і застаецца навечна ў новым беларускім часе. І Ён — акадэмічны гісторык, які па дакументах вывучыў пакручастыя савецка-таталітарныя этапы і спрагназаваў дарогі нашай нацыянальнай будучыні — аб тым ведаў.

«Новачасаўцы» падарылі тады Яму шыкоўны скураны фатэль-круцёлку. Калі мы з Алегам Волчакам выносілі той падарунак з мінскай кавярні, група стрыжаных хлапцоў, якія прыехалі на джыпе з замазанымі расійскімі нумарамі і трывожна даядалі свае шашлыкі, не стрымаліся:

— Видали, как пацаны своего пахана уважают — даже кресло в кабак персональное носят!

— А кому такая уважуха?

— Говорили, королю…

Аляксей Сцяпанавіч назаўтра, пачуўшы тое, мякка ўсміхнуўся. І зноў заняўся працай.

Шчаслівы, хто меў такіх каралёў!

А мне, на жаль, вечна ўжо не будзе хапаць Ягоных новых хаця б 15 гадоў. Яго — жывога…

**Алесь Пашкевіч**

# Справядлівы Кароль

**Напярэдадні 70-годдзя Аляксея Караля Таццяна Мельнічук сустрэлася з ім і пагутарыла пра жыццё і прафесію.**



Я ўпарта настойвала на гэтай размове, бо ўсе, ад каго спрабавала дазнацца пра «таемныя радзімкі» Караля, перш за ўсё адзначалі: «Кароль — справядлівы!».

***— Вядома, што журналісты — людзі языкастыя, і ў размовах паміж сабой, як дойдзе да ацэнак начальнікаў-рэдактараў, стрымлівацца не прынята. Але супрацоўнікі газеты, якую ўзначальваеце вы, натуральна і нязмушана раздаюць вам кампліменты — без двукоссяў. Не хачу правакаваць вас на кампліментарны адказ, але што вы з імі робіце?***

— Я, бадай што, не адкажу ўцямна, бо ніколі не задумваўся над гэтым... У свой час, напачатку 1990-х гадоў, была задача стварыць газету. Усё астатняе выбудоўвалася і набудоўвалася ў працэсе працы, натуральным чынам. Усё звычайна: фармуецца канцэпцыя газеты, абмяркоўваецца, прымаецца, і ў гэтую канцэпцыю кладуцца журналісцкія матэрыялы.



**Аляксей Кароль, 1969 год**

Можа быць дрэнная канцэпцыя — тады яе трэба мяняць, зноў абмяркоўваць. Калі гэта робіцца адкрыта і калектыўна, няма глебы для спрэчак і крыўды.

Другі прынцып, якога я трымаюся свядома, можна азначыць так: найлепш чалавек робіць тыя справы і піша на тыя тэмы, да якіх у яго ляжыць душа.

Вось і ён выбірае, і я выбіраю, што ў журналіста лепш атрымліваецца, і такім чынам прынцып супрацоўніцтва сфармаваны.

Да таго ж — і гэта кожны ў нашай рэдакцыі разумее — аплата залежыць ад унёску ў супольную працу. І калі рэдактар і галоўны рэдактар не багацейшыя за супрацоўнікаў, гэта таксама ацэньваецца і ўплывае на рэдакцыйны клімат. На жаль, у нашых недзяржаўных газетах не даводзіцца разлічваць на значныя прыбыткі, але абавязак рэдактара — забяспечыць хаця б «негалодныя» заробкі і празрыстасць у размеркаванні рэдакцыйных сродкаў.

***— Аляксей Сцяпанавіч, а вы ўвогуле кантралюеце сваіх супрацоўнікаў?***

— Ды асабліва не даводзіцца кантраляваць: дамаўляемся, хто што робіць, і гэта робіцца. Нешта адсочваеш, канешне, нешта абмяркуеш, з нечым паспрачаешся, але гэта нармальна.

Я б не сказаў, што я занадта дэмакратычны кіраўнік, але не аўтарытарны да таго, каб ісці на злом пазіцыі ці меркавання журналіста. Атмасфера ў нас склалася нармальная, людзі вакол мяне разумныя.

Дзякуй, што перадалі ацэнкі «курылкі» — у нашай рэдакцыі не прынятыя «кампліментарныя вадаспады». Жарты, іронія — звычайная атмасфера. Нават калі віншуем каго, то без патэтыкі, але з добрымі сяброўскімі кпінамі.

***— Вы сказалі пра стварэнне газеты «напачатку 1990-х». Вы пра газету «Згода»?***

— Так. Стварэнне «Новага Часу» было вымушаным крокам, таму што «Згода» была закрытая рашэннем суда ў 2006 годзе, перад прэзідэнцкімі выбарамі. На прэзідэнцкую пасаду вылучаўся Аляксандр Казулін, у выступе на Усебеларускім сходзе Лукашэнка прыгразіў, што «газетка», якая Казуліна падтрымлівае, будзе закрытая, і журналісты, калі будуць прызнаныя вінаватымі, будуць сядзець у турме.

Закрыццё праз суд было ці не першым выпадкам у гісторыі беларускай недзяржаўнай журналістыкі нашага часу, але журналісты, дзякуй Богу, засталіся на волі. Праз год (зноў жа ці не выключны выпадак) нам удалося стварыць новую газету. Гэта было вельмі не проста.

Пры дапамозе юрыстаў БАЖа мы старанна вывучылі заканадаўства, знайшлі нестыкоўкі і шчыліны. Да таго ж, маё прозвішча пры гэтай спробе нідзе не фігуравала, яно з'явілася толькі ў другім нумары «Новага Часу».

За «Новы Час» трэба падзякаваць Таварыству беларускай мовы, Алене Анісім і Алегу Трусаву. Яны аддалі нам імя зарэгістраванай газеты. Да нашага супрацоўніцтва выйшла 48 нумароў, але газета выходзіла нерэгулярна. Зараз у «Новага Часу» ўжо пад 450 нумароў.

Так што «Новы Час» — яскравы прыклад таго, што можа даць супрацоўніцтва дэмакратычных сіл, структур, асоб. Учынак ТБМ мы запомнілі, гонар ім і пашана.

***— У «Новы Час» вы прывялі з сабой калектыў «Згоды»?***

— Ядро каманды захавалася. Гэта найперш Аксана Колб, намесніца галоўнага рэдактара, і Святлана Пяроўская, стыль-рэдактар. Разумніцы і прыгажуні, арганізатары і журналісты. Умець усё — гэта яшчэ адзін выклік барацьбы за дэмакратыю ў суровых умовах аўтарытарнага напаўпадполля. Як толькі мы зразумелі, што ў нас можа атрымацца аднаўленне пад новым імем, сабраліся ўсе, нават вярнуўся з Украіны Алег Новікаў (ён жа Лёлік Ушкін)! Прыйшлі потым і новыя людзі, але яны ўліліся ў каманду, яны ўспрымаюць «Новы Час» як сваё. Гэта каманда, гэта не найміты, гэта не падзёншчына. Можа, таму ў нас атрымліваецца працаваць на прынцыпах справядлівасці і салідарнасці.

На нашу канцэпцыю ў «Новым Часе» істотна паўплываў выбар мовы. А мова, па сутнасці, ужо дыктуе канцэптуальныя падыходы. Беларуская ідэя, сфармаваная яшчэ на пачатку XIX стагоддзя, базавалася на каштоўнасці мовы, культуры, на якіх павінна будавацца дзяржаўнасць і незалежнасць.

***— Спадар Аляксей, вы як рэдактар больш любіце працаваць з маладымі журналістамі ці са сталымі? А можа, «кіты», якія прыйшлі са «Згоды», у вашай рэдакцыі — «святая карова»? А маладзенькія шчыруюць, каб імя сабе зарабіць?***

— У нас не ўзнікала гэтай праблемы «кітоў» і маладэчы. Мы, як і ўсе незалежныя выданні, не маем сродкаў, каб утрымліваць вялікі калектыў. Газету робяць дзевяць чалавек; тых, хто нам актыўна піша, — больш за 20. Ды і «кітам» усяго толькі вакол сарака. У нас няма падзелу па ўзросце ці былых заслугах: калі 20-гадовы напісаў годны артыкул, і я, і супрацоўнікі рэдакцыі аддадуць яму належнае гэтак жа, як адзначаць рэдакцыйнага ветэрана.

Задача кіраўніка выдання — даць журналісту магчымасць выявіць і прадэманстраваць свае таленты.

А тыя, хто пачынаў газету, былі маладымі, зараз сталі сталымі... Сярэдні ўзрост у нашай рэдакцыі — недзе каля 40. Але ў гэтай лічбе амаль што толькі мая заслуга, маіх 70 гадоў :)

***— Аляксей Сцяпанавіч, адкуль у вас такое прозвішча — Кароль? Каралеўскія карані маеце? Ці гэта ад побытавага заходнебеларускага: кароль, мяккі хатні трусік?***

— У Беларусі, дарэчы, не так мала людзей з прозвішчам Кароль. Я зацікавіўся — багата Каралёў ва Уздзенскім, Бярэзінскім раёнах. Мой бацька якраз з Бярэзінскага раёна. Навукоўцы, з якімі я размаўляў, лічаць, што ў Беларусі гэта прозвішча не ад царскіх пасадаў, а ад умення ў працы: кароль у сваёй працы. І таму то там, то там узнікалі Каралі.

***— Вы паходзіце з вёскі?***

— З раённага цэнтра. Па лініі мамы прабабка была прыгоннай. Не шляхта (падкрэсліваю тым, хто зараз актыўна шукае ў сабе «блакітную кроў»), я прыгонны селянін, у мяне няма шляхецкай пыхі. Але дзед мой быў лесніком-аб'ездчыкам, гэта ўжо дастаткова высокая пасада на той час.

Бацька мой быў сірата. У 12 гадоў айчым выгнаў яго з хаты, ён беспрытульнічаў, потым, калі вылавілі, навучаўся ў каваля, трапіў на завод, потым у ПТВ. Вайну сустрэў на камсамольскай пасадзе ў Беластоку; да ваенкамата дайсці не паспеў, па тылах з баямі выйшаў пад Масквой. Затым ваяваў, пяхота на перадавой, дайшоў да Кенігсбергу. Перадапошняя пасада майго бацькі — старшыня Смаргонскага райвыканкама. З-за наступстваў раненняў бацьку ампутавалі нагу, перавялі ў Маладзечна, пэўны час працаваў дырэктарам піўзавода, потым сышоў на пенсію.

Так што Смаргонь і Маладзечна — мае родныя гарады. Да сёмага класа я вучыўся ў Смаргоні; з Маладзечна паступіў на гістфак педінстытута, год папрацаваўшы, бо першая спроба паступлення была няўдалай. Паслужыў у войску, вярнуўся — гістфак скончыў з «чырвоным» дыпломам. Па размеркаванні патрапіў у Акадэмію навук, Інстытут гісторыі.

***— Я ведаю, што вы — кандыдат гістарычных навук. Якую тэму даследавалі?***

— Германія пасля вайны, 1945–1947 гады. Дзейнасць савецкай ваеннай адміністрацыі ў Германіі. Палітыка саюзнікаў у Германіі пасля 1945 года.

***— Ого! Але ж гэтая тэма і цяпер небяспечная!***

— І цікавая. Я яе сам выбраў, мне пашанцавала, што ў аспірантуры маім кіраўніком быў акадэмік Ігнаценка з прынцыпам, які я потым перанёс на сваю працу з людзьмі: вольны пошук, тое, што падабаецца.

Я быў у сектары гісторыі сацыялістычных краін, Аляксандр Мацко яго ўзначальваў. І ён таксама не душыў свабодны палёт думак.

Не сказаў бы, што мая кандыдацкая праца напісана так, як бы я напісаў сёння. Але менавіта ад тэмы, думаю, выйшаў на крытычнае ўспрыманне таго, што адбывалася ў Савецкім Саюзе. З гэтай тэмай прабіўся ў закрытыя архівы ў Маскве. Гэта з «допускам». У архіве мусіў выпісваць патрэбнае ў свае асобныя сшыткі — прашытыя, пранумараваныя, праштампаваныя. Сшыткі перасылалі ў першы аддзел Акадэміі Навук, там яшчэ раз мусіў рабіць



**1995 г. Прэс-канферэнцыя Сацыял-дэмакратычнай фракцыі Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Вядзе прэс-канферэнцыю Аляксей Кароль**



**1996 г. Прэс-канферэнцыя Беларускай асацыяцыі журналістаў на знак пратэсту супраць вынікаў рэферэндума, які прыняў папраўкі да Канстытуцыі 1994 г.**




**Выступленне на мітынгу, арганізаваным Камітэтам «Свабода Чыгіру», калі той знаходзіўся у турме. А. Кароль — старшыня Камітэта**



21 мая 2004 г. Кіраўнік офіса АБСЕ у Мінску Эберхард Хайкен прыехаў у рэдакцыю газеты «Згода» выказаць падтрымку



На ўручэнні прэміі Найта «за якасную журналістыку ў цяжкіх умовах»



Аляксей Кароль з жонкай Вольгай, сынам Сяргеем і дачкой Ірынай

выпіскі з іх. Выкарыстоўваць звесткі мог, даць канкрэтныя спасылкі на крыніцы, дзе знайшоў дакументы — не. Дамогся, што дазволілі пазначаць агульнае: «Архіў савецкай ваеннай адміністрацыі».

У архівах знайшоў таксама своеасаблівыя ТАССаўскія матэрыялы пад грыфам НДП — «не для печати». Натрапіў на пераклады замежных навуковых даследаванняў гісторыі таталітарных рэжымаў — сталінскага і гітлераўскага, іх параўнальны аналіз. Грувасткія машынапісныя тамы, зробленыя ў адным экземпляры, для кіраўніцтва. Чытаў, закінуўшы сваю тэму.

Так што недарэмна таталітарныя рэжымы закрываюць архівы — дакументы правакуюць на роздум, сумневы, крытычны аналіз, у закрытых архівах нараджаецца свабода думкі.

Першы зрух — асэнсаванне неабходнасці ачышчэння ідэі сацыялізму ад сталінізму, вяртанне да першаснага — маральнага — сацыялізму «з чалавечым тварам». Затым ужо асэнсаванне самой канцэпцыі сацыялізму і бальшавізму на іх адпаведнасць рэальнасці. І шок асэнсавання, што менавіта з гэтай канцэпцыі пачынаўся рэжым, які атрымаў назву «таталітарны».

Так выйшла, што, калі адкрылася перспектыва свабоднага слова, я першым распавёў грамадзе пра беларусізацыю 1920-х гадоў. Напісаў два артыкулы, іх дала «Советская Белоруссия», яшчэ орган ЦК Кампартыі. Мне расказвалі журналісты, што, калі прыйшоў артыкул, ды яшчэ са знакам «молния», усе былі ўпэўненыя, што ЦК даслаў чарговую прапаганду. Чытаем — валасы заварушыліся: пад грыфам ЦК крамольны артыкул прыйшоў!

Перабудова прыадчыніла шлюзы. Для ЦК я падрыхтаваў аб'ёмныя даведкі на рэабілітацыю Усевалада Ігнатоўскага і Зміцера Жылуновіча, на ўсіх іншых рэпрэсаваных нацдэмаў. Праўда, потым іх не трэба было рэабілітаваць, жыццём былі рэабілітаваныя. Напісаў кніжку пра Ігнатоўскага — архітэктара беларусізацыі 1920-х гадоў.

Сёння я б перапісаў і сваю манаграфію пра рэвалюцыю 1905 года ў Беларусі, перапісаў бы шэраг артыкулаў, дысертацыю, бо на той час не меў магчымасці атрымаць усебаковую інфармацыю. Разумею зараз, наколькі цяжка быць аб'ектыўным даследчыкам, калі ідзе лавіна ідэалагічнай апрацоўкі, прэпараванай інфармацыі, калі не проста асобныя блокі — цэлыя гістарычныя пласты вымаюцца, літаратура «працэджваецца», і ты не можаш правравацца. Адчуваеш, што нешта не так, але доказаў не хапае, мазаіка не складваецца ў карціну!

А яшчэ таталітарны рэжым сябе лічыць вышэй за мараль, а на ўсіх астатніх распаўсюджвае мараль і рамантыку рэвалюцыі. Скрозь гэтую рамантыку мы ўспрымалі бальшавізм і савецкую ўладу як нешта справядлівае.

***— Спадар Аляксей, у вас шмат сяброў?***

— Сяброў звычайна няшмат... Самы блізкі сябра, Лявон Лойка, на жаль, сышоў ужо ў іншы свет. Яму было 60. Гэта быў сябра і па жыцці, і па справе, з ім мы рэалізоўвалі праект партыі, праект першай газеты. Мне яго вельмі не хапае.

Ёсць сябры ў рэдакцыі, ёсць у партыі, але Лявона не хапае.

***— А з жанчынамі вам шанцавала?***

— Шанцавала: з дзяцінства мяне атачалі разумныя і прыгожыя дзяўчынкі і жанчыны. А па жыцці жанчына ў мяне адна, маці маіх дзяцей. Я быў яшчэ студэнтам трэцяга курса, сакратаром камітэта камсамола факультэта, калі мы пабраліся шлюбам. Асалода майго жыцця, найлепшы мой прадукт — мае дзеці. І, да слова, мае сябры. Поўнае ўзаемнае разуменне, павага. Свае лёсы яны зрабілі самі, і дастаткова ўдала. Гэта цешыць.

***— Асабістыя сувязі з «партыйнай дыяспарай» у вас захаваліся?***

— Я ўжо непартыйны чалавек. Для журналіста гэта лепш, асабліва ў нашай сённяшняй сітуацыі пад аўтарытарным рэжымам.

З сацыял-дэмакратычнай партыі я выйшаў пасля таго, як падчас адсідкі Казуліна верх у партыйных структурах узялі сілы, што вырашылі зняць яго са старшыні партыі. Старшынёй тады стаў Ляўковіч. Такое рашэнне ў дачыненні да Казуліна, які знаходзіўся ў зняволенні, я палічыў амаральным. Можна было пераабіраць лідара — тое нармальная рэч, але не калі ён у турме ды трымае галадоўку пратэсту.

Такія пертурбацыі-здрады — на руку аўтарытарнаму рэжыму. Аўтарытарныя рэжымы заўсёды выкарыстоўваюць чалавечыя амбіцыі, слабасці структур, каб паскараць працэс маргіналізацыі сваіх апанентаў. Працэс заканамерны пад ударамі рэпрэсій. Магчыма, сацыял-дэмакраты першымі прайшлі гэты шлях, але сёння мы бачым падобнае і ў дачыненні да іншых апазіцыйных структур — іх дзейнасць абмежаваная, супярэчлівая, аўтарытэт у грамадстве досыць нізкі.

***— Як вам, чалавеку з вядомай палітычнай біяграфіяй, у ролі газетчыка? Былыя партыйныя «разборкі» размовам з палітыкамі не перашкаджаюць? Прэс-братэрства прыняло за свайго?***

— Адносіны з палітыкамі нармальныя. Прынцып журналіста — не сварыся з тымі, у каго ты будзеш браць інтэрв'ю. Гэта першае.

Па-другое, у сваёй мінулай палітычнай дзейнасці я не перайшоў мяжы паміж спрэчкай прынцыповай і зняважай асабістай. Скажам, у мяне ў свой час у межах сацыял-дэмакратычнага руху былі дастаткова складаныя адносіны з Міколам Статкевічам. Але незадоўга да тых выбараў, пасля якіх яго кінулі за краты, мы цудоўна сустракаліся і размаўлялі. І адзначылі — і ён, і я — што пры ўсіх нашых спрэчках мы нідзе публічна адзін пра аднаго не сказалі ніводнага абразлівага слова. Таму ў нас не было перашкод, каб зноў сустракацца, а мне браць інтэрв'ю і пісаць пра яго дзеянні, яго партыю.

У газеце мы правялі серыю сустрэч з палітыкамі розных накірункаў. Нават тых, між якімі ёсць спрэчкі, мы сабралі за круглым сталом, далі ў публікацыях іх ацэнкі сітуацыі, іх бачанне шляхоў вырашэння праблем. На жаль, ні мы, ні іншыя журналісты не змаглі паспрыяць, каб нашыя апазіцыйныя палітыкі да гэтых восеньскіх прэзідэнцкіх выбараў вызначыліся з адзіным кандыдатам. Адзінства не атрымалася.

Што тычыцца журналісцкага асяродку, то гэта сапраўды больш салідарная супольнасць. Бачу дзве прычыны. Першая: мы зразумелі, што, калі ідзе ціск, то толькі падтрымліваючы адзін аднаго мы можам утрымаць выспу свабоднага слова. Наш прыклад — і «Згоды», і «Новага Часу» — гэта пацвярджае.

Па-другое, усё ж кожнае выданне дастаткова аўтаномнае. Мы не супернікі адзін аднаму, нам не трэба вылучаць адзінага кандыдата. Мы салідарныя ў сваіх дзеяннях праз свае публікацыі, але нам не трэба ўзгадняць кожны свой прафесійны крок, як гэта трэба ўзгадняць у партыі. Кожная газета ідзе сваім шляхам, але ў адным накірунку, сфармуляваным прафесійнымі прынцыпамі: аб'ектыўнасць, дэмакратычнасць, свабода выказвання.

Так, нам трэба трымацца адзін аднаго і не даваць нас душыць. Гэта магчыма. Ідэал таталітарнага рэжыму — адсутнасць любой незалежнай прэсы, любога выдання. Пакуль улады не могуць дасягнуць таго «ідэалу» — і ў журналісцкім асяроддзі супрацiў, і апазіцыя ўсё ж утрымала выспу свабоднага слова. Гэта наша агульная заслуга.

***— Пра палітычную кар'еру не шкадуеце?***

— У свае 70 гадоў, ацэньваючы пражытае жыццё, я толькі шкадую, што нам не ўдалося сцвердзіць і рэалізаваць у пераможным варыянце ідэю дэмакратызацыі Беларусі. Гэтая ідэя досыць шырока панавала ў грамадстве пасля абвяшчэння суверэнітэту Беларусі. Пра прычыны паразы спрэчка ідзе да гэтага часу: чаму не змаглі, а ці была рэальная альтэрнатыва?..

Я лічу, што была, што мы шанец страцілі. Мы недаўцанілі, не асэнсавалі, як мабілізаваць рэсурсы гэтай альтэрнатывы. І, дарэчы, да гэтага часу, усё гэтае 20-годдзе пасля паразы, сітуацыя не прааналізаваная. Ні палітычнай апазіцыяй, ні аналітыкамі.

А тое, чаго не зрабілі, мы пакінулі сваім дзецям — яны мусяць дарабляць. І за гэта я адчуваю сваю віну. Хаця дачка супакойвае: «Вы зрабілі, што маглі, пры ўсіх хібах, вы заклалі аснову для новай, пераможнай, спробы дэмакратычных рэформ».

***— Мяне вельмі ўразіў ваш карэспандэнт Зміцер Галко, які памятляўся па Украіне, напісаў шэраг выбітных матэрыялаў. Вы вельмі хваляваліся за яго?***

— Хваляваліся і хвалюемся. Гэта яго выбар, яго рашэнне — пасылаць на фронт і на рызыку я не меў права. Але ён так вырашыў. Мы наколькі маглі дапамаглі яму. Спачатку гэта быў Майдан. А потым — гарачыя маршруты вайны. Ягоныя рэпартажы і нарысы вельмі таленавітыя і шчырыя. Я параўнаў іх з іспанскімі рэпартажамі Хэмінгуэя, Экзюперы. Гэта той жа ўзровень асэнсавання, той жа антываенны пасыл — ён не пафасны, ён перажыты, паказаны праз перажыванні герояў.

Гэта ўдача выдання, у якога ёсць такі рэпарцёр. Але я хачу ўсё ж, каб такіх нагодаў для выяўлення таленту журналістаў было менш.

***— Вы так добра гаворыце пра кожнага са сваіх супрацоўнікаў — і кожны таленавіты, і кожны варты павагі... А вас па жыцці шмат хвалілі?***

— Не магу ўспомніць, каб мяне вельмі за нешта лаялі... Хваліць — хвалілі. У школе па літаратуры і па гісторыі хвалілі, па матэматыцы — не. Армію прыняў як неабходнасць. Угаворвалі паступіць у ваенную вучэльню яшчэ да прызыву, потым у войску ўгаворвалі, але цвёрда ведаў, што загады і я ў форме — гэта несумяшчальна.

***— З арміі прыйшлі сяржантам?***

— Нават лейтэнантам. Служыў у Групе савецкіх войскаў у Германіі, з 1964 па 1967 год, тры гады.

Такая была завядзёнка ў Групе савецкіх войск у Германіі, што хлопцаў з адукацыяй у 10 класаў адмыслова вучылі два месяцы на трэцім годзе службы — і давалі малодшага лейтэнанта пад дэмбель.

Служыў на самых сучасных у той час танках Т-62, пасля аб'яднання Германіі глядзеў па тэлевізары, як гэтыя танкі калонамі і эшалонамі выводзілі ў СССР, на пераплаўку — занадта вялікая колькасць іх была ў краінах сацлагеру.

...Але маю грэх — я «штурмавік». У апошні момант пісаў дысертацыю, у апошні момант, перад самым дэдлайнам, пішу свае артыкулы... За гэта атрымліваў па шыі, але прадукт заўсёды атрымліваўся нармальны.

***— А ўзнагароды ў журналістыцы маеце?***

— Так. Міжнародную прэмію імя Найта — названая ў гонар амерыканскага журналіста — я атрымаў у 2008 годзе, гэта асабістая прэмія. А газета наша атрымала прэмію Цайта ў 2009 годзе. Асаблівасць нашай беларускай незалежнай журналістыкі — значныя міжнародныя ўзнагароды мы атрымліваем за супраціў ціску, перасьледу, так бы мовіць, за якасную журналістыку ў складаных умовах.

Хацелася б, каб хутчэй усталявалася такая сітуацыя ў Беларусі, каб было спаборніцтва талентаў, і прэміі прызначалі за якасную журналістыку ў нармальных умовах.

Самае выбітнае, самае яркае, што выпала на мае жыццё, — гэта свабода самарэалізацыі і спроба палітычнай дэмакратызацыі Беларусі. Я лічу, што гэта за шчасце, што мне гісторыя падкінула шанец вырвацца за рамкі таталітарнага рэжыму. Гэтая асалода расправіць плечы, гаварыць і пісаць тое, што думаеш. Да 1994 года — наогул свабодна, а пасля аднаўлення ў Беларусі аўтарытарнага рэжыму — у супраціве яму, у незалежным выданні, у вольным «Новым Часе». Гэта асалода свабоднага слова! Я яе фізічна адчуваю.

**(Скарочана, цалкам інтэрв'ю можна прычытаць на сайце ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»)**

**Фота з асабістага архіва Аляксея Караля**

# Беларускія выбары паміж Захадам і Усходам

Аляксей КАРОЛЬ

**Асаблівасці прэзідэнцкіх выбараў–2010 толькі падкрэсліваюць яе тыповасць як мадэлі аўтарытарных і таталітарных палітычных сістэм. З найбольшай рэльефнасцю гэтыя асаблівасці высвечваюць уплыў знешняга фактара, скіраванага ці на падтрымку такіх рэжымаў, ці на іх дэмантаж. У нас скрыжаваліся абедзве тэндэнцыі.**




### Калідор пагроз

Гітлераўская таталітарная сістэма пацярпела крах пасля паразы ў гарачай вайне. Савецкая — пасля паразы ў вайне халоднай. І менавіта на сколку савецкай сістэмы аднавілася беларуская мадэль аўтарытарызму (вертыкаль). Не без дапамогі новай-старой расійскай кіроўнай эліты.

Заходняга ўплыву падчас першай постсавецкай хвалі дэмакратызацыі не хапіла, каб пераадолець геапалітычную перавагу расійскага ўплыву.

Але, як гэта ні парадаксальна, абодва цэнтры ўплыву не адразу ўсвядомілі ўвесь маштаб новай геапалітычнай вагі Беларусі ў яе новай якасці — суверэннай незалежнай дзяржавы. Брусэль не заўважыў небяспекі «апошняй дыктатуры ў Еўропе» для ўстойлівасці ўсёй еўрапейскай дэмакратычнай канструкцыі. Масква — памкненняў новага беларускага ўладара не толькі пазбавіцца ад васальнай залежнасці, але і прарваца на крамлёўскі пасад.

Гэта неразуменне і стварыла для А. Лукашэнкі калідор магчымасцей для манеўра, для інтрыгі, для бясконцых клятваў у дружбе — у адзін бок, варожых выпадаў — у другі. Да заклікаў аб стварэнні саюзнай з Расіяй дзяржавы і рэальным курсам на самаізаляцыю ад Захаду. Для лавіравання паміж імі. І на тым пратрымацца 16 гадоў з пралангацыяй на пажыццёвае ўладарства.

Адсюль і перамены знешнепалітычнага курса як з боку Захаду, так і з боку Расіі, хаця і з супрацьлеглым зместам: Захаду — ад палітыкі ізаляцыі да дыялога, Расіі — ад палітыкі братэрства і эканамічных прэферэнцый да нафтагазавых і інфармацыйных войнаў. І з рознымі мэтамі. Захаду патрэбна дэмакратызацыя Беларусі, што ўжо само па сабе з'явілася б гарантыяй стабільнасці ў цэнтры Еўропы. Расіі ж Беларусь патрэбная як абсалютны яе палітычны сатэліт дзеля ажыццяўлення ўласных вялікадзяржаўных планаў. Адначасова глабальны фінансавы крызіс прымусіў і Захад, і Усход пераацаніць эканамічныя выгады ад супрацоўніцтва з Беларуссю. Аднак пры гэтым ва ўзмацненні геапалітычнай вагі Расіі, у тым ліку і за кошт поўнага падпарадкавання свайму ўплыву Беларусі, Захад адчуў для сябе небяспеку.

Так Беларусь, ці не ўпершыню пасля трох тэрытарыяльных падзелаў канца XVIII стагоддзя, аказалася ў цэнтры глабальнай палітычнай гульні.

### Сігналы слабасці

А тут наспелі і прэзідэнцкія выбары. Пры ўсім тым абодва цэнтры ўплыву вымушаны ўлічваць сітуацыю ўнутры краіны, рэагаваць на падзеі і сігналы, якія сыходзяць з Беларусі. Не тое стагоддзе на двары, каб адкрыта дыктаваць сваю волю сілай. Нават для аўтарытарнай Расіі. Для дэмакратычнага ж Захаду сілавы варыянт наогул выключаны.

Безумоўна, асноўнымі імпульсамі, на якія мусіць рэагаваць і Захад, і Усход, з'яўляюцца імпульсы з уладных структур. Але і сігналы ад апазіцыі, хаця і аслабленай рэпрэсіямі, нечага вартыя.

Усім ужо зразумела, што беларуская мадэль выбараў ёсць цалкам імітацыйная мадэль, прызначэнне якой — надаць выгляд законнасці аднаасобнаму ўладару. Гэта не выбары прэзідэнта Беларусі, а, паводле з'едлівага сучаснага фальклору, выбары Лукашэнкі Беларусі.

Але менавіта дзеля прызнання найперш Захадам сваёй улады, і выключна пад уплывам Захаду, А. Лукашэнка і пайшоў на касметычную лібералізацыю выбарчай сістэмы.

Калі выбары — не выбары, а палітычная барацьба, то натуральна, што і беларускае грамадства, і Захад чакалі ад апазіцыі легітымнай, і выключна пад уплывам Захаду... Калі выбары — не выбары, а палітычная барацьба, то натуральна, што і беларускае грамадства, і Захад чакалі ад апазіцыі высілкаў да кансалідацыі, да вылучэння адзінага кандыдата. Менавіта гэта выразна вызначыла водападзел і зрабіла б зразумелым для насельніцтва сэнс і мэты палітычнага супрацьстаяння.

Усю небяспеку для сябе пры такім развароце падзей добра зразумела ўлада і дала зялёнае святло на рэгістрацыю ўсіх 9 кандыдатаў, растварыўшы такім чынам іх імёны ў агульным катле.

Не варта папракаць апазіцыю за слабасць. Але варта крытыкаваць за тое, што яна магла зрабіць, аднак не зрабіла. Трапіла ў пастку амбіцый лідараў. Не здолела выпрацаваць імунітэт супраць бацькаў аўтарытарызму, вірусаў варожасці і хлусні, звадак і расколаў ва ўласным асяродку.

У грамадстве, наскрозь праніzаным ілжой аўтарытарнага рэжыму, адзінай моцнай зброяй апазіцыі ёсць маральнасць, шчырасць памкненняў, праўда ў слове і паводзінах.

Відавочна, што кампанія 9 апазіцыйных кандыдатаў мае і пазітыўныя вынікі. Найперш сваім інфармацыйным і эмацыйным уплывам праз выступы ў прамым эфіры, і асабліва ў тэледэбатах, дзе ўсе кандыдаты спрацавалі адзінай камандай, звярнуліся да грамадства па сутнасці з адзіным пасланнем: мы ўсе — апазіцыя існуючай палітычнай сістэме, дзейнаму начальніку дзяржавы. На вачах развеяўся створаны прапагандай міф: «а хто замест яго». Аказваецца, ёсць. Здольныя і адэкватныя, адукаваныя і прываблівыя. Розныя, на любы густ. Развеяўся і другі міф пра адсутнасць у апазіцыі канструктыўнай праграмы.

З вуснаў кандыдатаў публічна прагучала столькі крытыкі і ў такіх адкрытых фармулёўках, колькі грамадскасць не чула за ўсе 16 гадоў. І за якія яшчэ ўчора прыцягвалі да суду, штрафавалі і адпраўлялі па этапу па наўмысна прыдуманым артыкуле за абразу гонару. За якія арыштоўвалі тыражы газет і зачынялі газеты.

Свабоднае слова, пікеты, сходы, мітынгі і шэсці ў забароненых яшчэ ўчора месцах адчувальна разрэдзілі атмасферу страху, паднялі градус грамадскай актыўнасці. Аднак, вельмі б хацеў памыліцца, не настолькі, каб безыменная дзявятка апазіцыйных кандыдатаў магла зламаць жалезны ўладны сцэнар падліку галасоў. 9 апанентаў у беларускіх умовах — гэта несур'ёзна і для Захаду, і для Усходу.

### Заходні вектар

Адсутнасць адзінага, няздольнасць дэмакратычных сілаў да аб'яднання з'явілася дадатковай прычынай, якая паўплывала на змену прапорцый у стасунках Захаду з апазіцыяй і ўладамі на карысць апошняй. З разлікам паспрабаваць наўпрост уздзейнічаць на палітыку Мінска. А вось дзеля чаго?

Дзеля прагматычных эканамічных выгод? Наўрад ці гэты матыў — асноўны. Хутчэй, дзеля лібералізацыі беларускай эканомікі — матывацыя афіцыйна агучаная Брусэлем. Але не цаной адыходу, як папракалі ЕС некаторыя беларускія палітыкі, ад прынцыпаў каштоўнасцей. Вернасць ім, пацвярджэнне гатоўнасці ЕС да аднаўлення базы дамоўленасцяў з Беларуссю толькі пры ўмове, калі Мінск зробіць крокі ў бок выканання прынцыпаў дэмакратыі, правоў чалавека і вяршэнства права, — гучаць пастаянна з вуснаў усіх еўрапейскіх палітыкаў, на ўсіх узроўнях.

Але ніхто не адмяняў тайнай дыпламатыі. І не выключана, што А. Лукашэнка атрымаў нейкі пакет прапаноў па лібералізацыі палітычнай сістэмы Беларусі пад тыя ці іншыя гарантыі для сябе. Ва ўсялякім разе, асцярожная і размытая фраза аб нейкім пераходным плане, даведзеным да беларускіх уладаў, прагучала з вуснаў еўракамісара Штэфана Фюле на яго прэсавай канферэнцыі па выніках візіту ў Мінск.

Але пайсці на сапраўды свабодныя выбары, а значыць, рэальна рызыкаваць стратай пасады, немагчыма для Лукашэнкі. «Может быть, я только сейчас готов исполнять президентские полномочия в полном объеме, — душэўна дзяліўся ён сваімі думкамі з трыбуны Усебеларускага сходу, — потому что, еще раз подчеркиваю, я знаю весь мир».

### Усходні вектар

Дзеля захавання сваёй улады А. Лукашэнка зноў развярнуўся ў бок расійскага кіраўніцтва. Ці яго развярнулі? Здаўся на яго міласць? І на якіх умовах? Ці наогул без умоў? Сустрэча беларускага кіраўніка з прэзідэнтам Расіі Мядзведзевым і дасягнутыя імі дамоўленасці для большыні грымнулі як нечаканасць.

Але ці сапраўды нечаканасць? А можа, усё ж падрыхтаваная нечаканасць, вынік паспяхова рэалізаванага плана? Ва ўсялякім разе, для ўважлівага наглядальніка не засталося незаўважаным, як сцішылася хваля інфармацыйнай вайны. Што ўжо на сустрэчы спадара Нарышкіна, кіраўніка спраў Адміністрацыі расійскага прэзідэнта, з беларускімі журналістамі прагучала гатоўнасць Масквы дараваць свайму беларускаму візаві яго выпады. Услед за Нарышкіным прагучала і паблажлівае ад Пуціна — наконт хатняй сваркі паміж родзічамі.

Гэта тлумачэнне сталася вельмі папулярным пасля маскоўскага прымірэння. Лукашэнка атрымаў палітычны падарунак не толькі пад выбары, але і эканамічны на доўгі час пасля выбараў — прэферэнцыі па нафтавых мытах і цэнах на газ. Па розных ацэнках — ад 2 да 4 мільярдаў долараў у год (не восем, што былі, але можна пратрымацца і пазбавіцца ад боязі сацыяльнага выбуху).

Стала відавочнай канчатковая мэта інфармацыйнай вайны, разгорнутай Масквой супраць Мінска, — не мадэрнізацыя, не сапраўдныя дэмакратычныя перамены, пра што не раз заяўлялася, а «укрощение строптивого», прывядзенне яго да васальнай залежнасці. І ўсе ранейшыя папярэджванні спісаны як адпрацаваны хлам. У тым ліку і гэта выказванне прэсавага сакратара расійскага прэзідэнта: «Лукашенко сделал невозможным возврат к прежним отношениям».

Але дастаткова перагарнуць старонкі гісторыі, каб упэўніцца, што аўтарытарныя рэжымы не маюць незваротных кропак, маральных абмежаванняў, пачуцця годнасці. І толькі сапраўды дэмакратычная Расія, калі яна такой стане, не будзе ўяўляць сабой пагрозы незалежнасці Беларусі. Пакуль што гэтая пагроза толькі ўзрасла.

Зразумела, што А. Лукашэнка не змірыцца з роляй васала. Невыпадкова ж на Усебеларускім сходзе з яго вуснаў зноў прагучалі туга па СССР і ідэя аднаўлення нейкага цэнтра сілы на нашай на славянскай, на беларускай зямлі. Але перамога яго пірава, як на маскоўскім напрамку, так і ў Беларусі.

Хутчэй за ўсё, адпаведныя лічбы за абранне Лукашэнкі на чарговы тэрмін будуць намаляваныя, як заўсёды. І мы не ведаем, якой на гэты раз будзе Плошча. Плошчай надзеі, пачаткам пераможнага руху да хуткіх перамен? Але ведаем дакладна, што гэтыя перамены можам ажыццявіць толькі мы самі. І ніхто — ні Захад, ні Усход — не можа зрабіць гэта за нас.

**Апублікавана 17 снежня 2010 года**

**Пра шведска-беларускія адносіны, месца і ролю Беларусі ў еўрапейскай супольнасці з амбасадарам Швецыі ў Беларусі Стэфанам Эрыксанам размаўляў галоўны рэдактар «НЧ» Аляксей Кароль.**



### In memoriam

«Мяне глыбока закранула, калі я даведаўся пра сыход Аляксея Караля. Гэта вялікая страта перш за ўсё для яго родных і сяброў, але таксама для Беларусі.

Я пазнаёміўся са спадаром Аляксеем у 1999 годзе, калі ён разам з прадстаўнікамі розных палітычных партыяў прыняў удзел у абедзе з нашым міністрам замежных спраў Аннай Лінд. Спадар Аляксей тады ўразіў сваёй інтэлігентнасцю і разважлівасцю. Калі потым мы зноў сустрэліся ў Менску, я яму казаў, што мне яшчэ больш спадабаўся Кароль-журналіст, чым Кароль-палітык. Няхай іншыя рэдактары не пакрыўдзяцца, але я лічу «Новы Час» самай прафесійнай беларускай газетай.

Але, мабыць, больш за ўсё мне падабаецца Кароль-чалавек. Чалавек з вялікай літары, які ўмеў слухаць іншых, які меў сваю прынцыповую пазіцыю, якую спакойна і аргументавана абараняў і даводзіў.

Мне не будзе хапаць яго голасу ў грамадскай дыскусіі ў Беларусі, дзе замест аргументаў часта надта лёгка пераходзяць на асобы.

Насамрэч, спадар Аляксей павінен служыць прыкладам для ўсіх нас. Без павагі да іншых людзей, незалежна ад таго, ці падзяляеш іх погляды, няма дэмакратыі і цывілізаванага грамадства».

**Стэфан Эрыксан**

# Стэфан Эрыксан: У Беларусі ёсць добрая будучыня

***— Спадар Эрыксан, вы — першы амбасадар Швецыі ў Беларусі. Ужо праз гэта вы ўвайшлі ў гісторыю дыпламатыі Швецыі і ў найноўшую гісторыю Беларусі. Ці ўплывае ўсведамленне гэтага факта на вашу дзейнасць?***

— У пэўным сэнсе, уплывае. Тут, так бы мовіць, супалі дзве рэчы. З аднаго боку, гэта мая першая пасада ў якасці амбасадара, а з іншага — я першы амбасадар Швецыі, які стала жыве ў Беларусі. Канечне ж, у Беларусі і раней былі шведскія амбасадары, аднак яны жылі і працавалі пераважна ў Маскве. У такіх новых для мяне акалічнасцях сапраўды хацелася б не толькі адпавядаць усім чаканням і спадзяванням, ускладзеным на мяне іншымі, але і рэалізаваць свае ўнутраныя рэсурсы, безумоўна, на карысць справе.

***— Зразумела, што амбасадар ёсць праваднік палітыкі сваёй дзяржавы ў краіне знаходжання. А які зваротны ўплыў вашай інфармацыі, меркаванняў на выпрацоўку гэтай палітыкі?***

— Спадзяюся, што мае меркаванні адыграюць пэўную ролю. Як вы ведаеце, я ўжо далёка не першы год у Беларусі і маю даволі багаты досвед. Таму можна сказаць, што да мяне прыслухоўваюцца. Але ёсць такое паняцце ў дыпламатычнай практыцы, калі гавораць, што дыпламат можа стаць у нейкім сэнсе «мясцовым», і інфармацыя ад яго ўспрымаецца з пэўнай насцярогай. Таму стараюся заставацца па магчымасці аб'ектыўным і не даваць падстаў для такіх меркаванняў.

Але ж вядома, што палітыка любой дзяржавы выпрацоўваецца ў сталіцы. Адсюль я бачу толькі частку агульнага палітычнага ландшафту. А ўся панарама бачная са Стакгольма. А ёсць яшчэ Брусель, ёсць агульная знешняя палітыка Еўрасаюза, у межах якой каардынуе сваю палітыку Стакгольм. Але, безумоўна, меркаванні амбасадараў заўсёды прымаюцца ў ліку асноўных аргументаў для прыняцця рашэння.

***— Якраз адзін з перыядаў вашай дзейнасці ў якасці амбасадара супаў са старшынствам Швецыі ў Еўрасаюзе. Прычым гэтыя паўгода выпалі на час рэалізацыі новай палітыкі ЕС у адносінах да Беларусі, так званага дыялогу. Чым гэты перыяд быў адметны для вас? Якія, на ваш погляд, плюсы і мінусы дыялогу?***

— Паўгода старшынства ў Еўрасаюзе — не такі і вялікі тэрмін, каб пакінуць значны адбітак. І нават не ў тым яго галоўны сэнс. Бо падчас старшынства краіна, якая яго ажыццяўляе, павінна трохі забыцца на свае нацыянальныя прыярытэты і дзейнічаць зыходзячы з агульнаеўрапейскіх інтарэсаў.

У цэлым наша старшынства ў Еўрасаюзе было ацэнена станоўча. Мы працягнулі палітыку дыялогу з Беларуссю, які пачаўся да нас. Хачу падкрэсліць, што дыялог заўжды лепш, чым яго адсутнасць. Але каб ён меў выніку, павінна быць паразуменне паміж усімі яго ўдзельнікамі. Мы ж, Еўрасаюз і Беларусь, часам усё ж размаўляем на розных мовах. Адсюль і розная ступень паспяховасці нашага дыялогу.

Аднак нягледзячы на некаторыя складанасці і перашкоды, мы ўсё ж перакананыя, што дасягнуць узаемаразумення мы зможам толькі сродкамі адкрытага дыялогу. І, безумоўна, роля такога дыялогу напярэдадні выбараў павялічваецца.

***— Дык што ж будзе пакладзена ў аснову ацэнкі гэтых выбараў — крытэры «рэалпалітык» ці каштоўнасці?***

**Людзі ў пэўнай ступені ёсць вынік гісторыі. У сваёй няпростай, драматычнай гісторыі Беларусь засталася, выстаяла**

— Дыялог — гэта абсалютна не тое ж самае, што «рэалпалітык». І Еўрасаюз ніколі не адмаўляўся ад сваіх каштоўнасцяў, у тым ліку і ў знешняй палітыцы. У кастрычніку былі прынятыя высновы ЕС адносна Беларусі, якія выразна гэта ілюструюць. Тут нічога не мянялася і не зменіцца.

Канкрэтныя ж крытэры, па якіх мы можам ацэньваць вынікі выбараў, гэта, перш за ўсё, назіранне і высновы Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ). Назіральнікі з гэтай арганізацыі ўжо прыехалі ў Беларусь.

Што датычыцца першага этапу кампаніі — збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў і іх рэгістрацыі, — дык ён прайшоў, на маю думку, больш свабодна, чым у папярэднія разы. Аднак, нават улічваючы заўважную лібералізацыю на дадзеным этапе, мы цудоўна разумеем, што самае галоўнае наперадзе. Гэта і роўны доступ кандыдатаў да сродкаў масавай інфармацыі, і магчымасць бесперашкоднага правядзення сходаў і сустрэч, і арганізацыя самога працэсу галасавання, у тым ліку датэрміновага. На жаль, як мы ведаем, ЦВК адхіліла тыя прапановы, якія мелі на мэце зрабіць працэс падліку галасоў больш празрыстым. Такім чынам, поўная ацэнка ходу і вынікаў выбарчай кампаніі–2010 магчымая толькі пасля яе завяршэння. І яна, безумоўна, стане прадвызначальнай для далейшага дыялогу з Беларуссю.

***— Швецыя — адносна невялікая краіна, але маштаб яе праграм супрацоўніцтва, падтрымкі грамадскіх ініцыятыў у розных краінах, у тым ліку ў Беларусі, уражвае. Чым гэта тлумачыцца?***

— У гэтай сферы ў Швецыі ёсць даўнія і ўстойлівыя традыцыі ажыццяўлення праграм супрацоўніцтва. Не толькі адносна Беларусі, але і іншых краін. З чаго гэта вырасла? Мне падаецца, што ў нашым грамадстве ёсць усведамленне, нават вера ў тое, што мы знайшлі нейкі правільны шлях, вынайшлі мадэль дастаткова гарманічнага і справядлівага ўладкавання нашага грамадства, дзякуючы чаму яно дасягнула даволі высокага ўзроўню дабрабыту. Штогод каля аднаго адсотка нашага ВУП накіроўваецца на падтрымку розных праграм у іншых краінах. І калі рухнула Берлінская сцяна, наогул абвалілася жалезная заслона, натуральна, узнік інтарэс да нашых новых суседзяў, узнікла жаданне падзяліцца з імі нашым досведам, дапамагчы нейкім чынам. Былі распачатыя самыя розныя праграмы з удзелам краін Балтыі, з Расіяй, Украінай і таксама з Беларуссю. Адтуль усё і ідзе. Розніца? Калі і ёсць, дык толькі ў зацікаўленасці, каб нашы суседзі жылі таксама ў дабрабыце, у дэмакратыі. Ад гэтага і нам будзе лепей.

***— У чым ваша матывацыя на вывучэнне беларускай мовы ў краіне, дзе для выканання прафесійных абавязкаў хапіла б і рускай мовы, якой вы валодаеце дасканала?***

— Як вы самі разумееце, ніхто ж мяне не прымушаў яе вывучаць. Перш за ўсё, мне самому было цікава. Але я разумеў і праблемы моўнай сітуацыі ў Беларусі, праблемы з ужываннем беларускай мовы. Таму і паставіў перад сабой задачу вывучыць яе. Рэакцыя, як вы ведаеце, была станоўчая. Аказалася, што акрамя задавальнення свайго ўласнага інтарэсу, я сваім прыкладам хоць у чымсьці пазітыўна паўплываў на стаўленне да беларускай мовы, на падвышэнне яе аўтарытэту. Гэта, безумоўна, мяне натхняе.

***— У беларускай гістарычнай памяці захавалася мноства легенд, а на тэрыторыі Беларусі — мясцін, што нясуць на сабе адбітак старадаўніх, часамі складаных і драматычных дачыненняў нашых народаў. Ці не ўтрымліваецца тут знак і падказка для больш інтэнсіўнага супрацоўніцтва — сумесных навуковых даследаванняў, напісання папулярных прац, здымкаў сумесных фільмаў, арганізацыі адпаведных турыстычных маршрутаў?***

— Тут ёсць адна асаблівасць. У Беларусі інтарэс да гісторыі ў пэўных колах вельмі вялікі. Ён вынікае з таго, што беларускі народ толькі нядаўна аднавіў сваю дзяржаўнасць, сваю незалежнасць. У Швецыі гэты інтарэс не такі відавочны, ён больш стабільны. Зразумела, што ў нас не было такіх перыядаў, калі гісторыя была пад забаронай. Таму мы з ёй даволі добра знаёмыя і традыцыйна больш глядзім наперад, наша цікавасць па большасці засяроджана на сучаснасці, на тэндэнцыях яе развіцця ў будучыню. Адно, безумоўна, не павінна выключаць другое. І ў гэтай галіне шмат зроблена, у тым ліку вашым суайчыннікам Андрэем Катлярчуком, які напісаў грунтоўную даследчую працу, абараніў дысертацыю па шведска-беларускіх стасунках у XVII стагоддзі. Думаю, што магчымасці для развіцця супрацоўніцтва па гістарычнай тэматыцы ёсць. Да мяне звяртаецца шмат людзей з адпаведнымі канкрэтнымі прапановамі. Гэта ўсё вельмі цікава. Патрэбен толькі час і адпаведныя высілкі, крок за крокам.

***— Ваша камунікабельнасць, шырыня кантактаў з беларусамі ўжо таксама сталіся амаль легендай. Якой вам уяўляецца Беларусь і яе людзі?***

— Беларусь як краіна і яе людзі — прывабныя. Ужо шосты год ідзе, як я тут жыву. Калі б мне не падабалася, я б тут, відаць, не застаўся. Беларусь мае сваю ўнікальную гісторыю, і ў яе ёсць будучыня, упэўнены — добрая будучыня. Людзі ў пэўнай ступені ёсць вынік гісторыі. У сваёй няпростай, драматычнай гісторыі Беларусь засталася, выстаяла. Атрымаліся добрыя і таленавітыя людзі, нават не зважаючы на ўсе тыя пакуты, што выпалі на іх долю на гэтым скрыжаванні гістарычных шляхоў. Часам у мяне пытаюцца, ці моцна адрозніваюцца беларусы ад шведаў, ад еўрапейцаў. Я не лічу, што моцна. Беларусы для мяне — еўрапейцы, зразумела, як і кожны народ, са сваімі асаблівасцямі.

**Інтэрв'ю апублікавана 26 лістапада 2010 года (скарочана)**

# Дыялог: тупік, канец, паўза?

Аляксей КАРОЛЬ

**Гэта пытанне выспявала спакваля. Рэальную акрэсленасць яно набыло знешне нечакана, пасля таго, як камісар Еўрасаюза Беніта Ферэра-Вальднер адклала свой візіт у Мінск, а Аляксандр Лукашэнка замест сустрэчы з ёй адправіўся ў Арменію. І ўжо бясспрэчна востра яно выявілася ў кантэксце выказванняў Лукашэнкі пра дзеянні апазіцыі.**

Такога набору негатыўных ацэнак, у такой канцэнтрацыі і ў такой тэрміналогіі, даўно не гучала ў адкрытым эфіры: «пятая калона», «ворагі беларускага народа», «адмарожаныя», «ці то па п'яні, ці ад нейкай дурноты», «ім бы ўсё верашчаць», «пачынаюць плявузгаць».

Менавіта на апазіцыю кіраўнік краіны ўсклаў усю віну за збоі ў развіцці дыялога па жаданаму для яго сцэнару. Еўрапейцам жа даслаў дваісты сігнал. Станоўча ацаніў рашэнне Рады міністраў замежных спраў Еўрасаюза пра падаўжэнне тэрміну прыпынення санкцый адносна беларускіх чыноўнікаў. «Дзякуй, добра, — заявіў кіраўнік дзяржавы. — Але пытанне не ў чыноўніках і не ў Лукашэнку. Калі еўрапейцы думаюць, што нас можна трымаць на кручку, атрымоўваючы сігналы ад нашых «адмарожаных», і ўвесь час нас тузаць і панукаць без справы, то мы на такой пазіцыі дыялог весці не будзем». Гэтак жа ўхвальна адгукнуўся ён і на магчымасць далучэння Беларусі і да праграмы «Усходняе партнёрства».

Справа, аднак, не толькі і не столькі ў апазіцыі. І, сапраўды, «не ў чыноўніках і не ў Лукашэнку». А ў тых глыбінных, прынцыповых супярэчнасцях, якія ўтрымлівае ў сабе сам фармат дыялогу паміж дзвюма прынцыпова адрознымі палітычнымі сістэмамі — дэмакратычнай і аўтарытарнай. Дыялог і нават саюз паміж імі магчымы. Але толькі часовы. Ці на абсалютна прагматычнай аснове, у межах той самай «рэалпалітык», дзеля вырашэння нейкай вельмі важнай праблемы, перад тварам нейкай агульнай смяротнай небяспекі. Ці цаной паступовай трансфармацыі аўтарытарнай сістэмы ў дэмакратычную. Класічны прыклад першага варыянта — антыгітлераўская кааліцыя з адкатам да «халоднай вайны», другога — гарбачоўская перабудова і крах «імперыі зла».

Адкрытасць, дыялог — натуральны стан жыццядзейнасці дэмакратычных сістэм. Дамовы падлягаюць выкананню. Самаізаляцыя, да «жалезнай заслоны» ўключна, — натуральны стан існавання аўтарытарных і таталітарных дэмакратычных сістэм. Дыялог для іх — інструмент па неабходнасці, для дасягнення сваіх мэтаў, якія ўсе без выключэння падпарадкоўваюцца галоўнай — самазахаванню. Любой цаной.

Дамовы выконваюцца толькі ў гэтых межах і толькі пад ціскам абставін.

Усё гэта так ці інакш адлюстравалася ў дыялогу. Хаця, безумоўна, камплект сённяшніх праблем і супярэчнасцей, што з выразнасцю выявіліся на яго лязе, не ўяўляе сабой непасрэдны смяротнай небяспекі ні для рэжыму Лукашэнкі, ні тым больш для Захаду. Платформа агульнага інтарэсу шматкроць меншая. Аднак у гістарычным вымярэнні не менш значная: дэмакратыя ці дыктатура ў Беларусі з адпаведным уплывам на агульнаеўрапейскі палітычны клімат.

Беларускі рэжым быў ініцыятарам і архітэктарам палітыкі самаізаляцыі і канфрантацыі з Захадам. І па-свойму, пад ціскам абставін, што выходзілі цяпер ужо і з Усходу, стаўся ініцыятарам вяртання да дыялогу з Еўрасаюзам. Разглядаючы яго найперш як інструмент пашырэння сваіх магчымасцей для манеўра, для лавіравання паміж Расіяй і Еўрасаюзам.

Інтарэс Захаду да гэтага дыялогу быў прадыктаваны яго вернасцю дэмакратычным каштоўнасцям, але і значна падагрэты геапалітычным інтарэсам на супрацьдзеянне імперскім амбіцыям Масквы па падпарадкаванні Мінска сваім інтарэсам. Асабліва ў кантэксце расійска-грузінскай вайны і ціску Крамля на Мінск аб прызнанні незалежнасці Паўднёвай Асеціі і Абхазіі.

Геапалітычны матыў на пэўным этапе нават пераўзышоў каштоўнасную матывацыю да дыялогу і яго фармат, што спарадзіла яшчэ адну лінію супярэчнасцей як унутры беларускай дэмакратычнай апазіцыі, так і ў саміх краінах Еўрасаюзу. Акрамя агульных праблем — санкцыі і далучэнне Беларусі да праграмы «Усходняе партнёрства», пад умовы ці без іх, — гэта лінія пэўным чынам персаніфікавалася на пытанні, запрашаць ці не ў Прагу на саміт Лукашэнку. Апазіцыянеры, прыхільнікі палітыкі каштоўнасцей, не хавалі свае аргументы ад заходніх партнёраў, і, відавочна, мелі ўплыў. Адсюль і рэакцыя кіраўніка краіны. Як і відавочна, што аптымальны баланс паміж двума падыходамі ўжо выразна акрэсліўся.

Дыялог жа, ужо сам па сабе — візіты, кантакты, «круглыя сталы», семінары, канферэнцыі — нясе ў сабе пагрозу парушыць баланс устойлівасці аўтарытарнай сістэмы ад сувязяў са знешнім светам. І таму падключэнне да дыялогу апазіцыі паўстае для рэжыму найбольшай пагрозай. Нават большай за яго канкрэтны змест, тыя самыя пяць умоў, вылучаных Еўрасаюзам. Пакуль там яшчэ ад слоў да справы... Тут жа ўсё можа абярнуцца фактычнай легалізацыяй апазіцыі і ростам яе рэальнага ўплыву на грамадскую свядомасць. Асабліва на фоне росту незадаволенасці насельніцтва пад ціскам эканамічнага крызісу. Нягледзячы на яе сённяшнюю слабасць. Так ужо было напачатку 1990-х гадоў. Сённяшняя вертыкальная наменклатура апынулася ў ролі тагачаснай партыйна-дзяржаўнай наменклатуры. І гэта ёсць асноўная прычына віцебскага адказу на знешнепалітычную актывізацыю апазіцыі.

Дыялог спатыкнуўся. Захад адклаў пакуль што на тыдзень рашэнне пра далучэнне Беларусі да праграмы «Усходняе партнёрства». Лукашэнка ад'ехаў у Маскву на сустрэчу з Мядзведзевым, дзе апроч іншых будуць абмяркоўвацца і пытанні ваеннага супрацоўніцтва.

Дыялог працягваецца. З Захадам — на ўзроўні перамоваў (калі не лічыць крэдыту ад МВФ). З Расіяй — яшчэ і на ўзроўні канкрэтнага супрацоўніцтва. У даўно апрабаваным варыянце — спалучэнні ціску, і эканамічных прэферэнцый, бізуна і перніка. І гэта фаза дыялогу, на абодва бакі, яшчэ далёкая ад свайго завяршэння. Але развязка набліжаецца.

**Апублікавана 21 сакавіка 2009 года**

# На шалях дыялога

Аляксей КАРОЛЬ

**Тэрміны «дыялог», «лібералізацыя», здаецца, прыжыліся не толькі на старонках незалежных, але і дзяржаўных СМІ. Больш таго, яны ўсё лягчэй і часцей зрываюцца з вуснаў чыноўнага люду, прычым не толькі высокапастаўленага. Пакаціліся яшчэ крамольныя слоўцы і ўніз па прыступках вертыкалі.**



Але што за словамі? Працэс пайшоў? Ці славесным звонам усё і абмяжуецца? Ці ў тым і разлік, каб напусціць туману і звесці на нішто, дыскрэдытаваць сапраўдны сэнс і змест рэформ, азначаных гэтымі тэрмінамі? Згадваецца адпаведны бліскучы ход бюракратыі часоў перабудовы, калі ёй удалося зганьбіць у масавай свядомасці тэрміны «дэмакратыя» і «дэмакратызацыя», падмяніўшы іх на (у рускім вымаўленні) «дерьмократию» і «дерьмократизацию». Што ў немалой ступені дапамагло ёй павярнуць працэс.

І, падаецца, не выпадкова тэрмін «дэмакратызацыя», які, здавалася б, лагічна напрошваецца ў тандэм да слова «лібералізацыя», чамусьці ўпарта абмінаецца ўладнай бюракратыяй. Ці не таму, што той фокус ужо разгаданы, і людзі ўжо добра ўсведамляюць, чым насамрэч з'яўляецца сучасны рэжым, абвешчаны вядомай асобай найлепшай дэмакратыяй у свеце.

Але Бог з ёю — тэрміналогіяй. Неверагодныя здольнасці дыктатур да перахопу і выхалошчвання чужых лозунгаў — асаблівасць не толькі беларускай бюракратыі. Галоўнае — што за словамі, як суадносяцца паміж сабой рэальныя тэндэнцыі развіцця дыялога. На карысць сапраўдных перамен ці іх імітацыі і адкату назад?

На дыялог з Захадам, што відавочна ўжо ўсім, улады пайшлі вымушана. Пад ціскам перавважна знешніх фактараў, абумоўленых найперш зменай эканамічнай кан'юнктуры. Прычым у нечаканым для іх спалучэнні — як з Захаду, так і з Усходу. І ў звязцы з абсалютна для іх не прымальнымі патрабаваннямі (з боку Захаду) аб правядзенні дэмакратычных рэформ.

Тым больш, што эканамічны крызіс, адступленне да дыялога выявілі з відавочнасцю і ўнутраныя слабасці, агульную адсталасць, архаізм беларускай мадэлі. Не толькі эканамічнай, але і палітычнай.

Аўтарытарны рэжым не мае права на слабіну. Між тым як уся сітуацыя аказалася непрадбачнай для архітэктараў дадзенай мадэлі. Падкрэсліваю, менавіта архітэктараў, бо гэта мадэль не ёсць вынік творчасці аднаго чалавека, а вынік свядомых намаганняў і вымушаных хадоў менавіта савецкага вырабу кіроўнага класа па ўтрыманні ўлады ў сваіх руках. Новы лідар — вымушаная неабходнасць. А вось рэферэндум па адмене абмежавання тэрміну абрання аднэй асобы на пасаду прэзідэнта знаменаваў сабой якраз упэўненасць як новага лідара, так і абноўленай уладнай бюракратыі ў сваёй поўнай і беззваротнай перамозе, уладкаванні калі не навечна, то надоўга.

Да нечаканай змены сітуацыі і лідар, і ўся яго ўладная вертыкаль падрыхтаваны не былі і мусілі зноў прыстасоўвацца, лавіраваць і шукаць выратавальныя хады. Дыялог для іх стаўся выклікам і пагрозай, якія, аднак, немагчыма было адрынуць. І беларускай бюракратыі нічога іншага не заставалася, як паспрабаваць ператварыць дыялог у інструмент самаабароны, каб выйграць час, атрымаць крэдыты і з іх дапамогай перачакаць цяжкасці і ўратавацца не проста з найменшымі стратамі для сябе, але і з выхадам на новыя магчымасці, новы лад жыцця — адкрыта, легальна багатых людзей. Адпаведна сваім пасадам і багаццю.

Мяжа перамен вызначана дакладна: эканамічная лібералізацыя пры мінімальных палітычных пераменах. Але... З глыбока захаванай гатоўнасцю бюракратычнай і знітаванай з ёю бізнесэліты на замену лідара — на свайго. І з прыхаванай жа барацьбой унутраных груповак за паўнату ўлады. «Галубы» могуць пайсці і на мінімальную лібералізацыю выбарчага заканадаўства, якая б, аднак, гарантавала ім камандныя пазіцыі. Мадэль так званай «кіруемай дэмакратыі» ім бы падышла.

У пэўнай ступені вымушаным быў дыялог і для Захаду, з-за нечаканай устойлівасці беларускага рэжыму да знешняй ізаляцыі і палітычнага ціску (дзякуючы казачным эканамічным прэферэнцыям з боку Расіі). У дыялогу яны ўбачылі інструмент, якім можа падштурхнуць Беларусь да эканамічных рэформ, якія, у сваю чаргу, запатрабуюць і пэўных перамен палітычнай сістэмы. Патрабаванні дэмакратызацыі да афіцыйнага Мінска Еўрасаюз і ЗША са свайго блоку ўмоў пакуль не выключылі. Што яшчэ раз пацвердзіў міністр замежных спраў Германіі Франк-Вальтэр Штайнмаер падчас сустрэчы з міністрам замежных спраў Беларусі Сяргеем Мартынавым. «Правядзенне далейшых дэмакратычных рэформ, — падкрэсліў Штайнмаер, — застаецца перадумовай для новага пачатку ў адносінах паміж Беларуссю і Еўрапейскім саюзам і для поўнай адмены санкцый».

Пытанне, аднак, у тым, наколькі сябры Еўрасаюза будуць паслядоўныя і адзінадушныя ў гэтых патрабаваннях.

Пакуль што, калі супаставіць канкрэтны змест і крокі дыялога, агульны яго вынік выглядае на карысць беларускіх уладаў. Але шалі гойдаюцца, працэс у развіцці.

**Апублікавана 15 лютага 2009 года**



## Ханс-Ёхан Шмідт:

# Дзейнічаць у агульным полі актыўнасці

**Інтэрв'ю Ханса-Ёхана Шмідта, кіраўніка офіса АБСЕ ў Мінску шэф-рэдактару «Новага часу» Аляксею Каралю.**

***— Спадар пасол, тэма працы місіі АБСЕ ў Беларусі набывае асаблівую актуальнасць у сувязі з уключэннем Беларусі ў праграму «Усходняе партнёрства». Відавочная тут і роля місіі АБСЕ ў Мінску, якая працуе з верасня 1997 года (спачатку як Кантрольна-назіральная група АБСЕ, а з 2003 года — пад назвай Офіс АБСЕ ў Беларусі). Працуе ў няпростых умовах. 2001–2002 гады адзначаныя згортваннем практычна ўсіх праектаў АБСЕ ў Беларусі, фактычным закрыццём місіі. Пасля ад'езду кіраўніка місіі Ханса-Георга Віка, новы яе кіраўнік — Эберхард Хайкен — атрымаў магчымасць выконваць свае абавязкі толькі ў пачатку 2003 года. Вы ўзначальваеце місію ў Беларусі крыху больш за год. Якімі вы бачыце месца і ролю місіі АБСЕ ў Беларусі, яе магчымасці, формы і метады дзейнасці, узаемадзеянне з рознымі палітычнымі і грамадскімі сіламі?***

— Мне згадваецца гутарка з міністрам замежных спраў Беларусі ў снежні 2007 года, падчас майго нефармальнага прадстаўлення. Размова датычыла і згаданага вамі перыяду. Тады, пасля закрыцця офіса ў 2002 годзе, было вельмі не проста даць АБСЕ яшчэ адну магчымасць аднаўлення дзейнасці. Падчас перамоў было ўзгоднена, як аформіць новы мандат. На мой погляд, ён не надта адрозніваецца ад мандата, па якім працаваў спадар Вік. Мы маем магчымасць працаваць па двух накірунках — чалавечым або палітыка-эканамічным. Мы можам таксама весці маніторынг.

Калі я прыехаў сюды (а здарылася гэта 4 лютага 2008 года), сітуацыя адрознівалася ад сённяшняй, існавала пэўная напружанасць. Былі вызвалены некалькі вязняў, прызнаных міжнароднымі праваабарончымі арганізацыямі палітычнымі зняволенымі, але не быў вызвалены Казулін. Гэта справакавала жорсткую рэакцыю з боку некаторых краін. І гэта ўсё, на маю думку, адмоўна адбілася на нашай працы.

Думаю, працоўны клімат стаў змяняцца да лепшага з моманту, калі было прынята рашэнне пра допуск каманды БДІПЧ у Беларусь з місіяй назірання за выбарамі. Беларускія ўлады вельмі канструктыўна распрацавалі мандат місіі, прычым без абмежавання яе колькасці. Пасля выбараў БДІПЧ апублікавала сваё заключэнне, што дало магчымасць наладзіць экспертныя дыскусіі. Мы дапамагалі таксама рыхтаваць сустрэчы, якія адбыліся ў пачатку гэтага года, паміж экспертамі АБСЕ і Беларусі; кансультацыі былі накіраваныя на распрацоўку прапаноў аб зменах Выбарчага кодэкса па рэкамендацыях БДІПЧ. У гэты раз, у адрозненне ад трох папярэдніх, улады паведамілі пра сваю гатоўнасці да станоўчых адказаў на гэтыя рэкамендацыі. Паглядзім.

***— Але ж выбары не былі ні свабоднымі, ні справядлівымі. І ацэнку ім БДІПЧ дало даволі жорсткую. Тым не менш, дыялог быў працягнуты. Якім чынам непразрыстасць выбараў і працяг дыялога спалучаюцца ў разуменні заходніх палітыкаў?***

— З боку Захаду існуюць пэўныя спадзяванні. Пасля выбараў Еўрасаюз прыняў рашэнне пачаць кансультатыўны палітычны дыялог. Беларускі бок адказаў, што ён станоўча ўспрымае прапановы БДІПЧ і гатовы арганізоўваць «круглыя сталы» з удзелам прадстаўнікоў як дзяржаўнага, так недзяржаўнага сектараў, прысвечаныя праблемам СМІ. Гэтыя сігналы справакавалі чаканні Захаду. Паглядзім, якія канкрэтныя крокі зробіць беларускі бок у найбліжэйшай будучыні, каб пацвердзіць гэтыя спадзяванні.

***— Зараз мы назіраем другую спробу дыялога. Першая адбылася ў 1999 годзе па ініцыятыве спадара Віка. І была рэзка абарваная беларускімі ўладамі, пасля надышоў доўгі перыяд абвастрэння адносін з Захадам. Наколькі вялікая верагоднасць таго, што і гэтую спробу чакае падобны фінал?***

— Цяжка прадказаць будучыню. Я думаю, што сёння палітычнае кіраўніцтва вашай краіны зацікаўлена ў развіцці і паляпшэнні адносін не толькі з Расіяй, але і з Захадам. Па розных прычынах. Думаю, не варта папракаць Захад, нібыта яго зацікаўленасць у дыялогу тлумачыцца выключна камерцыйнымі прычынамі. З досведу папярэдніх гадоў заходнія палітыкі зрабілі выснову пра тое, што ізаляцыя не прыносіць жаданых вынікаў. І лепш знайсці шлях, які дазваляе абодвум партнёрам дзейнічаць у агульным рэчышчы актыўнасці, якое прадстаўляе ўзаемныя інтарэсы. У гэтым рэчышчы знаходзяцца і функцыі офіса АБСЕ. Хоць іх значэнне не варта пераацэньваць. Кіраўнік гэтага офіса не павінен рабіцца каталізатарам унутранага палітычнага дыялога — напрыклад, каталізатарам афармлення апазіцыйных сіл. Гэта задача саміх апазіцыйных сіл. Гэта задача Беларусі — знайсці свой палітычны шлях. Гэта задача вашых палітыкаў, грамадзян — знайсці выхад з крызісу. З крызісу эканамічнага. З крызісу, паводле меркавання шмат каго, палітычнага. Мы можам быць карысныя ў ролі мадэратара. У стасунках як з грамадствам, з прадстаўнікамі грамадскіх сіл, так і з выканаўчай уладай.

***— Калі кажуць, што палітыка ізаляцыі не прынесла вынікаў, неяк выпускаецца з поля зроку, што гэта была палітыка самаізаляцыі, характэрная для ўсіх аўтарытарных рэжымаў. З такімі рэжымамі дэмакратычныя краіны падтрымліваюць звычайныя міждзяржаўныя адносіны. Гэта значыць, сёння мы назіраем па сутнасці вяртанне не да дыялога як такога, не да поўнамаштабнага, глыбокага і ўсебаковага супрацоўніцтва на аснове агульных прынцыпаў, агульных каштоўнасцяў, а да больш-менш нармальных кантактаў. На ваш погляд, гэтая палітыка кантактаў пашыралася? І якія яе перспектывы?***

— Вядома, развіццё гэтых кантактаў у бок паўнавартаснага дыялога шмат у чым вызначаецца ўнутранымі параметрамі развіцця грамадзянскай супольнасці. І задача місіі — спрыяць гэтаму. Аднак не на шляху палітызацыі, як я ўжо казаў, а на шляхах садзейнічання развіццю ўнутранага дыялога паміж грамадствам і ўладай. Мы можам прывесці шэраг прыкладаў дастаткова паспяховага, на карысць насельніцтву, супрацоўніцтва грамадскіх арганізацый з уладамі ў рэгіёнах. Гэтаму і спрыяем.

Натуральная сфера развіцця супрацоўніцтва — эканамічная. Важным, на наш погляд, з'яўляецца лібералізацыя візавага рэжыму. Я здзіўлены тым фактам, што большасць насельніцтва не вельмі добра ведае заходнія краіны, што каля 70 працэнтаў жыхароў Беларусі ні разу не выязджалі за мяжу, што больш паловы жыхароў краіны ні разу не мелі стасункаў ні з адным замежнікам — такія дадзеныя вашых сацыялагічных даследаванняў. І гэта вынік, у тым ліку, і высокага кошту віз. Калі Еўрасаюз хоча палепшыць імідж заходніх краін у вачах насельніцтва Беларусі, ён павінен паслабіць візавы рэжым, што, дарэчы, добра разумеюць краіны «новай» Еўропы і не вельмі добра — «старой».

Адкрыць межы з нашага боку — азначае павялічыць давер да нас, спрыяць стварэнню калідора з захаду на ўсход, з поўначы на поўдзень. Гэта значыць, неадкладна выкарыстаць на карысць Беларусі яе выгоднае геаграфічнае становішча для пашырэння яе міжчалавечых, турыстычных, эканамічных, культурных і камерцыйных кантактаў. Развіццё гэтых сувязяў абсалютна не ідзе на шкоду сувязям з Расіяй.

Мая краіна, Германія, пасля вайны аднаўлялася, у тым ліку і абапіраючыся на крэдыты ЗША на вельмі льготных умовах. Гэтыя крэдыты Германіі ды іншым краінам даваліся не толькі з гуманных меркаванняў, але і каб забяспечыць экспартныя рынкі.

Беларусі вельмі бракуе заходніх інвестыцый для мадэрнізацыі эканомікі. У гэтым ёсць наўпроставая зацікаўленасць вашага палітычнага кіраўніцтва, асабліва цяпер, калі вы шукайце шляхі выйсця з эканамічнага крызісу, але ў вас няма выхаду да крэдытных рынкаў. Мы бачым сваю задачу яшчэ і ў тым, каб паказаць насельніцтву, што дыялог — шлях да паляпшэння яго сацыяльна-эканамічнай базы, яго дабрабыту.

> **Я думаю, што кіраўніцтва вашай краіны зацікаўлена ў паляпшэнні адносін не толькі з Расіяй, але і з Захадам**

***— Вы лічыце, што адрозненні ў пазіцыі заходніх партнёраў сур'ёзна не паўплываюць на характар дыялога і на развіццё адносін з Беларуссю, што прагматыка партнёрства будзе адэкватнай каштоўнасным устаноўкам?***

— Супярэчнасці і ўзаемная крытыка — норма дэмакратычна арганізаваных структур на шляху да ўзгодненых рашэнняў. Тым больш, калі ў гэтай структуры 27 самастойных краін. Але мне было прыемна чуць словы былога міністра замежных спраў Германіі, які нядаўна ўзгадаў, якой жорсткай крытыцы падвяргалася ў свой час наша краіна за яе нежаданне адмовіцца ад маркі на карысць еўра. Уявіце сабе, падкрэсліў ён, з якімі б непараўнальнымі цяжкасцямі мы сутыкнуліся б цяпер, у час эканамічнага крызісу, калі б захавалі марку і не перайшлі на еўра.

Палітычныя і эканамічныя працэсы маюць розную дынаміку ў розныя эпохі, у розных краінах. Трэба мець цярпенне. Хто калісьці думаў, што Іспанія ператворыцца ў аднаго з самых актыўных і аўтарытэтных еўрапейскіх партнёраў? А досвед Польшчы, якой таксама няпроста было прайсці працэс мадэрнізацыі, паказаў магчымасці Еўрасаюза адказаць на выклік інтэграцыі ў яго межы краін з цалкам іншай сістэмай.

Думаю, што інтарэс Беларусі ва «Усходнім партнёрстве» — у магчымасцях ажыццявіць мадэрнізацыю эканомікі і стварыць такую матэрыяльную базу, якая дазволіць насельніцтву перажыць крызіс і выйсці на годны ўзровень дабрабыту тут, у роднай краіне, не ад'язджаючы за мяжу. Дазволіць пазбегнуць уцечкі кваліфікаваных кадраў і мазгоў.

Найперш трэба стварыць для моладзі ўмовы для самарэалізацыі. Мы шмат працуем з універсітэтамі, я ведаю, якая таленавітая ваша моладзь. Праблема моладзі, дарэчы, — гэта праблема і апазіцыі, якая ў асноўным сталага веку. Я сам немалады чалавек, і з вышыні свайго ўзросту, у кантэксце ўсяго гістарычнага досведу, асабліва выразна разумею, якімі негатыўнымі наступствамі для краіны пагражае страта моладзі. Аж да страты самой краіны.

Павінен адзначыць, што разуменне ўсяго комплексу складаных праблем, што стаяць перад Беларуссю, у асяроддзі афіцыйных структур, асабліва сярод іх маладых прадстаўнікоў, робіцца ўсё больш.

***— Ад пазіцыі Захаду шмат у чым залежыць лёс трох арыштаваных — Аўтуховіча, Лявонава і Асіпенкі. Якая гэтая пазіцыя?***

— Я думаю, адказам на іх арышт і з'явілася хваля крытыкі ў дачыненні да беларускіх уладаў. Ускладняе гэты факт і працэс збліжэння ў рамках дыялога. Наша пазіцыя ў тым, каб як мага хутчэй адбыўся аб'ектыўны судовы працэс, які б даў арыштаваным магчымасць даказаць сваю невінаватасць.

***— Якое ўяўленне пра Беларусь склалася ў вас за 14 месяцаў жыцця тут?***

— Уражвае, што, нягледзячы на эканамічны крызіс, у настроях людзей пераважае аптымізм. Уражвае маладая Беларусь, моладзь Беларусі, з яе цікавасцю да новага, з яе пільнай увагай да развіцця эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў краіне і ў свеце, з яе жаданнем атрымаць добрую адукацыю і на карысць сабе і краіне.

**Апублікавана 15 мая 2009 года**

# Асноўныя каштоўнасці застаюцца нязменнымі

**30 чэрвеня 2009 года, у Беларусь у якасці Часовага паверанага ў справах Злучаных Штатаў Амерыкі прыехаў Майкл Скэнлан. Кадравы дыпламат, які папрацаваў у шмат якіх краінах свету. Якім быў гэты год для Майкла Скэнлана і для амбасады ЗША? Пра гэта з Часовым павераным у справах Злучаных Штатаў Амерыкі размаўляе галоўны рэдактар НЧ Аляксей Кароль.**



*— Спадар Скэнлан, як вам у нас?*

— На жаль, умовы, у якія была пастаўлена наша амбасада ў Беларусі, абмяжоўваюць мае магчымасці знаёмства з жыццём і людзьмі вашай краіны. Я ніколі не працаваў у амбасадах, дзе толькі пяць супрацоўнікаў. Калі я расказваю пра гэта сваім калегам, яны не могуць такое ўявіць. У нас выключна напружаны працоўны графік, што сур'ёзна скарачае мае магчымасці вандраваць па Беларусі і сустракацца з людзьмі.

Акрамя таго, нашы перамяшчэнні па Беларусі абмежаваны саракакіламетровай зонай. Такім чынам, калі ў выходныя нехта з сяброў ці знаёмых скажа: «Майкл, хочаш далучыцца да мяне з сябрамі на шашлык на прыродзе?» — я мушу запытацца, а ці ўваходзіць гэта месца ў саракакіламетровую зону ад цэнтра Мінска, якой мы абмежаваныя, калі не пададзім за 24 гадзіны дыпламатычную ноту.

Аднак нягледзячы на гэта, я езджу па Беларусі. Мінулай зімой калі-нікалі катаўся на сноўбордзе, зрэдку атрымлівалася выбрацца пагуляць у тэніс, схадзіць у кіно. Апошнім часам удалося паглядзець шэраг цікавых гульняў Чэмпіянату свету па футболе.

Дзякуючы гэтаму я лепш пазнаёміўся з Беларуссю, яшчэ раз пераканаўся, што ў людзей заўсёды знойдуцца агульныя інтарэсы і супадаючыя захапленні. І гэта цудоўна, бо нагадвае, што трэба заставацца чалавекам і атрымліваць асалоду ад жыцця.

Я ўдзячны беларусам, якіх ведаю, з якімі я пазнаёміўся не толькі па працы, і з якімі я магу добра бавіць вольны час.

*— Нядаўна пры адкрыцці фотавыставы «Амерыка вачыма беларусаў» у вашым выступе прагучала спадзяванне на пашырэнне штату амбасады. Гэты аптымізм на чымсьці грунтуецца?*

— У дадзеным выпадку я зыходзіў не з аптымізму, а з вядомага выслоўя, якое часта чую тут: «Надзея паміраe апошняй». На жаль, ніякіх сігналаў з боку беларускага ўраду не было, нягледзячы на тое, што мы пастаянна гатовыя да пашырэння дыялогу і супрацоўніцтва ў розных сферах.

*— У гэтым кантэксце лагічна запытацца пра пераемнасць палітыкі адміністрацыі Барака Абамы ў адносінах да Беларусі?*

— Пытанне пра тое, у чым палягае новая палітыка, — адно з найбольш папулярных пытанняў прэсы. У многіх аспектах сапраўды ёсць змены, таму што людзі выбіраюць новага прэзідэнта і, адпаведна, новую адміністрацыю менавіта дзеля перамен. Аднак знешняя палітыка ЗША грунтуецца на шэрагу галоўных прынцыпаў, у прыватнасці такіх, як захаванне правоў чалавека. Гэта канстанта. Могуць быць адрозненні ў падыходах, але асноўныя каштоўнасці застаюцца нязменнымі.

Калі мы паглядзім на палітыку папярэдняй і цяперашняй адміністрацый у адносінах да Беларусі, дык мы ўбачым, што тут усё ясна і проста. Пытанне правоў чалавека і пытанне наконт прымянення санкцый злучаныя паміж сабой, яны ў адной упакоўцы. Гэта простае матэматычная ўраўненне. Калі сітуацыя з правамі чалавека паляпшаецца — санкцыі памяншаюцца. І наадварот. Але — як гэта было і раней, і ёсць цяпер — трэба акцэнтаваць увагу на тых сферах, дзе мы можам знайсці агульныя інтарэсы, сумесна працаваць, каб пераадолець складанасці і перашкоды глабальнага ўзроўню. У прыватнасці, у такіх сферах, як нераспаўсюд зброі, пашырэнне культурных і адукацыйных абменаў, навуковыя даследаванні, абмен досведам і ведамі па сацыяльных пытаннях і пытаннях аховы здароўя, барацьба з транснацыянальнай злачыннасцю, гандлем людзьмі. Гэта пашырэнне свабоднага абмену інфармацыяй, каб людзі маглі лепш адзін аднаго ведаць.

Адказу ад беларускага ўрада мы не пачулі. Мы як былі, так і застаёмся адкрытымі ў гэтых галінах. І рашэнне будзе залежыць толькі ад вашага ўраду.

Усё, што мы робім, мы робім у цесным і адкрытым супрацоўніцтве з Еўропай. Гэта была паслядоўная палітыка ў адносінах да Беларусі на працягу болей чым дзесяцці апошніх гадоў, і такой яна застаецца.

*— Нядаўна ЗША прынялі рашэнне наконт працягу санкцый у адносінах да пяці беларускіх чыноўнікаў. Гэта можна лічыць пацвярджэннем пераемнасці палітыкі і адказам на тое, што ў палітыцы Беларусі не адбываецца ніякіх пазітыўных зрухаў?*

— Гэта звязана з сітуацыяй з правамі чалавека, з незалежнымі сродкамі масавай інфармацыі, са свабодай дзейнасці грамадскіх асацыяцый, правядзеннем свабодных і празрыстых выбараў. Гэта ўсё звязана з санкцыямі. Гэта сістэма, працэс, у якім для нас няма фаварытаў. І які, у яго дэмакратычным фармаце, дазволіў бы беларусам прымаць рашэнні пра ўладкаванне свайго жыцця самастойна.

Напачатку 2009 года было адчуванне, што сітуацыя з правамі чалавека сапраўды паляпшаецца. Як вынік, ЗША і Еўрапейскі саюз крыху зменшылі санкцыі. Памочнік дзяржаўнага сакратара ў жніўні 2009-га прыехаў у Мінск, каб яшчэ раз падкрэсліць тры асноўныя прынцыпы нашай знешняй палітыкі ў адносінах да Беларусі, а таксама важнасць дыялога, вынікам якога стала б паляпшэнне сітуацыі з правамі чалавека і адпаведнае змяншэнне санкцый.

Але, на жаль, гэтага не адбылося, і вы памятаеце нашу заяву ў лістападзе 2009 года, у якой гаварылася, што сітуацыя з правамі чалавека захавалася нязменнай і, такім чынам, нязменнымі засталіся і нашы санкцыі: яны не змякчыліся і не ўзмацніліся.

У маі 2010-га мы казалі, што гэты статус-кво захаваўся і што мы назіралі негатыўную тэндэнцыю ў сферы правоў чалавека, якая выклікае нашу занепакоенасць і якую нам трэба будзе ўлічваць, калі яна будзе працягвацца, пры разглядзе пытання пра санкцыі ў лістападзе гэтага года. Апошнім часам мы занепакоеныя і такімі падзеямі, як ціск на прафесара Манаева, звальнення якога з БДУ патрабуюць улады, і ціск на актывістаў кампаніі «Гавары праўду!».

Разам з тым мы застаёмся адкрытымі да дыялогу, да пашырэння магчымага супрацоўніцтва, але з беларускага боку павінна быць здзейснена нешта рэальнае, павінны быць рэальныя справы, а не толькі размовы пра тое, што трэба нешта рабіць. Мы заўсёды гатовыя да перамоваў, але нашы дзеянні будуць вызначацца дзеяннямі беларускага ўрада.

*— У чым Злучаныя Штаты бачаць значэнне Беларусі ў агульнаеўрапейскім кантэксце?*

— На гэта пытанне поўны адказ павінна даць сама Беларусь. Як нядаўна сказаў беларускі міністр замежных спраў спадар Мартынаў, Беларусь не жадае быць часткай Расіі, не жадае быць часткай Еўрасаюза, Беларусь хоча быць часткай Еўропы. Цяпер засталося дачакацца, каб Беларусь вызначылася з тым, што гэта азначае. Еўрасаюз выказаў свой пункт погляду, свае пажаданні наконт таго, што Беларусь мусіць здзейсніць, калі яна імкнецца пашырыць рамкі свайго супрацоўніцтва з ЕС.

*— У свой час ЗША адыгралі адну з асноўных роляў у вызваленні палітычных зняволеных у Беларусі. Нядаўна завяршыўся працэс над Мікалаем Аўтуховічам. Ён асуджаны на пяць гадоў, хаця па сутнасці ўсе абвінавачванні супраць яго рассыпаліся. Беларускія праваабаронцы ацэньваюць гэты працэс як палітычна матываваны. Ваша пазіцыя на гэты конт?*

— Супрацоўнікі амбасады прысутнічалі на пасяджэннях суда. Мы ўважліва назіралі за працэсам і, як адзначылі ў сваёй заяве, занепакоены прысудам, вынесеным Мікалаю Аўтуховічу і яго калегам. У гэтым і іншых выпадках мы падкрэслівалі беларускім уладам важнасць прытрымлівацца належных юрыдычных працэдур. І спадзяваліся, што беларускія ўлады скарыстаюцца гэтай магчымасцю, каб прадэманстраваць сваю прыхільнасць да выканання юрыдычных працэдур і судовую незалежнасць. На жаль, ёсць прычыны ўсумніцца ў адпаведнасці гэтага працэсу ў тым, што тычыцца грамадзянскіх правоў спадара Аўтуховіча і трох другіх чалавек.

Калі ў Беларусі не будзе прадэманстравана большай павагі да базавых правоў чалавека, нам будзе складана ўбачыць магчымасці паляпшэння нашых адносін.

*— У гэтай сувязі, якая ваша ацэнка сітуацыі са свабодай СМІ ў Беларусі ўключна з апошнімі захадамі па кантролі за інтэрнэтам?*

— На жаль, мы назіраем узрастаючы ціск на сродкі масавай інфармацыі, што ёсць праяўленнем агульных негатыўных тэндэнцый у сферы правоў чалавека. Гэта папярэджанні газетам, ціск на журналістаў, пастаянная дазіроўка доступу ў дзяржаўную сістэму распаўсюду. Гэта і прымяненне артыкула 193–1, і артыкулаў, якія прадугледжваюць крымінальную адказнасць за права людзей на свабоду сходаў і выказвання свайго меркавання. Гэта і нежаданне беларускіх уладаў прыслухацца да рэкамендацый БДІПЧ, каб забяспечыць неабходныя ўмовы для правядзення свабодных і празрыстых выбараў. Гэта і патэнцыйная пагроза абмежавання доступу да інтэрнэта. Паглядзім, як сітуацыя з інтэрнэтам будзе выглядаць пасля 1 ліпеня.

Як мы ўжо адзначалі, усе гэтыя акалічнасці будуць браца пад увагу, калі мы будзем прымаць рашэнне па санкцыях у лістападзе бягучага года.

*— У Беларусі набліжаецца прэзідэнцкая выбарчая кампанія. Ці будзе гэта кампанія ў полі зроку амбасады ЗША? У якіх рамках, па якіх крытэрыях будзе ацэньвацца легітымнасць будучых выбараў прэзідэнта?*

— Ключавы момант — працэс, правядзенне выбараў. Не толькі на дзень галасавання, але ўсёй кампаніі. Паўтаруся, у ЗША няма фаварытаў, няма любімчыкаў. Мы звяртаем увагу на працэс і сістэму. У гэтым ёсць інтарэс любога абранага чыноўніка — мець легітымны мандат, відавочны як для людзей, якія яго абралі, так і для краін-партнёраў, з якім ён будзе супрацоўнічаць. І таму мы будзем глядзець, ці сапраўды з'явіцца ў людзей Беларусі магчымасць свабодна абіраць і ці будуць выбары сапраўды празрыстымі і адкрытымі.

На жаль, зыходзячы з таго, як былі праведзены мясцовыя выбары, сітуацыя не дае адпаведнай упэўненасці. Мы адкрыта віталі крок Беларусі ўвесну 2009 года да супрацоўніцтва з БДІПЧ, з партыямі і грамадскімі арганізацыямі па пытаннях удасканальвання выбарчага заканадаўства ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі. На жаль, гэта супрацоўніцтва спынілася гэтак жа нечакана, як і пачалося. Мы спадзяемся, што беларускі ўрад адновіць супрацоўніцтва, каб забяспечыць выбарчаму працэсу адкрыты і празрысты характар. І хто б у такіх умовах ні быў абраны — гэта выбар людзей, і ў Злучаных Штатаў не будзе ніякіх пытанняў.

Наша палітыка вельмі простая: правы чалавека і санкцыі — узаемазвязаныя. Мы адкрытыя да супрацоўніцтва і пошуку сфер, якія цікавыя для абодвух бакоў. Калі ёсць нешта такое, у чым ЗША могуць дапамагчы беларусам, у Злучаных Штатаў няма прычын, каб гэтага не рабіць.

*— Ёсць працэс, але ёсць і імітацыя працэсу. Як тут быць?*

— Мы адкрытыя для дыялога, але павінен быць дыялог, скіраваны на дзеянні, а не на размовы. І, на маё меркаванне, стаўленне Еўрапейскага саюза да гэтага не адрозніваецца ад нашага падыходу.

**Апублікавана 2 ліпеня 2010 года (скарочана)**

*Шаноўныя родныя і блізкія Аляксея Сцяпанавіча!*

*Ад свайго імя і ад імя маіх калег з Амбасады Злучаных Штатаў Амерыкі прашу вас прыняць словы падтрымкі і спачування з нагоды велізарнай страты, якую панесла ваша сям'я.*

*Шчыра смуткуем разам з вамі.*

*Вечная памяць і супакой.*

*З павагай*

**Скот Роланд, паверaны ў справах Злучаных Штатаў Амерыкі ў Рэспубліцы Беларусь**




# Бомба пад Патсдам

Аляксей КАРОЛЬ

**Анексія Крыму Расіяй па сутнасці падрывае фундаментальны прынцып сусветнага парадку, закладзены Ялцінскай (Крымскай) і Патсдамскай канферэнцыямі. Менавіта — прынцып непарушнасці межаў.**

Гэты прынцып нават вытрымаў развал СССР. На ім грунтаваліся Белавежскія пагадненні, шырэй — адбудоўвалася ўся сучасная сістэма ўзаемадачыненняў краін былога Савецкага Саюза. Нязменнасць межаў у Еўропе дазволіла захаваць на кантыненце мір.

Нечаканая крымская вайна (дзякуй Богу, пакуль бяскроўная), распачатая Крамлём, паставіла гэты мір пад рэальную пагрозу. Па розных дадзеных, ад 20 да 30 тысяч расійскіх вайскоўцаў ужо знаходзіцца на тэрыторыі Крыма, да межаў паўвыспы перакідваюцца дадатковыя расійскія войскі.

Еўрапейскія краіны і ЗША адрэагавалі на крымскі крызіс санкцыямі і ваеннай актывізацыяй уздоўж межаў з Украінай. Як сказаў міністр замежных спраў Германіі Франк-Вальтэр Штайнмаер, «мы, як сябры Еўрапейскага саюза, усе разам заяўляем, што выхад Крыму са складу Украіны стаў бы непрымальным з пункту гледжання міжнароднага права і запатрабаваў бы рэакцыі».

Анексія Крыма нясе ў сабе пагрозу працягу ў аднасінах да іншых краін. З боку Расіі, найперш, у якой, акрамя Крыма, ужо ёсць прэтэнзіі да краін Балтыі. Але ж не выключана, што створаны Расіяй прэцэдэнт можа быць успрыняты і іншымі дзяржавамі. Ужо супраць Расіі. Выглядала вельмі натуральным, каб Германія паставіла пытанне пра вяртанне Кёнігсберга, што быў аддадзены СССР па Патсдамскай дамове.

Чым жа была абумоўлена агрэсіўная расійская акцыя адносна Украіны, у чым яе сапраўдны схаваны разлік?

Афіцыйная крамлёўская версія — абарона правоў рускамоўнага насельніцтва ад дыскрымінацыі і гвалту з боку ўкраінскіх уладаў — не ўспрымаецца ўсур'ёз нават самімі аўтарамі гэтай версіі. Гэта не болей чым шалёная прапагандысцкая кампанія, якая ва Украіне відавочна правалілася. Масавага абурэння «ўкраінскім прыгнётам рускіх», на што разлічвалі крамлёўскія палітыкі, не назіраецца ні ў Крыме, ні тым болей ва ўсходніх рэгіёнах Украіны.

Расія — краіна са слабай эканомікай, якая трымаецца ці не выключна на продажы сыравіны, са слабай арміяй, зноў жа залежнай ад заходніх тэхналогій і паставак, распачынае аперацыю па захопу тэрыторыі суседняй дзяржавы. Гэта падобна на блеф. Аднак блеф абярнуўся бомбай пад палітыку дыялогу, пад усю еўрапейскую цывілізацыйную мадэль.

Трэба было мець сапраўды моцную матывацыю ці не мець мазгоў, каб кінуцца ў гэтую авантуру. Магчыма, крамлёўскія стратэгі не пралічылі моцны адпор: маўляў, інфантыльныя заходнія палітыкі патрасуць заявамі і супакояцца, праглынуць? Таму зараз так спяшаюцца з рэферэндумам, з завяршэннем бліцкрыгу, бо адцяжка смерці падобная.

Пуцін — трыумфатар і закладнік уласнага палітычнага курсу на аднаўленне вялікай Расіі з сабой на чале, які пацярпеў катастрафічны правал на стратэгічна вырашальным для яго ўкраінскім накірунку.

Гэты курс яны разам з Януковічам выбудоўвалі з 2004 года. Рэванш за паразу Януковіча на тых прэзідэнцкіх выбарах ім удалося ўзяць на выбарах 2009 года. Але пацярпелі дзве паразы запар на мяжы 2013–2014 гадоў: на адмове Януковіча ад падпісання пагаднення аб асацыяцыі з Еўрасаюзам, на брутальным сілавым разгоне студэнцкага пратэсту на Майдане і прыняцці дыктатарскіх законаў. Украіна выбухнула рэвалюцыйным Майданам.

Правал палітыкі Пуціна, а з ім і яго ўласная нікчэмнасць як палітыка, былі настолькі відавочныя, што ён мусіў шукаць тэрміновага адказу. Цывілізаваным адказам маглі б стаць адмова ад вялікадзяржаўных памкненняў і разварот Расіі да сапраўдных дэмакратычных рэформ. Прагматычным, у рамках, зразумела, пуцінскай сістэмы каардынат, — не пярэчыць пагадненню аб асацыяцыі Украіны з ЕС і працягваць сваю гульню па пераўтварэнні Украіны ў васала Расіі. І трэці — згуляць на абвастрэнне імперскіх комплексаў Расіі, сцвердзіцца і ўзвысіцца на гучнай перамозе — інкарпарацыі Крыма ў склад РФ.

Комплекс непаўнавартаснасці і туга па імперскай велічы, палітычнае фантазёрства і дакладна вывераная спецаперацыя — грымучая сумесь — узялі верх.

Крымскую аперацыю нельга назваць спантаннай: занадта арганізавана яна праходзіла. Ды і ўзор, па якім скапіравана, лёгка прачытваецца — уварванне савецкіх войскаў у Венгрыю ў 1956-м, у Чэхаславакію ў 1968-м. Лёгка праглядаецца і ўласны вопыт па ўтрыманні Прыднястроўя, вайны супраць Грузіі.

Верагодней за ўсё, у Крыме быў рэалізаваны, назавем умоўна, «план С», пасля правалу «плана А» — адмова Януковіча ад асацыяцыі Украіны з ЕС, «плана В» — 15 мільярдаў крэдыту і спробы сілавога разгону Майдана.

Як, відаць, і разлічвалі аўтары, рэалізацыя «плана С» дала імгненны эфект. Рэйтынг Пуціна сягнуў за 60 працэнтаў. Патрыятычная хваля накрыла краіну. Апазіцыя ў разгубленасці. Голас антываеннага пратэсту амаль заглушаны. Тым не менш гэта голас не купкі дысідэнтаў, што пратэставала супраць уварвання савецкіх войскаў у Прагу ў 1968 годзе. Гэта дастаткова масавы пратэст, які ўладам даводзіцца стрымліваць не ў апошнюю чаргу рэпрэсіўнымі мерамі.

Трыумф і параза Уладзіміра Пуціна ідуць поруч. Але сам ён ужо перайшоў рубікон, збочыць па добрай волі ўжо нельга. Мірная развязка драмы, ім распачатай, залежыць ад сілы ўнутранай пратэстнай хвалі і пазіцыі міжнароднай супольнасці.

**Апублікавана 16 сакавіка 2014 года**

# План Пуціна

Аляксей КАРОЛЬ

**Словазлучэнне «план Пуціна» ўзнікла, па сутнасці, выпадкова. Так называлася кніга, што выйшла ў 2007 годзе пад эгідай «Адзінай Расіі» і ўяўляла сабой зборнік пасланняў Пуціна да народа ў спалучэнні з пэўнымі партыйнымі прапагандысцкімі матэрыяламі. Але назва аказалася настолькі палітычна трапнай, што хутка атрымала амаль сакральнае гучанне — план Пуціна, план развіцця Расіі.**

Хутка праявілася сапраўдная, галоўная ідэя плана — утрыманне і ўмацаванне ўлады. Гэты план наўрад ці існуе ў цэльным, завершана афармленым і прапісаным выглядзе. Ён фармаваўся па сітуацыі, этап за этапам, рэагуючы на новыя выклікі, але настойліва і паслядоўна змяняючы пад сваю мэту навакольны сусвет. І ніколі не быў асабістым планам Пуціна. Сам Пуцін напачатку быў не болей чым фігурай, на якую паставілі, вынікам кампрамісу вярхоўных эліт тагачаснай Расіі — «сям'і» Ельцына, старой і новай наменклатуры, старога і новага КДБ, «алігархаў».

Канструкцыя ўлады, што вынікала з плану, не была канструкцыяй дыктатарскай сістэмы, але не была і канструкцыяй дэмакратычнай. Адсюль яе мянушкі: «кіруемая дэмакратыя», «калектыўны Пуцін». Як і не была першапачаткова разлічана на пажыццёвага Пуціна. Сённяшні «калектыўны Пуцін» заўтра мог быць заменены на «калектыўнага Іванова, Пятрова, Сідарава». Карпаратыўны тып улады архітэктарам плана падаваўся нашмат бяспечней. Сам Пуцін не раз сціпла вызначаў сваю ролю не болей як менеджара.

Грамадскую думку наконт пагрозы рэстаўрацыі таталітарнай сістэмы супакоіла і яго адмова ісці на трэці тэрмін. Удалым выявілася і вынаходніцтва тандэма з Мядзведзевым, з яго ліберальнай рыторыкай пра мадэрнізацыю Расіі. Магчымасць, хай сабе і марудная, з хібамі і перакосамі, эвалюцыі краіны да дэмакратыі выглядала рэальнай. Цішыня ў апазіцыйным лагеры, ні намёку на сацыяльны пратэст — таму пацвярджэнне.

І вось нечаканы выбух — серыя масавых вулічных акцый пратэсту напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, затым непасрэдна ў дзень інаўгурацыі Пуціна, і яшчэ, яшчэ, аж да апошняй — «Маршу мільёнаў».

Спускавы курок пратэсту сарвала беспардонная ратацыя Мядзведзеў — Пуцін, якая наслаілася на спад матэрыяльнага дабрабыту насельніцтва, на бязмежны размах карупцыі і на спакваля выспяваўшы ў сувязі з гэтым сацыяльны пратэст. Стала відавочна, што ў саюзе эліт верх узяла каманда новага КДБ, перайменаванага ў ФСБ, а замест калектыўнага Пуціна краіне прапануецца персанальны Пуцін. Аж на новыя два тэрміны, можна лічыць — пажыццёва.

Рэканструкцыя карпаратыўнай сістэмы ўлады па мадэлі персаналісцкай з рэстаўрацыяй элементаў (рудыментаў) старой класічнай таталітарнай савецкага ўзору — так можна на сёння вызначыць чацвёрты этап плана Пуціна. Метады і спосабы — сілавыя, рэпрэсіўныя, што таксама з відавочнасцю прадэманстраваў яго рэжым.

Працэсы адкату постсавецкіх краін да аўтарытарызму і таталітарызму прынцыпова падобныя. Але адбываюцца яны з рознай хуткасцю, на тле адрозных гістарычных традыцый, у розных геаграфічных маштабах.

У Расіі ў адкрыты наступ сілы таталітарнага рэваншу выступілі толькі цяпер. За гэты прамежак — ад пачатку 1990-х — там сфармаваўся той самы сярэдні, той самы крэатыўны клас, які сёння і з'яўляецца ядром энергіі пратэсту. Ацалела сістэмная, хаця і часткова прыручаная, апазіцыя. Сфармавалася капіталістычная мадэль эканомікі. Хай сабе і дэфармаваная, пранізаная карупцыяй, але гэта ўспрымаецца як вынік дзейнасці ўлады, і таму таксама з'яўляецца аб'ектам пратэсту, у тым ліку з боку новай буржуазіі. Кансервацыя, тым больш узмацненне аўтарытарных тэндэнцыяў, пагражае яе ўласнаму існаванню.

Ужо відавочна, што Пуцін зрабіў стаўку на сілавы варыянт падаўлення апазіцыі. І наўрад ці адступіцца ад яго. Будзе манеўраваць, трымаць паўзу, каб зноў нанесці ўдар. Варыянт, што ён здольны пайсці на сістэмныя рэформы, сапраўдную мадэрнізацыю краіны (а значыць — і сыход з улады) у яго дзеяннях на сённяшні момант не праглядаецца.

**Хто каго? Ад вырашэння гэтага пытання ў Расіі будзе ў вызначальнай ступені залежыць і вырашэнне таго ж пытання ў Беларусі**

Хто каго? Сілы рэакцыі ці сілы дэмакратыі? Ад вырашэння гэтага пытання ў Расіі будзе ў вызначальнай ступені залежыць і вырашэнне таго ж пытання ў Беларусі. У знешняй палітыцы план Пуціна трымаецца на старой імперскай ідэі, і Беларусь на яе вастры.

**Апублікавана 15 чэрвеня 2012 года**

12 чэрвеня 2015 | № 23 (440) Новы час

# Нацыянальны міф і дэмакратызацыя: славацкі досвед



Аляксей КАРОЛЬ

**Славацкае грамадства (найперш, зразумела, інтэлектуальная эліта) з вялікай увагай вывучае сваю гісторыю. Не толькі дзеля таго, каб ведаць мінулае, але ж і каб не памыліцца ў сучаснасці.**

У гэтым я лішні раз пераканаўся, падчас сустрэчы ў Браціславе з Марцінам Міланам Шымечкам — вядомым славацкім пісьменнікам і публіцыстам. А яшчэ дысідэнтам і сынам дысідэнта Мілана Шымечкі, аднаго з бліжэйшых саратнікаў, а потым дарадцы прэзідэнта Вацлава Гавела. Ён распавёў пра сваё бачанне ролі нацыянальнай ідэі і нацыянальнага міфа як прышчэпкі супраць аўтарытарызму, як складніку дэмакратычных рэформ.

***— Спадар Шымечка, славацкі вопыт дэмакратызацыі цікавы для нас, па-першае, таму што ён паспяховы. Але яшчэ і таму, што на сваім шляху да гэтага поспеху вы здолелі пераадолець дастаткова сур'ёзную пагрозу адкату краіны да аўтарытарнага рэжыму. Гэта быў перыяд так званага меч'ярызму — ад імя тагачаснага прэм'ер-міністра Уладзіміра Меч'яра. Яго нават называлі «Лукашэнкам на Дунаі».***

— Пасля раздзялення Чэхаславакіі на дзве самастойныя суверэнныя дзяржавы, сапраўды, Славакія перажыла вельмі складаны перыяд. Шэсць гадоў у нас адбываўся бой за будучыню Славакіі. Прычым даволі моцна ўплывала Расія, паколькі выбар стаяў паміж Усходам і Захадам. І вынік гэтай барацьбы не быў прадвызначаны, не было ясна, у які бок пойдзе Славакія.

***— Да якога моманту сітуацыя не была яснай, і на чым адбыўся пералом да празаходняга выбару?***

— У 1998 годзе мы гэты бой выйгралі. Спрошчана кажучы, раздзел Чэхаславакіі быў перамогай нацыяналістаў. Адыграў сваю ролю і той фактар, што славакі былі вельмі расчараваныя пераменамі эканамічнай сітуацыі, пры гэтым яны страцілі ўсё звыклае, што давала ім упэўненасць у жыцці. Адзінае, што яны ведалі, што яны славакі. Гэта ўзаеманалажылася з постсацыялістычным папулізмам. Сітуацыя не была такой жа, як у Беларусі пры Лукашэнку, але тэндэнцыі былі вельмі падобныя. Былі спробы забараніць некаторыя палітычныя партыі. Быў вельмі моцны ціск на журналістаў, на СМІ.

Наступная фаза — Меч'яр зразумеў, што яго рэжым, такі, які ёсць, ніхто ні ў Еўропе, ні ў Амерыцы не прыме. Еўрасаюз абсалютна ясна даў зразумець, што з такім палітычным рэжымам Славакія ў ЕС не трапіць. Меч'яр паспрабаваў падмяніць ідэю ўступлення Славакіі ў Еўрасаюз ідэяй Славакіі як мосту паміж Захадам і Усходам. Але менавіта гэта ідэя моцна насцярожыла славакаў, яны пачалі вельмі баяцца за сваю будучыню. Палітыкі Захаду праз СМІ сталі крытыкаваць рэжым Меч'яра. Той спрабаваў (падобна, як і Лукашэнка) пераканаць людзей, што гэта крытыка нічога не вартая. Але славакі на лязе самой сутычкі зразумелі галоўнае — гульня ідзе сур'ёзная, у якой вырашаецца іх лёс на наступныя дзесяцігоддзі.

***— Гэта настроі людзей, а што апазіцыя?***

— Гэта другі прынцыпова важны момант — славацкая апазіцыя, якая сфармавалася, вырасла з антыкамуністычнай барацьбы, здолела аб'яднацца. Не адразу, але менавіта ў гэты адказны час з 1994 па 1996 год. Сышліся тры фактары. Першы — гэта СМІ, якія ціснулі на апазіцыю, каб яна аб'ядналася. Другі — паход у народ сотняў грамадскіх актывістаў, якія ездзілі па Славакіі, сустракаліся з людзьмі, тлумачылі ім сітуацыю ў краіне. Трэці — палітыкі, палітычныя партыі.

***— Інакш кажучы, Меч'яру не ўдалося схіліць сімпатыі насельніцтва ад канцэпцыі «Славакія — сябра Еўрасаюза» да ідэі «Славакія — мост паміж Захадам і Усходам», гэтак сама, як і абмежаваць свабоду слова, паставіць пад кантроль СМІ і нейтралізаваць арганізаваную палітычную апазіцыю. Чаму? Якімі былі суадносіны палітычных сіл? Як разгортвалася барацьба?***

— Перад 1998 годам Меч'яру ўдалося правесці праз парламент закон, згодна з якім партыям было забаронена ствараць перадвыбарныя кааліцыі. Акрамя таго, для партый быў падвышаны прахадны бар'ер у парламент да 10 працэнтаў, па сутнасці непераадольны для іх, на той час малалікіх і раздробленых. Але партыям удалося знайсці адзіна правільны адказ: пяць найбольш уплывовых партый здолелі дамовіцца і аб'яднацца з фармальнага гледзішча ў адну партыю пад назвай «Славацкая дэмакратычная кааліцыя». Спікерам партыі выбралі Мікулаша Дзурынду, які потым стаў і прэм'ерам. Гэта быў складаны і цяжкі для рознакаляровых партый і для іх лідараў з іх амбіцыямі працэс. Але верх узяла адказнасць. І хаця Меч'яр усё ж выйграў парламенцкія выбары, але аб'яднаная апазіцыя — другая па колькасці месцаў — па сутнасці спыніла яго марш да аўтарытарнага рэжыму. Галоўны лозунг апазіцыі, з якім яна ішла на выбары, быў: «Мы прывядзем Славакію ў Еўропу!»

***— Няўжо гэтага лозунгу хапіла? Няўжо ідэя ўваходжання ў Еўрасаюз пераважвала ў масавай свядомасці, адпавядала настроям большасці насельніцтва?***

— Я даволі скептычна стаўлюся да ідэі, што выбары можна выйграць выключна пад лозунгамі дэмакратыі. У дадзеным выпадку быў прадэманстраваны ясны геапалітычны выбар, які гарантаваў краіне эканамічны рост, а значыць, і дабрабыт. Гэта стала стымулам.

***— А контртэза пра перавагу арыентацыі на Усход, на Расію, у адказ не прагучала?***

— Ельцын адкрыта падтрымаў Меч'яра і сказаў, што ён бы хацеў, каб выбралі менавіта яго. Аднак Меч'яр ніколі адкрыта не казаў, што ён хацеў бы прывесці Славакію пад патранат Расіі. Але па характару і сутнасці дэбатаў, якія тады адбываліся, для ўсіх было зразумела, што гаворка ідзе пра выбар паміж Захадам і Расіяй.

***— Наколькі на той час моцнымі былі ў грамадстве прарасійскія настроі ў параўнанні з сённяшнімі?***

— Славакія на той час была вельмі энергазалежная ад Расіі. Нават вугаль вазілі з Расіі. Тут дзейнічаў і адзін банк, фармальна чыста славацкі, які, аднак, на справе з'яўляўся адначасова і своеасаблівым цэнтрам расійскага ўплыву. Гэта даследавалі журналісты. У 1990-я гады расійская стратэгія базіравалася на тым, што старую сістэму еўрапейскай бяспекі трэба замяніць на новую, апорай якой замест NATO павінна стаць АБСЕ. У гэтай арганізацыі Расія мела значны ўплыў, і праз яе разлічвала пашырыць свой уплыў на Еўропу. Захад не падтрымаў расійскую канцэпцыю. Можна ўявіць, якім моцным быў уплыў Расіі, калі Славакія падпісала з Расіяй дамову, што была крокам да прыняцця новай канфігурацыі. На сённяшні дзень адносіны да Расіі спакойныя, дзелавыя і добразычлівыя. Але і не болей. На шчасце, Славакія геаграфічна далёкая ад Расіі і знаходзіцца па-за рамкамі імперскіх памкненняў пэўных расійскіх палітыкаў.

Меч'яр спрабаваў забараніць вяшчанне радыё «Свабодная Еўропа» на Славакію. Вельмі крытычны момант, бо тады яшчэ не было незалежнага тэлебачання, а дзяржаўнае ён ужо кантраляваў. Не атрымалася. Супраціў дэмакратычных сіл гэтым намерам, пратэст грамадскасці былі вельмі моцнымі. Важнай для станаўлення дэмакратычных інстытуцый была падтрымка Захадам грамадзянскіх актывістаў.

***— На якія слаі насельніцтва абапіраўся Меч'яр?***

— Дэмакратычная, скажам так, рэвалюцыя ў Славакіі мела не толькі тых, хто ад яе выйграў, але і тых, хто прайграў. Дырэктараты так званых «горадаўтваральных» фабрык і заводаў, адбудаваных у камуністычныя часы, з'яўляліся адным з самых перакананых прыхільнікаў Меч'яра. Яны найперш, але і працаўнікі гэтых прадпрыемстваў, баяліся перамен. Цікавым падаецца і пэўнае геаграфічнае супадзенне: рэгіёны, якія пераважна галасавалі за Меч'яра, якраз уваходзілі ў Славакію на чале з Ёзэфам Ціса — кіраўніком марыянеткавай дзяржавы, утворанай па ініцыятыве Гітлера пасля Мюнхенскай змовы ў 1938 годзе. Своеасаблівае рэха таталітарнай традыцыі і псіхалагічнай тугі па моцнай руцэ. Гэта даволі бедныя рэгіёны сярэдняй Славакіі.

***— Наколькі я вас зразумеў, нацыянальная ідэя ў спалучэнні з ідэяй уваходжання ў Еўропу былі менавіта тымі ідэямі, якія і забяспечылі перамогу дэмакратычных пераўтварэнняў у Славакіі?***

— Я ўважліва назіраю за развіццём краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, адзначаю шмат падабенства, і прыходжу да высновы, што самым важным фактарам перамогі з'яўляецца нацыянальны міф. Нацыянальны міф славакаў грунтуецца на ідэі, што нам як народу трэба выжыць. Але мы не можам выжыць самастойна як незалежная дзяржава, бо мы невялікі народ, невялікая краіна. Нам трэба быць у саюзе з нейкай моцнай дзяржавай. У дадзеным выпадку славакі абралі Еўрасаюз як моцнае міждзяржаўнае ўтварэнне, да якога можна прытуліцца і выжыць. І якое да таго ж не пагражае ім стратай суверэнітэту, дае магчымасць свабоднага развіцця. Не абірае, а дапамагае. Адзначыў бы і яшчэ адзін рашаючы фактар у цывілізацыйным самавызначэнні славакаў — каталіцызм, праз які яны былі часткай Захаду. Гэта адчуванне даволі моцнае ў менталітэце народа, насуперак усім гістарычным перыпетыям. Хаця можна сабе ўявіць, што ,калі б не было моцнага Еўрасаюза, славакі маглі б далучыцца і да Расіі. Такія ідэі ў гісторыі Славакіі выказваліся.

***— Як трансфармаваўся нацыянальны міф?***

— Славакія сёння з'яўляецца адным з самых лаяльных сябраў Еўрасаюза. Афіцыйная пазіцыя, якая публічна агучваецца, што нават калі ў нас не атрымаецца быць на адным узроўні, напрыклад, з Заходняй Еўропай, мы ўсё роўна мусім быць разам. І гэта сутнасць нацыянальнага міфа, укаранёнага ў гісторыю. Вельмі важная, асабліва ў параўнанні з еўраскептычнымі пазіцыямі некаторых краін, напрыклад, Венгрыі, у якой іншы гістарычны, ад імперыі, нацыянальны міф.

***— А калі гісторыя на працягу стагоддзяў скажалася, руйнавалася, гістарычная памяць вынішчалася, як быць?***

— Калі міфа няма, яго трэба стварыць. Я быў у асяродку чэхаславацкіх дысідэнтаў. Яны часта збіраліся ўвечары, разважалі і дыскутавалі, што ім трэба рабіць, як рабіць. Што мы ўвогуле за краіна, куды, у якім накірунку нам ісці. І часта заходзілі ў тупік. У тым і палягае бяда: ва ўмовах таталітарызму, камунізму, вельмі цяжка разглядзець, зразумець ментальнасць свайго народа. Праблема, якая наноў узнікла ў нас падчас меч'ярызму. І якая існуе, напэўна, сёння ў вас — у Беларусі пад Лукашэнкам. Адна з ілюзій славацкіх дэмакратычных рэфарматараў была вера ва ўсёмагутнасць ідэй і каштоўнасцей дэмакратыі для перамогі над таталітарызмам. І не распазналі, не ўлічылі менталітэт народа. І заплацілі за гэта гадамі меч'ярызму. Вынікам гэтай памылкі сталася тое, што ў той час, як яны гаварылі толькі пра дэмакратыю, Меч'яр як бы спрацыраваў на сябе ўвасабленне гэтага самага міфа. Увасабленне сапраўднага славака. Трэба даць зразумець людзям, што вы разумееце і іх душу, і чаго яны хочуць.

Праблема нашых народаў — беларускага і славацкага — якраз у тым, што гэты вобраз нацыянальнага міфа невідавочны. У вас, як вы сказалі, глыбока схаваны пад заваламі хлусні і бяспамяцтва. Яго трэба дастаць, аднавіць, ажывіць. Стварыць.

**Праблема нашых народаў — беларускага і славацкага — якраз у тым, што гэты вобраз нацыянальнага міфа невідавочны. У вас, як вы сказалі, глыбока схаваны пад заваламі хлусні і бяспамяцтва. Яго трэба дастаць, аднавіць, ажывіць. Стварыць**

**Апублікавана 10 лістапада 2012 года**

# Сербія — Беларусь. Свабода слова

Аляксей КАРОЛЬ

**У Сербіі пасля звяржэння рэжыму Мілошавіча на заканадаўчым узроўні была ліквідавана сістэма дзяржаўных СМІ. Недасяжная пакуль што дэмакратычная мара беларускіх журналістаў.**

Расчаравалі мяне сербскія калегі: пры фармальнай свабодзе, болей за 80 працэнтаў СМІ засталіся пад поўным кантролем уладаў. Праз іншыя механізмы, іншымі метадамі.

Сітуацыю са СМІ ў часы Мілошавіча лёгка ўявіць, бо гэта наша сённяшняя рэальнасць. Мілошавіч жорстка кантраляваў цэнтральныя СМІ, за рэгіянальнымі дагляд быў слабейшы. І яшчэ адна цікавая рыска да партрэтаў, як іх ахрысцілі калісьці заходнія журналісты, «двух апошніх дыктатараў у Еўропе»: Мілошавіч дазваляў карыкатуры на сябе, у нас за такое — пад суд «за паклёп» ды «за абразу гонару і годнасці».

## Пад пераследам

Таталітарны стандарт палітыкі ў адносінах да свабоды слова — поўная забарона, вынішчэнне пад нож незалежных СМІ. Да гэтага імкнуліся і рэжым Мілошавіча, і рэжым Лукашэнкі. Але абодва былі вымушаны адступіцца: не тое грамадства, не той час, не тая міжнародная сітуацыя, уплыў новых тэхналогій. Сваёй тактыкай яны абралі максімальна магчымае абмежаванне незалежных СМІ — па колькасці, тыражу, змесце, каналах распаўсюду. Метадамі эканамічнага і палітычнага ціску.

Да пэўнага часу гэта тактыка мела эфект у Сербіі і пакуль што спрацоўвае ў Беларусі. Мяняецца толькі набор метадаў і сродкаў. У Беларусі мы зараз назіраем змену асноўнага вектара пераследу — са сталіцы на рэгіёны, з прыцэльных удараў па знакавых фігурах на масавыя затрыманні журналістаў пачас акцый апазіцыі. Замест судовых працэсаў з пагрозай працяглага зняволення (як гэта было ў адносінах да Андрэя Пачобута) — штрафы ці «суткі» ў ізалятарах часовага ўтрымання. Разлік уладаў пры гэтым просты: грамадскі рэзананс, асабліва міжнародны, меншы, а эфект застрашвання — той жа.

## На пераходзе

Паводле меркавання сербскіх калегаў, з якімі я сустракаўся ў Бялградзе, незалежным СМІ належыць значная роля ў агульнай перамозе над рэжымам Мілошавіча. Але менавіта партыі, якія абяцалі поўную свабоду слова, па сутнасці адразу ж пасля падзення рэжыму сталі ствараць новую сістэму кантролю над СМІ.

«Пасля Мілошавіча, — распавяла Наталля Братулевіч, — дзяржаўная сістэма медыя распалася на шэсць рэспублік былой Югаславіі. І іх галоўнай тэмай стала прапаганда вайны. У Сербіі, хаця законы і памяняліся, але ў наўпроставым значэнні сапраўдных публічных СМІ, з крытыкай і аналізам, здольных выконваць асветніцкую ролю для народа, у належным маштабе не ўзнікла. З другога боку, грамадства таксама не ведала, якім павінна быць незалежнае выданне. І да сённяшняга дня распаўсюджаным з'яўляецца меркаванне, што роля таго ці іншага СМІ — гэта работа на тую ці іншую палітычную партыю».



У Бялградзе з XIX стагоддзя захавалася вуліца рэстаранаў. Рэстаран «Тры капелюшы» — любімае месца Ёсіпа Броз Ціта, у які ён прыводзіў замежных гасцей



Наталля Братулевіч і Іван Цвеіч

Праблему Наталля бачыць у тым, каб растлумачыць людзям сапраўдную ролю традыцыйных і электронных СМІ ў грамадстве. «Гэта, — разважае яна, — як пачатковая школа. Другі ўзровень — даследчая праца: з дакладнасцю выявіць, якімі спосабамі і сродкамі ўлады дамагаюцца кантролю і маніпулявання свабодай слова, каб кардынальна змяніць сітуацыю».

## Новая сістэма

Пра новую сістэму СМІ, што склалася ў Сербіі за 13 гадоў пасля падзення рэжыму Мілошавіча, мы размаўлялі з Вукашынам Абрадавічам, прэзідэнтам Незалежнай асацыяцыі журналістаў Сербіі (IJAS) і адначасова галоўным рэдактарам рэгіянальнай незалежнай газеты «Враньске навіны».



Вукашын Абрадавіч, прэзідэнт Незалежнай асацыяцыі журналістаў Сербіі

У Сербіі, як і ў нас, таксама два саюзы журналістаў. Але сербская асацыяцыя незалежных журналістаў стваралася не з нуля, як Беларуская асацыяцыя журналістаў.

Мы гутарылі са спадаром Вукашынам у яго кабінеце, на паверсе, які цалкам належыць яго саюзу. Гэты паверх, патлумачыў ён, асацыяцыя атрымала па рашэнні суда, пасля таго, як яны выйшлі з агульнага саюза журналістаў. Па справядлівасці, на яго меркаванне, ім мусіла адыйсці палова маёмасці і палова агульнага будынку.

Справа ў тым, што ад XIX стагоддзя ў Сербіі існаваў адзін саюз журналістаў. Але ў 1994 годзе вялікая група менавіта незалежных журналістаў вырашыла аддзяліцца і аб'яднацца ў сваю асацыяцыю. Па прычыне нязгоды з той палітыкай падтрымкі рэжыму, прапаганды ідэалогіі вайны, якую праводзіў стары саюз.

«Мы думалі, — з доляй горычы ўзгадвае мінулае спадар Абрадавіч, — што свабода слова прыйдзе сама сабой. Нашай вялікай памылкай было, што мы тады не зразумелі галоўнае: барацьба за свабоду слова павінна пачынацца па новай у той жа момант, як сышоў дыктатар». І, уздыхнуўшы, дадаў: «Атрымалася ж, што партыі ва ўладзе мяняліся, але нязменным заставаўся механізм кантролю, што сфармаваўся ў тым ліку і іх высілкамі».

Па сутнасці, механізм гэты не новы, у розных варыяцыях, розных памерах уласцівы многім краінам. Вось як, у агульных рысах, выглядае яго сербская мадыфікацыя.

## Механізм кантролю

Паводле закону, любы жадаючы можа без перашкод адкрыць новы СМІ. Да таго ж закон не патрабуе называць імя ўладальніка.

Здавалася б, ну проста супердэмакратычная норма. На справе ж аказалася гіганцкім падвохам, шчылінай для ўскоснага, але вельмі эфектыўнага кантролю за сродкамі інфармацыі. Найперш з боку дзяржавы і алігархаў — сапраўдных патаемных фінансістаў таго ці іншага выдання. Пры змене ўлады ўсе перамены зводзяцца да перадзелу сфер уплыву. Зноў жа пад коўдрай, праз інтрыгі і судовыя працэсы, пад прыкрыццём барацьбы з карупцыяй.

Па прычыне таемнасці схем уплыву на сродкі масавай інфармацыі, ніхто з маіх суразмоўцаў не змог назваць дакладную лічбу як незалежных, так і залежных СМІ. Але перавага, на жаль, на баку залежных. Прычым, самыя масавыя СМІ — агенцтва навін «Танюг» і газета «Палітыка» — у адкрытую, праз бюджэт, што ёсць парушэннем закону, фінансуюцца ўрадам. Адпаведна, на 100 і 51 працэнт. Для «Танюг» гэта 2 мільёны еўра ў год, удакладніў галоўны рэдактар прыватнага незалежнага агенцтва навін «Beta» Іван Цвеіч.

Па інфармацыі Вукасіна Абрадавіча, увесь рынак СМІ ў Сербіі складае прыкладна 170 мільёнаў еўра. Столькі ўкладаецца ў маркетынг — урадам, маркетынгавымі агенцтвамі (блізкімі да ўрада), алігархамі. Астатнія крошкі дастаюцца незалежным СМІ. Дзяржава на рынку маркетынгу займае больш за 40 працэнтаў. Гэта не дазволена, але гэта — ёсць. «Нашы патрабаванні, — падкрэсліў ён, — па-першае, адкрытасць інфармацыі — хто, каму і колькі, па-другое — дзяржава павінна сысці з рынку маркетынгу СМІ».

У выніку такой арганізацыі прасторы СМІ, па ацэнках прэзідэнта Незалежнай асацыяцыі журналістаў Сербіі, тут пануюць выданні, якія ў журналісцкім асяроддзі атрымалі назву «палітычнай жоўтай прэсы» — наўпрост залежнай ад партый, уладаў, алігархаў. Іх функцыя — прапаганда, а не якасная журналістыка.

## Новыя незалежныя

І ўсё ж сегмент сапраўды незалежных СМІ ў Сербіі непараўнальна большы і ўплывовы, чым у Беларусі. З несумненнымі лідарамі гэтага сегмента я і меў якраз сустрэчы ў Бялградзе. Коратка ахарактарызую.

«Штотыднёвік «Novi magazin» — не масавая газета, — падкрэсліла галоўны рэдактар Надзея Гачэ. — Газета для тых, хто любіць думаць сваёй галавой, хто мае сваё меркаванне». Выданне заснавана групай журналістаў у 2007 годзе. Канцэпцыя «Novi magazin» родная канцэпцыі «Новага часу». Але ж фармат выдання для нас пакуль недасяжны — у выглядзе часопісу, на цудоўнай паперы, каляровы друк. Там ёсць, якім бы ён ні быў, рынак СМІ. І знайшліся пяць бізнэс-структур, што даюць газеце рэкламу. І кошт паперы і друку таннейшы, чым у нас.



Надзея Гачэ, галоўны рэдактар штотыднёвіка «Novi magazin»

«Песчанік» — праграма, сайт і выдавецтва. Іх прадукт масавы і папулярны. Іх праграму бяруць 11 радыёстанцый у Сербіі, а таксама ў Косава і Чарнагорыі. Аўдыторыя слухачоў — 400–500 тысяч. Рэдактаркі — дзве, як яны прадставіліся, Святланы — Лукіч і Вукавіч-Месаровіч. Прычым праграма і сайт рыхтуецца ў асноўным пазаштатнымі аўтарамі, на 60–70 адсоткаў бясплатна. Асаблівасць: акрамя матэрыялаў па Сербіі на сайце змяшчаюць багата перакладаў з замежных крыніц, падлічылі — з 74. Іх пастаўляюць суайчыннікі, што з'ехалі за мяжу. Гэта дастаткова папулярныя публікацыі.

«Beta» — класічнае агенцтва навін, як падкрэсліў яго галоўны рэдактар Іван Цвеіч. Прыватнае. 180 журналістаў працуюць па ўсёй Сербіі, таксама ў шэрагу еўрапейскіх краін. Пакупнікі прадукцыі агенцтва — на 70 працэнтаў СМІ, на 30 — партыі, дзяржаўныя і недзяржаўныя ўстановы і арганізацыі, амбасады і фірмы. Іх прадукцыя карыстаецца даверам як якасная і дакладная. «Уплываць на нас, заўважыў спадар Іван, улады нават не спрабуюць, бо мы ведаем іх спосабы, а яны ведаюць устойлівасць нашых журналістаў». А вось само агенцтва ўплываць на сітуацыю спрабуе не толькі праз інфармацыю. У прыватнасці, даслалі ўладам патрабаванне — тэст на дэмакратычнасць: выдаліць з бюджэту фінансаванне агенцтва «Танюг».

Я выказаў шчырую радасць сваім калегам, што над імі не вісіць лязо рэпрэсій і яны могуць гаварыць і пісаць, што захочуць, абсалютна забыўшыся на пагрозу расправы. Такіх выпадкаў за 13 гадоў яны не ўзгадалі ніводнага.

Я разумеў сум калег, калі яны скардзіліся на вузкасць каналаў выхаду і ўплыву на масавую аўдыторыю, на таемную сістэму стрымлівання і ціску. Яны ж зразумелі мой сум, што іх праблемы — гэта праблемы нашага заўтрашняга дня. Але іх урокі лепш ведаць загадзя.

**Апублікавана 26 лістапада 2013 года**

# Уладзімір Някляеў: Свет не бяздумны...

**Уладзімір Някляеў — паэт і палітык у адной асобе — цягам апошняга года ўвайшоў у топ медыйных персон краіны. Сёлета Беларускі ПЭН-цэнтр вырашыў вылучыць Някляева на атрыманне Нобелеўскай прэміі па літаратуры. Асоба гучная, спрэчная, яскравая — паэт Някляеў збіраў стадыёны слухачоў, палітык Някляеў не губляе надзею сабраць стадыёны прыхільнікаў. У працяг сустрэчаў у межах рубрыкі «Валадары думак» Уладзімір Някляеў наведаў рэдакцыю НЧ, каб паразважаць пра сумленне паэта, каштоўнасці сучаснага свету і персонаў, што займаюць пазіцыі маральных гуру сучаснікаў.**



***Уладзімір Някляеў:*** Я згодны з Валянцінам Акудовічам у тым, што ёсць памяншэнне ўплыву культуры на чалавека (рэд. — гутарка з Валянцінам Акудовічам, НЧ, №21, 27 мая, 2011 г.). Калі браць гады савецкага часу, то якія б ні былі прадстаўнікі культурнага асяродку, але яны ўсё ж давалі грамадству нейкія ўстаноўкі ў пошуках таго, як жыць і якія рашэнні прымаць. Сёння такой арыентацыі няма. Ёсць арыентацыя не на тых, хто мысліць, а на тых, хто думае. Гэта розныя працэсы. Думаеш увесь час пра што? Пра тое, як табе жыць. То бок мысліць чалавек пра быццё, а думае пра жыццё. Я не скажу, што свет бяздумны, ён проста стаў прагматычны. Цяпер валадарыць той, хто ў спісе Forbes. Даволі нечакана ў гэтым кантэксце праяўляюцца людзі, якія, будучы ў гэтым спісе, прэтэндуюць на званне валадароў думак. Я маю на ўвазе стваральніка «Apple», які жыў так, быццам у яго і нямашака тых мільярдаў — не меў аховы, ездзіў на звычайных машынах і сыходзіў з тых пазіцый, што ў свой час навязалі яму валадары думак: што б ты рабіў, калі б жыў апошні дзень? — акурат тое, што трансляваў Гюго ды іншыя ў заходняй літаратуры і што прадукавалася ў савецкай літаратуры. Я бачу, як наогул культура падмяняецца цывілізацыяй і выдаецца як тоеснасць, хаця насамрэч гэта рознае. Скажам, узяць цывілізацыйную забаву футбол і культурніцкую забаву баі рымскіх гладыятараў. Баі гладыятараў — гэта кроў, і не выглядае на культуру. Але калі ўзяць пасыл, то па духоўнасці, культуры гэта значна вышэй, чым футбольная дзея, за якой назіраюць сотні тысяч людзей. Простае пытанне: які ў гэтых людзей інтэлект?

***Аляксей Кароль: Паэт у Расіі больш чым паэт — фраза з пушкінскіх часоў. Якая роля паэта ў Беларусі — дасавецкай, савецкай і постсавецкай?***

***Уладзімір Някляеў:*** Калі б я мог дамагчыся нейкіх вынікаў у мэце, што перад намі стаіць сёння, — змена ўмоў, у якіх мы жывём... Калі б я мог дасягнуць гэтага сродкамі культуры, то ніколі б не пайшоў у палітыку. Сённяшняя ўлада — з'ява антыкультурная. Мне як чалавеку трэба яе пераадолець.

Уплыў паэта ў савецкія часы і цяпер — непараўнальны. За савецкім часам была ўнікальная рэч, якой не было ні да таго, і, відаць, не будзе ўжо ніколі. Літаратурныя падмосткі ад Брэста да Сахаліна. Можна было выйсці з дому 1 студзеня і вярнуцца 31 снежня — ісці-ісці па гэтых літаратурных падмостках. Калі мне нешта і сніцца зараз добрае, то гэта літаратурныя стадыёны. Сніцца найперш праз эмоцыю, праз адчуванні, якія былі, калі стаіш на стадыёне і проста чытаеш вершы. Ты руку налева — дзесяць тысяч чалавек налева, ты руку направа — дзесяць тысяч направа. Хто гэтага не адчуваў, таму растлумачыць немагчыма...

> **Сёння мне сумна ў палітыцы. Я — чалавек Плошчы, стадыёна, прасторы. Палітычныя пасядзелкі, размовы аб шляхах дэмакратызацыі, офісная палітыка — гэта не для мяне**

***Аляксей Кароль: I тым не менш, гэтыя літаратурныя падмосткі ад Сахаліна да Брэста былі падкантрольныя. Крок улева-ўправа не дазваляўся.***

***Уладзімір Някляеў:*** У Маскве былі некалькі людзей, якім дазвалялася тое, што іншым забаранялася, — Ахмадуліна, Вазнясенскі, Еўтушэнка, Раждзественскі. Ім дазвалялася адпаведная ступень крамолы. У Беларусі гэта быў Някляеў. Мне таксама дазвалялася значна больш, чым іншым. У першы раз я апынуўся ў КДБ амаль у дзіцячым узросце — было шаснаццаць гадоў, мяне як след напалохалі. Потым былі часы адлігі, 1960-я гады. У Мінску на ганку Тэатра юнага гледача мы збіраліся і чыталі вершы. Я прачытаў верш пра Жукава. Тады была сітуацыя, калі таварыш Хрушчоў пачаў прыбіраць таварыша Жукава. Ну, я і прачытаў «Як вам спіцца, таварыш Жукаў?!» Вось я і кажу чалавеку, які да мяне падышоў, што маршал Жукаў цяпер жа не такі, як быў. На што ён адказаў: «Тое, што Жукава можна асуджаць у Маскве, не значыць, што Жукава можна асуджаць у Мінску. Так што вы, юны паэт, глядзіце ў нас, не дзёргайцеся». Ужо тады я адчуваў, якая моц слова, мастацкага вобраза. Але людзі ішлі на стадыёны не за метафарамі паэтычнымі, а за метафарамі палітычнымі. Пачуць там тое, што нельга пачуць больш нідзе.

Аднойчы на стадыёне ў Маскве іранічны паэт Глазкоў прачытаў такія радкі:

*Люблю грозу в конце июня,*
*Когда в Москве идет парад,*
*И хмуро мокнет на трибуне*
*Правительственный аппарат.*

Людзі замерлі, хаця, па сённяшнім часе, што тут такога?

Ёсць страты ў нашым часе для літаратуры. Нямашака тых стадыёнаў, накладаў кніг.

У нас брутальная ўлада, якая лепіцца з людзей, падобных на таго, хто іх туды прыцягвае. Лукашэнка ніколі не цікавіўся аніякай літаратурай. На апошняй прэс-канферэнцыі ён разявёў, што кніжка для яго — гэта абраз... Ніколі не забудуся, як у свой час таварышы-пісацелі імкнуліся перадаць яму свае кнігі. Дык цяпер хачу сказаць усім гэтым таварышам-пісацелям, што іх кніг ён не чытаў, памочнік іх нават не спрабаваў перадаваць. Калі чалавеку самому нешта не трэба, дык ён не разумее, навошта гэта іншым.

У літаратурных сустрэчах сённяшняй Беларусі забараняецца палітычны складнік. Калі б беларускі літаратар апрыёры не займаўся палітыкай, то ніхто б яго не чапаў. Некалі Лукашэнка мне казаў: «Перастаньце займацца палітыкаю! Што хочаце выдумвайце, голых рысуйце... Вы ж народжаныя, каб ствараць літаратуру, чаго вы сюды лезеце? А галоўнае, ты ж такія добрыя песні пішаш!.. » Дык вось: каб я пісаў тыя песні, то ўжо невядома, колькі б зорак было на плячах. Адзіны жанр, які Лукашэнка «обожает» — гэта папса. На гэтым яго культурныя запатрабаванні сканчаюцца.

***Андрэй Расінскі: Вы распавядаеце пра культуру Лукашэнкі, яго каштоўнасці. Але ці не вінаватая ў гэтым у тым ліку і беларуская літаратура, у якой суцэльны лямант па вясковаму жыццю, крыкі пра беднасць?***

***Уладзімір Някляеў:*** На сёння ўжо не так — новае пакаленне практычна ўвогуле пра гэта не піша. Не крычыць, не лямантуе. Беларуская літаратура творча вырасла, але, я б сказаў, не выявіла гнуткасці ў стасунках з тым, што прыўнёс Лукашэнка. Ну, не такі ён разумны, што нельга яго абдурыць. I не такі дурны, што і абдурваць яго не трэба... Памыляліся і тыя, хто адразу ўставаў у контру і не меў жадання гаварыць з ім. Ну і не гавары, ён знойдзе, з кім паразмаўляць. А нехта вырашыў пайсці да яго служыць з намерам даслужыцца да таго, што будзе магчымасць не толькі с... ку пялізаць, але і ў вушка пацалаваць. Трэба было думаць і бачыць рэальнасць. Я разумеў, што гэта надоўга, што ў сітуацыі постсавецкага часу, калі чалавек з цвёрдым характарам атрымае ўладу, то і аддасць яе не хутка. I калі не будзе спосабаў забраць у яго ўладу, дык трэба неяк яго перайначваць, нешта з яго ляпіць. Я паспрабаваў, але там, ва ўладзе, і тут, у сваім асяродку, не знайшоў разумення. Хоць усе былі згодныя: трэба нешта рабіць — і хутка. Вось я і рабіў хутка, што мог.

Ведаеце, было фізічнае адчуванне: яшчэ трохі — і Беларусь знікне. Беларускія тэксты проста не будзе каму чытаць. Я паспрабаваў пазмагацца за тое, каб гэта змяніць.

Ёсць метафізічныя, сакральныя рэчы, якія больш важныя за ўсё матэрыяльнае. Для мяне яны, паміж іншым, у тым, як я дыхаю, як беларусы дыхаюць словамі. У беларускай мове закладзеная наймагутная энергетыка — і яна не скарыстаная. Не скарыстаць яе, не выпісаць уласна беларускія, кодавыя знакі — проста злачынства.

***Аляксей Кароль: Паэт і палітык — калі твой уплыў ты бачыш большым?***

***Уладзімір Някляеў:*** Уплыў праз палітыку, на жаль, непараўнальна большы, чым праз літаратуру. Гэта звязана з тым, пра што я сказаў раней, са стратамі. I дагэтуль у людзей, якія чыталі тое, што я напісаў, ёсць агульнае з Лукашэнкам чаканне: калі ў Някляева пройдзе дурата, і ён пачне зноў пісаць песні? I шчыра ж кажучы: апроч вас ёсць у палітыцы Саннікаў, Мілінкевіч, Калякін... На што я кажу: дык і ў літаратуры, апроч мяне, хапае народу.

***Аляксей Кароль: Прысутнасць у палітыцы забівае паэзію?***

***Уладзімір Някляеў:*** Ой, гэта катастрофа — наяўнасць у мазгах палітыкі дзённа і ночна. Ёсць людзі, у якіх галовы арганізаваныя, як кампутар: ёсць дыск D і C, і яны ніяк адзін аднаму не замінаюць. А ў мяне адна мазгаўня, і, каб пераключыцца з палітыкі на літаратуру, мне трэба вытрасці з галавы ўсё, што там нагрувашчана. На гэта трэба час. Але што шкадаваць: не вядома, ці здолеў бы я за гэты час напісаць тыя тэксты, што хацеў. Усё ж у мяне ёсць нейкі час уначы. Я цяпер вярнуўся да таго рэжыму, што быў у мяне ў маладосці, не думаў, што ў маім узросце магчыма спаць па тры-чатыры гадзіны. Мы не ведаем сваіх магчымасцяў. Калі нешта трэба, то чалавек здольны на многае.

Прозу яшчэ магу пісаць паралельна з палітыкай, а што да паэзіі, то з палітыкай яна не перамешваецца. Хіба толькі ў турме напісаў паэму і вершы.

***Аляксей Кароль: I калі выйдзе з друку паэма?***

***Уладзімір Някляеў:*** Я не спяшаюся. Хачу, каб у кнізе былі вершы, паэма, дзённікавыя запісы. I вельмі хораша на гэта кладуцца лісты да жонкі. Але жонка ніяк не пагаджаецца. Кажа: не, мой дарагі, не збіраюся я дзеля тваіх літара-

турных прэтэнзій выварочваць інтымнае.

***Аляксей Кароль:*** ***Якія асабістыя страты і набыткі адчуваеш пасля таго, як злучыў у адной асобе паэта і палітыка?***

***Уладзімір Някляеў:*** Набыў, што набыў: кайданкі і турму. У палітыцы нешта набыць можна толькі тады, як пераможаш. У астатнім гэта шлях стратаў. Дзякуй Богу, мне пашчасціла, што ў крэўным асяродку мяне не падвергі астракізму. Ні дзеці, ні жонка не паківалі мне пальцам за гэта. Калі адказваеш за сябе, гэта адзін стан, а калі яшчэ і за іншых... Учора вось сутройчы прыходзілі да нас «супрацоўнікі», і не можаш жа ім дзверы не адчыніць. Але сяброў я страціў шмат, прычым такіх, якія, здавалася, на ўсё жыццё. Гэты факт найбольш сумны ў чалавечым плане. Не былі, значыць, яны сябрамі. Прычыны простыя: страх, асцярога, што з імі можа нешта здарыцца праз тое, што са мною маюць зносіны. Хто працаваў у дзяржаўных структурах, адскочылі яшчэ ў 1999 годзе, а цяпер і найбольш стойкіх ветрам здзьмула. Але, з іншага боку, небасхіл ачысціўся.

Калі сябра трапляе ў турму, дастаткова спытацца ў жонкі, ці ёсць грошы на хлеб. Гэтага дастаткова, каб пацвердзіць свае адносіны. Калі мы не будзем ва ўсім ставіць на першае месца чалавека, пра што нам, ёлкі-маталкі, прапісана ў Нагорнай пропаведзі, нічога не будзе.

А ўсё астатняе... Я гатовы быў і разумеў, што мяне чакае. Па-сутнасці, я зрабіў некалькі памылак, і адна з іх вельмі вялікая. Гэта палітычная памылка, відаць, была абумоўленая маёй палітычнай недасведчанасцю. Я паверыў, бо надта актыўнай была палітычная праца ў будаванні мосту, пантону з Еўрасаюзам, якую праводзілі Міністэрства замежных спраў і Адміністрацыя прэзідэнта. Уся беларуская палітыка была скіраваная на будаўніцтва гэтага моста, я даволі падрабязна ведаў, што адбываецца ў гэтым кірунку. І прыйшоў да высновы, што сам сабе падкласці міну пад гэты мост Лукашэнка не можа. У выніку я не стаў клапаціцца пра бяспеку так, як было б варта. Гэта была самая істотная памылка, якая не дала рэалізаваць нам задуманае на Плошчы. На сённяшні дзень гэта самая пакутлівая для мяне рэч. Яна цяжкая яшчэ і таму, што я не шкадавальшчык па мінуламу, не вяртаюся назад. Дзве прычыны, з якіх я застаўся ў палітыцы. Многа людзей падпісаліся, прыйшлі на Плошчу, і сказаць ім: «Ведаеце, я трошкі пазаймаўся палітыкаю, а цяпер бывайце здаровы, пайду песні пісаць», — не выпадае.

***Аляксей Кароль:*** ***Першая прычына — дзяжурная, на яе многія палітыкі спасылаліся, а ў выніку сыходзілі, і электарат не бедаваў.***

***Уладзімір Някляеў***: Размова не пра электарат, а пра канкрэтных людзей, якія прыходзілі да маёй жонкі і прыносілі слоік варэння ці кавалачак каўбасы. Лёгка любіць увесь свет і ўвесь электарат. Але толькі канкрэтныя людзі ведаюць, любіш ты іх насамрэч ці не.

Сёння мне сумна ў палітыцы. Я — чалавек Плошчы, стадыёна, прасторы. Палітычныя пасядзелкі, размовы аб шляхах дэмакратызацыі, офісная палітыка — гэта не для мяне. А нехта, наадварот, у гэтым як рыба ў вадзе. Устрапянуліся, паплылі, і з таго боку такія самыя карасі плывуць. У гэтым сэнсе ў літаратуры мне весялей.

***Аляксей Кароль:*** ***Паэтычны дар уплывае на маральнасць у палітыцы?***

***Уладзімір Някляеў:*** Безумоўна, уплывае, бо палітыка — рэч амаральная. Калі называць рэчы сваімі імёнамі, то ў барацьбе за ўладу размовы пра мараль няма. Палітыка — жорсткая рэч, у якой ёсць сродкі і мэта, тое, што ты паэт і прытрымліваешся выпрацаваных нормаў, замінае. Мы б паўсюль мелі лагеры і канцлагеры, калі б не было выпрацавана стрымліваючых інструментаў. І ўсе людзі ў гэтым аднолькавыя. Лукашэнка хацеў бы зрабіць тое, што Сталін, але не можа. Я кажу пра тое, што ўсякія рэфлексіі — філасофскія, гістарычныя — не могуць табе дапамагаць у занятках палітыкай. Іншая справа, што я не ўладалюбівы чалавек і камандаваць мне ніколі не прыносіла задавальнення. Праз гэта маю ўнутраны дыскамфорт: паводле сваёй сутнасці я б напляваў на ўладу, але, калі займаюся палітыкай, мушу да яе імкнуцца. У гэтым сэнсе я прайграю «чыстым палітыкам». Праўда, у адносінах з людзьмі, якія прыходзілі да мяне на сустрэчы, гэта моцна дапамагала. Мае людзі выходзілі з залі з нейкім адчуваннем катарсісу, тое, чаго я заўсёды дамагаўся, хацеў, каб эмоцыя дайшла. І вось гэта дапамагае ў палітыцы.

***Андрэй Расінскі:*** ***Беларусь як такую пачалі ствараць паэты. А цяпер паэт прыйшоў у палітыку, ці не запозна?***

***Уладзімір Някляеў:*** Я прыйшоў, бо думаў, што вырашу пытанне ўлады на гэтых выбарах. Нібыта ўсё было — і ў сабе, і звонку. Прычына паразы — палітычная памылка. І, да слова, той год я пражыў не як паэт, а як палітык, і рабіў практычна ўсё, каб перамагчы. А тое, што вы звязалі мяне з асобамі, якія распачыналі беларушчыну, то гэта з простай прычыны — вы пра гэта ведаеце. Я неаднаразова распавядаў пра фарміраванне нацыянальнай ідэі. Раней гэта выклікала цікаўнасць, а цяпер пытаюцца, колькі будзе грошай. Змяніўся наш люд.

***Вольга Хвоін:*** ***Вы — тэатр аднаго актора, асобны чалавек стадыёна. А ў палітыцы акурат мусіць быць персона крыху іншага складу — дамоваздольная, якая ўмее ісці на кампрамісы, угоды, у тым ліку з сумленнем. У вас няма адчування, што вы не на сваім месцы?***

***Уладзімір Някляеў:*** Гэта першае, што мне ўсе хочуць давесці. Калі б я не ведаў, што насамрэч адбываецца ў гэтай палітыцы і як мы дасягаем гэтай самай еднасці, калі б быў перакананы, што як Някляеў сігане з палітыкі, так усе абдымуцца і разам — без мяне — адразу дойдуць да светлай мэты, дык толькі б мяне і бачылі. Але гэта не так. Някляеў сёння не прычына раздору, а апраўданне. От, у нас усе грады акучаны, ведаем, чым паліваць, а ён прыпёрся і нарабіў дзялоў, сродкі пазабіраў. Але я нікому не замінаў і праграму распрацаваць, і сродкі знайсці.

Праблема ў іншым: палітыкі — таксама жывыя людзі, якія падпарадкаваныя тым жа эмоцыям і рэакцыям. Чалавек усёй сваёй істотаю скіраваны на перамогі. І ад поспеху да поспеху ён акрыляецца. Помню, як ішоў ад кніжкі да кніжкі — выйшла першая, я стаў на яе і вось ужо далей бачу. А беларуская апазіцыя ад 1991 года не мела перамог. Гэта прывяло да страшэннай падаўленасці, і ў такім стане людзі займаюцца тым, што ўвесь час шукаюць вінаватых. Гэта пошукі апраўдання сабе. І заўважце, я ніколі ні пра каго з апазіцыі не сказаў кепскага слова. Ні тут, ні ў Брусэлі ці Берліне. Для мяне ясна адно: ён на гэтым жа баку, што і я. У тым, што не дасягнуў поспеху на Плошчы, вінаваты сам. Не хацелася пра гэта гаварыць: тое, што сталася на Плошчы, было шмат у чым абумоўлена недахопам сродкаў. А сродкаў не хапіла, бо людзі, якія цяпер гавораць, што ў іх няма згоды праз Някляева, правялі вялікую працу. Але зноў жа, як бы там ні было, я мяркую, што мы маем не самых горшых палітыкаў. Проста пераламаць сітуацыю яны не могуць у тым ліку і таму, што іх не падтрымлівае грамадства. Бо грамадству нават у часы крызісу больш імпануе тое, што прапануюць улады. Пакуль што. І цяпер я займаюся чым? Тым, каб прапанаваць грамадству альтэрнатыву. Такую, каб грамадства не змагло ад яе адмовіцца. А гэта не толькі 9 мільярдаў долараў.

***Аляксей Кароль:*** ***Я б хацеў удакладніць: ёсць апазіцыя, якая ёсць, іншай яна не можа быць ва ўмовах пастаяннага ціску з прымяненнем рэпрэсій, адсутнасці палітычнага градуса ў грамадстве, слабасці нацыянальнай эліты. Але ёсць відавочнае — разуменне, што дзяліць няма чаго. І тым не менш аб'яднання не адбываецца, сабрацца і дамовіцца ў палітыкаў не атрымліваецца. Чаму?***

***Уладзімір Някляеў:*** Бо не хочуць на сённяшні дзень далучацца да чужых ініцыятыў. Я стаю на прынцыпе: калі які заўгодна рух пачынае дзейнасць, усе мусяць далучацца, стаяць на адной платформе і рабіць адно. Але хто ініцыяваў — той і робіць, а астатнія назіраюць. Патрабаванні, якія вылучае апазіцыя, не знаходзяць веры сярод людзей: уладай гэта не будзе выканана. Я даводжу на ўсіх сходах: заканчвайце крэатыўнічаць і выдумляць. Мусіць быць пастаўленая мэта — змена ўлады, і тады ўсе патрабаванні будуць выкананыя.

Не ўсё так проста і ў самой апазіцыі. Калі мы выпрацоўвалі план перад выбарамі, я не ведаў, каму гэта магу паказаць без асцярогі, што агучанае застанецца паміж мною і тым чалавекам. Я прапаноўваў іншым аб'яднацца вакол сілы, якая можа правесці кампанію, бо мае рэсурс. І што зрабіў Лукашэнка? Зарэгістраваў дзевяць кандыдатаў, што ў выніку моцна спрацавала супраць той альтэрнатывы, якую я зараз агучыў.

Я меркаваў, што на трэці дзень на Плошчы было б тысяч дзвесце людзей. Ёсць палітыкі, якія мне даводзяць, што я ідыёт, бо не мог не разумець — план правакацыі на Плошчы даўно быў прыдуманы на Лубянцы. Думаю, не. Усё ўзнікла спантанна ў момант, калі Лукашэнка адчуў небяспеку ад таго, як могуць развівацца падзеі. Іншага выратавання, апроч як брутальна разагнаць людзей, у яго не было. Мы не збіраліся трымаць людзей усю ноч. Усё мусіла адбыцца вельмі хутка: праводзім сход на плошчы Кастрычніцкай, абіраем камітэт за выбары без Лукашэнкі, гэтую паперчыну нясём да дома Урада і распускаем людзей. На заўтра людзі прыйшлі б за адказам, калі б былі не пабітыя. Практыка паказвае, што ў такім выпадку прыходзіць удвая больш людзей. На Плошчы заставалася б паўтары тысячы чалавек, гэта мы маглі б забяспечыць. І хаця я ўсё імкнуўся захаваць у таямніцы, у КДБ мне паказалі гэты план. Маўляў, думаеце, што вы вялікі сакрэтчык, то ў нас ёсць яшчэ большыя сакрэтчыкі.

***Вольга Хвоін:*** ***Колькі людзей ведала план?***

***Уладзімір Някляеў:*** *(задумваецца, усміхаецца)* Дастаткова, каб узніклі падазрэнні, што нехта з іх здаў.

***Аксана Колб:*** ***Ёсць Някляеў-паэт, які збіраў стадыёны. А ці можна чакаць гэтага ад Някляева-палітыка?***

***Уладзімір Някляеў***: (паўза) Можна...

***Аляксей Кароль:*** ***Што цяпер адбываецца з кампаніяй «За праўду!»?***

***Уладзімір Някляеў:*** Па-сутнасці, толькі дзве структуры ў рэгіёнах не аднавіліся, бо іх кіраўнікі з'ехалі за мяжу. Калі людзі займаліся нечым маштабным, то потым яны не хочуць рабіць руцінныя справы. І я не хачу гэтага. Як я бачу сітуацыю сёння: калі ўсё будзе цягнуцца «не гарыць, не тлее», то можам зноў выйсці. Трэба, каб Еўрасаюз і мы самі падтрымлівалі нейкі рух. Не дай Бог нам зноў упасці ў спячку да чарговых прэзідэнцкіх выбараў.

***Вольга Хвоін:*** ***Я так разумею, што вы звязваеце ўсплёск палітычнай актыўнасці з парламенцкімі выбарамі, маеце намер самі балатавацца?***

***Уладзімір Някляеў:*** Чамусьці ўсе разумеюць удзел як абавязковую ўмову балатавацца. Парламенцкія выбары даюць масу варыянтаў. Але скарыстоўваць гэтую палітычную сітуацыю мы мусім. Калі б я сядзеў у турме, то, безумоўна, займаў бы такую ж пазіцыю, як Саннікаў і Статкевіч: ніякіх выбараў і перамоў з уладаю. Гэта натуральна. Але калі ты тут і разумееш, што інструментаў, каб вырашыць пытанне ўлады сёння і адразу няма, то трэба шукаць нейкія іншыя спосабы. У тым ліку і спробы размаўляць — гэта палітыка, бадай яе...

***Аляксей Кароль:*** ***Ці магчыма ўсё ж пэўнае адзінства дзеянняў у бліжэйшы час, пры тым, што саспяваюць пратэстныя настроі?***

***Уладзімір Някляеў:*** Як я адчуваю сітуацыю, палітыкі прыйшлі да гэтага. Ні на адной сустрэчы падчас саміту «Усходняга партнёрства» паміж намі не было збою ў агульным пасыле. З часу падаўлення снежаньскай акцыі ўсё істотна зрушылася, таму мне падаецца — гэта магчыма. Мяркую, у гэтым месяцы выпусцяць яшчэ некага са спісу палітвязняў, а да Новага года астатніх, інакш сэнсу ва ўсім гэтым няма. Калі вызваленне палітвязняў не адбудзецца, то з боку ЕС будуць уведзеныя рэальныя эканамічныя санкцыі. Чаму цяпер не разагналі Народны сход? Цяпер тут камісія МВФ, і менавіта гэта стрымлівае ўлады, бо МВФ будзе звяртаць увагу не толькі на эканамічныя аспекты.

**Апублікавана**
**14 кастрычніка 2011 года**



**Уладзімір Някляеў, Уладзімір Арлоў (справа) і Зміцер Вайцюшкевіч (злева) на пікеце падчас выбарчай кампаніі**



# На развітанне

Пасля таго, як навіна аб сыходзе з жыцця Аляксея Караля разляцелася па беларускіх СМІ, наша сям'я была глыбока кранутая вялізнай колькасцю шчырых спачуванняў, якія мы атрымалі не толькі праз званкі, мэйлы і смс, але і праз публікацыі ды каментары ў незалежнай прэсе.

Паколькі Аляксей памёр у далёкай ад Беларусі краіне і свой ад'езд у чэрвені не афішаваў, навіна пра яго смерць для многіх стала нечаканай. Мы падумалі, што тым, хто любіў, паважаў і цаніў Аляксея Сцяпанавіча, магчыма, хацелася б даведацца пра апошні этап ягонага жыцця.

Роўна год таму, у верасні 2014 года, Аляксей меў тэрміновую аперацыю на лёгкім у НДІ анкалогіі і радыялогіі ў Бараўлянах, за якой прайшоў курс хіміятэрапіі. Мы вельмі ўдзячныя беларускім хірургам, лекарам, радыёлагам і медычнаму персаналу за іх прафесіяналізм і вельмі ўважлівае стаўленне. На жаль, у сакавіку 2015 года хвароба вярнулася і пачала распаўсюджвацца.

Пасля шматлікіх сямейных нарадаў Аляксей прыняў рашэнне паспрабаваць лячэнне ў Нацыянальным анкалагічным цэнтры Сінгапура, які ўваходзіць у лік вядучых даследчыцкіх установаў у свеце і дзе распрацоўваюцца інавацыйныя метады барацьбы з гэтай страшнай хваробай. Наяўнасць там найноўшых прэпаратаў давала надзею, хаця і не гарантыю.

Яшчэ адным моцным матыватарам было жаданне сустрэцца з унукам, які нарадзіўся ў жніўні мінулага года, і быць разам з сям'ёй. Таму напрыканцы чэрвеня Аляксей разам з жонкай Вольгай прыехалі ў Сінгапур, дзе з сакавіка жыве і працуе іх сын. Курс лячэння распачаўся неадкладна. Да тэрапіі Аляксей падышоў як да новага свайго праекта — з уласцівай яму цікаўнасцю, энтузіязмам і энергіяй.

На жаль, імклівы ход развіцця хваробы змяніць не ўдалося. З сярэдзіны жніўня яе хада паскорылася. Тыдзень Аляксей правёў у шпіталі. Апошнія дні яму было цяжка, але на болі, характэрныя для гэтага захворвання, ён не пакутаваў.

Да гэтага заключнага перыяду Аляксей заставаўся такім, якім мы ўсе яго ведалі, — поўным энергіі і прагі да жыцця, цікаўным журналістам, які пачынаў свой дзень з чытанняў навінаў у Беларусі і за яе межамі. Ён актыўна вывучаў сінгапурскую мадэль, параўноўваў з беларускім шляхам, працягваў пераасэнсоўваць найноўшую гісторыю.

Хвароба дала яму год насычанага, паўнавартаснага і шчаслівага жыцця, асветленага яшчэ і тым, што пасля доўгіх гадоў жыцця на розных кантынентах, уся сям'я нарэшце ўз'ядналася. Воляй лёсу дачка Ірына прыляцела з Мінску ў Сінгапур акурат у той дзень, калі бацька быў раптоўна шпіталізаваны.

У свой апошні дзень на зямлі Аляксей быў асабліва шчаслівы — ён гутарыў з намі ды ўсміхаўся сваёй прамяністай усмешкай. За вячэрай разважаў пра палітычную сітуацыю ў Бірме, цікавіўся вынікамі выбараў у парламент Сінгапура, што адбываліся ў той самы дзень, і абмяркоўваў выбарчую кампанію ў Беларусі, за якой вельмі ўважліва сачыў.

Яшчэ мы хацелі б распавесці пра тое, як жыхары краіны, з якой сам Аляксей ніяк не быў звязаны, зрабілі ягоны сыход надзвычай годным, а мы адчулі такую цеплыню, што ў гэтыя цяжкія для нас дні мы ні хвіліны не пачуліся тут чужынцамі. Момантам прыехаўшая брыгада хуткай дапамогі ўжо ў кватэры рабіла ўсё, каб выратаваць Аляксея. Яшчэ гадзіну дактары змагаліся за яго жыццё ў шпіталі, а калі яго не стала, паведамілі пра гэта з вялікім тактам, не прыспешваючы, адказаўшы на ўсе пытанні і растлумачыўшы наступныя крокі.

Калегі сына самі звязаліся з рытуальнай службай, супрацоўнік якой нябачна прысутнічаў пры правядзенні неабходных працэдур, узнікаючы як з паветра, калі трэба было нешта патлумачыць. Нідзе мы не сутыкнуліся з казённым, грэблівым альбо таропкім стаўленнем. Кіроўца кампаніі, дзе працуе Сяргей, вазіў нас па мегаполісе, а адна з калег суправаджала нас увесь дзень развітання. Рада дырэктараў замовіла свежыя белыя і чырвоныя ружы, а раніцай у панядзелак старшыня кампаніі асабіста прыйшоў выказаць сям'і свае спачуванні і застаўся, каб пераканацца, што провады прайшлі ў адпаведнасці з сінгапурскімі традыцыямі. Супрацоўнікі рытуальнай службы не толькі не спрабавалі прапанаваць больш дарагія паслугі, а, наадварот, клапаціліся пра тое, каб мы не марнавалі лішнія грошы.

У нас было дастаткова часу на развітанне, бо труна з целам бацькі знаходзілася ў рытуальнай залі, куды мы мелі круглаэутачны доступ. Мы чыталі яму артыкулы з беларускіх СМІ і размаўлялі, як падчас той апошняй вячэры дома.

Паводле мясцовага звычаю, партрэт Аляксея ў абрамленні кветак быў усталяваны на радыятары катафалка, за якім мы праехалі праз увесь горад у крэматорый, размешчаны ў ціхім кутку на беразе вадаёма, дзе пасля высакароднай цырымоніі мы развіталіся назаўжды. Вось так, краіна, дзе Сяргей жыве ўсяго паўгода і дзе ніхто з Каралей раней не бываў, стала гасцінным домам для Аляксея і дапамагла крыху зменшыць наш боль ад яго сыходу.

Аляксей заставаўся верным свaім ідэалам да канца. Апошняй кнігай, якую ён чытаў, была «Уздым Літвы» Стэфана Роуэла. Апошняй справай, якую ён зрабіў перад тым, як пажадаў нам добрай ночы, стаў прагляд абноўленай версіі сайта «Новага Часу», якая вось-вось павінна з'явіцца ў сецыве.

Ад сям'і Каралей выказваем сардэчную падзяку ўсім, хто адгукнуўся на нашу вельмі сумную вестку з далёкага Сінгапура.

**Вольга, Сяргей і Ірына**



## Кароль на экране

Калі паміраe чалавек, ягоныя фатаграфіі становяцца раптам цяжкімі, а выявы на экране лёгкімі і фантомнымі. Чалавек сыходзіць у царства ценяў, і гэты няўлоўны надлом навісае над кадрам.

У фільме «1990 гады. Палітычныя рэформы ў Беларусі», ідэю і сцэнар якога прыдумаў Аляксей Кароль, — няма сыходу. Кароль, у карціне аўтар і вядоўца, як заўжды — жывы, дакладны, пераканаўчы. Ён ахайна вылучае самае важнае, зніто ўвае падзеі, нагадвае. Ён тут.

Беларускі гісторык і грамадзянін — ён не проста летапісец, але і адказны ўдзельнік гісторыі. Я памятаю, як падчас выбараў 2001 года, калі працавалі над тэкстамі ў штабе Домаша, прапановы Аляксея Сцяпанавіча заўсёды былі трапнымі і вельмі змястоўнымі. І памятаю ўсмешку мудрага чалавека, які ведае, якія жарты любіць гісторыя.

Аляксей Кароль аб'ядноўў самых розных людзей, ён шукаў у чалавеку лепшае, выслухоўваў кожнага, ненавязліва і далікатна падтрымліваў. Ён клапаціўся, каб напоўніцу раскрыўся творчы патэнцыял чалавека — і радаваўся поспехам.

У апошняй карціне Аляксея Сцяпанавіча 90-я гады выглядаюць сном, забытай і нязд зейсненай марай пад знакам Пагоні. Як падкрэслівае аўтар, Беларусь здабыла незалежнасць, але яшчэ не здабыла дэмакратыі.

Аляксей Кароль здзяйсняў гэтую мару пра свабоду. Штодзённай руплівай працай, клопатам пра агульную справу, павагай да чалавека. Менавіта таму ён нікуды не сышоў. Ён тут, у нашых сэрцах. Царства ценяў надламілася.

**Андрэй Расінскі**

***

Цяжка пісаць пра чалавека ў мінулым часе. Размова пра тых, з кім не проста быў знаёмы, але і вёў агульныя справы. Лёс блізка звёў мяне з Аляксеем Сцяпанавічам у 2006 годзе, калі ў кожнага з нас былі нявырашаныя пытанні: Мінская гарадская арганізацыя ТБМ, якую я на той час узначальвала, стаяла перад праблемай, як у новых гаспадарчых умовах працягваць выдаваць заснаваную намі і зарэгістраваную газету «Новы Час», а рэдактар зачыненай «Згоды» быў заклапочаны далейшым лёсам рэдакцыйнай каманды. У гэтай сітуацыі мы і пазнаёміліся. Вынікам перамоў стала наша супрацоўніцтва па далейшым выданні газеты «Новы Час» журналістамі зачыненай «Згоды». Гэта для мяне назаўсёды будзе прыкладам беларускай салідарнасці ў процівагу тым меркаванням, што нам, беларусам, неўласціва дамаўляцца між сабой.

Падчас нашай супрацы былі, вядома ж, розныя моманты, але непаразуменняў і канфліктаў у нас не ўзнікала ніколі. Можа, таму розныя арганізацыйныя пытанні вырашаліся проста, што Аляксей Сцяпанавіч умеў працаваць з людзьмі дэмакратычна, ненавязліва, але пераканаўча. І, як мне здаецца, яго атачалі годныя людзі. Бо калі ты сам чалавек шчыры, то і прыцягваеш адпаведных людзей.

Нам не дадзена выбіраць ні час, ні месца нараджэння. Але мы можам самі напаўняць сваё жыццё адпаведным зместам праз свае ўчынкі і справы. Праз іх і застаемся ў людскай памяці і гісторыі.

Аляксей Сцяпанавіч Кароль застаецца для мяне прыкладам асабістай мужнасці, высакароднасці ў стасунках з людзьмі, чалавекам, які імкнуўся годна рабіць справу, за якую браўся.

**Алена Анісім**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**
Намеснік галоўнага рэдактара
**Аксана Мікалаеўна Колб**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1210

Падпісана да друку 18. 09.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.